*Наш каляндар*

# Помнік класіку беларускай літаратуры Максіму Гарэцкаму

*(Працяг. Пачатак на с.1.)*

75-годдзя з выхаду ў свет «Гісторыі беларускае літаратуры» (1920, Вільня) — першага ў Беларусі выдання такога тыпу; да 70-годдзя абрання правадзейным членам Інбелкульта, калі М.Гарэцкі ўзначаліў Слоўнікавую камісію, а затым мовазнаўчую і літаратуразнаўчую секцыі, стаў сакратаром Літаратурнай камісіі і БК, выступіў з дакладам на 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Я.Купалы, запісаў разам з кампазітарамі М.Аладавым і А.Ягоравым большасць песень ад сваёй маці Ефрасінні Міхайлаўны, якія затым выдаў асобнай кнігай пад назвай «Народныя песні з мелодыямі»; да 65-годдзя беспадстаўнага арышту па справе так званага «Саюза вызвалення Беларусі» (18 ліпеня); да 60-годдзя з дня смерці маці (4 сакавіка 1935) і свайго вызвалення з вяткаўскай турмы (25 ліпеня), пасля чаго М.Гарэцкі пераехаў у пасёлак Пясочнае Смаленскай вобласці. Больш «круглых» дат не было, бо 4 лістапада 1937 г. Гарэцкі, на жаль, быў зноў арыштаваны і 10 лютага 1938 года ва ўзросце 45 год расстраляны ў Вязьме.

Узнікае пытанне: чаму менавіта плац Волі быў абраны для помніка гэтаму славутаму мастаку і буйному вучонаму? Ёсць некалькі мясцін і будынкаў у Менску, якія цесна звязаны з памяццю Максіма Гарэцкага. Гэта перш-наперш былая вуліца Шпітальная (раён сучаснага Дома літаратара), на якой жыў пісьменнік; рабфак Беларускага універсітэта і Камуністычны універсітэт БССР, дзе М.Гарэцкі выкладаў родную мову і літаратуру (вул. Чырвонаармейская і К.Маркса); будынак Інбелкульта па былой Койданаўскай вуліцы (зараз Рэвалюцыйная) і пляц Волі. Праз гэты пляц Максім Іванавіч штодзённа хадзіў на працу ў Інбелкульт. Сімвалічна гэты пляц звязан з імем Гарэцкага тым, што значную частку свайго жыцця ён пражыў у няволі, і жаданне бачыць вольным сябе, а сваю Бацькаўшчыну незалежнай заставалася яго галоўным жаданнем.

Менавіта на пляцы Волі, паводле ўспамінаў акадэміка Алеся Вечара, Максіма Гарэцкага бачылі ў апошні раз, калі ён прыязджаў у Менск даведацца пра лёс пасланага ў выдавецтва рукапісу «Віленскіх камунараў».

«Апошняя мая сустрэча з М.Гарэцкім, — прыгадвае А.Вечар, — здаецца мне казачнай. Я жыў тады ў Менску і аднойчы спаткаўся з адным з маіх сяброў па вучобе ў акадэміі. Прайшло ўжо некалькі гадоў, як мы бачыліся. У той ясны сонечны дзень мы селі на лаўку ў садзіку на пляцы Волі і пачалі ўспамінаць пра былое жыццё ў акадэміі і пра нашых лепшых знаёмых. Нечакана мой сябар у мяне запытаў: «А ці ведаеш ты, дзе цяпер Максім Гарэцкі?» Гэтае імя выклікала ў маёй памяці вобраз майго добрага настаўніка, які вучыў мяне і многіх яшчэ іншых працаваць над роднай мовай і над словам, як важнейшымі элементамі культуры свайго народа. Гэты вобраз заслугоўваў таго, каб яго намаляваў які-небудзь вялікі мастак, у якога хапіла б таленту перадаць на партрэце пранікнёны погляд, мудрасць і духоўнае багацце гэтага чалавека. Я затрымаўся з адказам, а ў гэты момант за маёй спіной нехта гучна абазваўся: «А хто тут пытае пра Максіма Гарэцкага?» Мы азірнуліся і падняліся ад нечаканасці з лаўкі. Перад намі стаяў жывы і вясёлы Максім Іванавіч. Ён быў у недарагім шэраватым, прызначаным для дальняй дарогі касцюме і ў звычайнай рабочай кепцы. Ён не захацеў садзіцца з намі на лаўку і гаварыў з намі нядоўга, бо кудысьці спяшаўся. Калі ён пайшоў, мы абодва доўга глядзелі яму ўслед і моўчкі жадалі яму шчаслівай дарогі і ўсяго самага найлепшага...»

**І.К.**

# Даты і падзеі ў верасні

**1 верасня — Дзень ведаў.**
**Сусветны дзень міру.**

95 гадоў з дня нараджэння С.Я.Баранавых (Барана С.Я.: 1900—1942), беларускага пісьменніка.

**3 верасня — Дзень беларускага пісьменства і друку.**

**8 верасня — Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў.**

615 гадоў з дня (1380) Кулікоўскай бітвы — перамогі рускіх войскаў на чале з князем Дзмітрыем Данскім над мангола-татарскімі войскамі. У бітве ўдзельнічалі Андрэй Альгердавіч (Андрэй Полацкі) і Баброк Валынскі.

**10 верасня** — 75 гадоў з дня нараджэння Я.Гулака, чэшскага пісьменніка, перакладчыка беларускай літаратуры.

**11 верасня** — 140 гадоў з дня нараджэння Е.Р.Раманава (1855—1922), беларускага этнографа і фалькларыста, археолага.

130 гадоў з дня нараджэння Яна Райніса (1865—1929), латышскага паэта, драматурга, грамадскага дзеяча, перакладчыка беларускіх народных песень.

**12 верасня** — 50 гадоў з дня нараджэння Р.М.Семашкевіча (1945—1982), беларускага паэта і літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**17 верасня** — 135 гадоў з дня нараджэння К.Т.Лейкі (1860—1921), беларускага пісьменніка.

70 гадоў назад (1925) адбыўся 1-ы выпуск педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта — 110 спецыялістаў.

**18 верасня** — 300 гадоў назад (1695) у Магілёве выдадзена адно з першых мініяцюрных выданняў на Беларусі «Малітваслоў» (у 24°).

**19 верасня** — 85 гадоў з дня нараджэння Безлая Францэ, славенскага мовазнаўца, даследчыка беларускай мовы.

**20 верасня** — 185 гадоў з дня нараджэння П.Янкоўскага (1810—1872), польскага пісьменніка, які шмат пісаў пра Беларусь.

50 гадоў з дня адкрыцця ў Менску Літаратурнага музея Янкі Купалы.

**22 верасня** — 160 гадоў з дня нараджэння А.А.Патабні (1835—1891), украінскага і расійскага філолага-славіста.

70 гадоў з дня нараджэння А.П.Траяноўскага, беларускага журналіста і перакладчыка.

**25 верасня** — 120 гадоў з дня нараджэння С.К.Паўловіча (1875—1940), беларускага культурна-асветнага дзеяча, педагога.

**26 верасня** — 85 гадоў з дня нараджэння У.І.Агіевіча (1910—1952), беларускага крытыка і літаратуразнаўца.

70 гадоў з дня нараджэння Н.З.Кісліка, расійскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі.

**28 верасня** — 70 гадоў з дня нараджэння Б.С.Лапава (1925—1967), беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**29 верасня** — 115 гадоў з дня нараджэння С.П.Сахарава (1880—1954), беларускага этнографа, фалькларыста, педагога.

*АЛЕ!*

# Прэзідэнцкі наступ на «злачыннасць» пры правядзенні ўступных экзаменаў у ВНУ Беларусі

Я проста не чакаў такой станоўчай рэакцыі членаў экзаменацыйных камісій ВНУ і прафесарска-выкладчыкага саставу наогул на мой артыкул «Ад таго, што Прэзідэнт вырашыў сам абвясціць тэмы сачыненняў, злачынцаў менш не стане» («Народная воля», № 2). Там, між іншым, гаварылася пра наступныя магчымыя адмоўнасці, якія могуць спрабаваць прэзідэнцкія камісіі, накіраваныя на ўступныя экзамены ў ВНУ: «розныя камісары» ...карысці не прынясуць, хоць і запатрабуюць вялікіх сродкаў і часу многіх людзей, павялічаць падазронасць, напружанасць у грамадстве». На вялікі жаль, мае меркаванні спраўдзіліся. Вось прыклады (па просьбе кіраўнікоў ВНУ, дэканаў, членаў экзаменацыйных камісій не называю іх саміх, як і ўстанову, дзе атрыманы звесткі):

— Расклады ўступных экзаменаў былі зроблены да прэзідэнцкага ўмяшання. У іх не заўжды мова альбо літаратура выносіліся на першы дзень. Прычын таму многа: важкасць вучэбнай дысцыпліны для будучай спецыяльнасці (матэматыка — для будучых матэматыкаў, фізіка — для фізікаў, замежная мова — для замежнікаў, артыстычныя здольнасці — для будучых артыстаў, працаўнікоў сферы культуры і інш.); забеспячэнне раўнамернасці загрузкі выкладчыкаў-экзаменатараў, улік іх занятасці іншымі справамі; колькасць груп абітурыентаў і інш. У адпаведнасці ж са з'яўленнем 13.7.1995 г. у друку прэзідэнцкага распараджэння № 110 РП (за тры дні да пачатку экзаменаў) узніклі складанасці не толькі змены саміх раскладаў, але і забеспячэння экзаменатарамі. Забліталася іх выкарыстанне як адазваных з адпачынку. Некаторыя ВНУ не паспелі папярэдзіць абітурыентаў (напрыклад, БДУ) аб змене раскладу ўступных экзаменаў, і яны не паспелі нават прыехаць у Менск.

— Рэктараты вымушаны былі ўзмацніць «сакрэтнасць» працэсу экзаменаў. У выніку, нават праход на працу супрацоўнікаў гэтай жа ўстановы ў корпус, дзе праводзіліся экзамены, ускладніўся, выклікаў падазронасці, зневажальныя заўвагі.

— Былі выпадкі, калі прысутнасць «камісараў» на экзаменах зацягвала іх. Напрыклад, група з 21 абітурыента здавала экзамены з 9 да 18 гадзін, дзеці стаялі каля дзвярэй аўдыторыі ўвесь гэты час у напружаным стане, галодныя.

— Выкладчыкі баяліся выходзіць з аўдыторыі па аднаму і ў туалет, бо іх маглі абвінаваціць у сустрэчы за гэты час з «патрэбнымі» абітурыентамі.

— Прысутнасць на экзамене «камісара», які не меў аніякага дачынення да выкладання адпаведнага прадмета і ўвесь час штосьці запісваў для выяўлення парушэнняў, стварала напружанасць і адмоўна ўплывала і на абітурыентаў, і на экзаменатараў.

— Напалоханыя члены экзаменацыйных камісій («вашы тэлефоны могуць праслухоўвацца, за вамі могуць сачыць») выключалі свае хатнія тэлефоны, баяліся сустрэч са сваімі ж супрацоўнікамі, якія, маўляў, «могуць прасіць».

— Выбар тэм для сачыненняў выклікаў у адпаведнай часткі беларускай інтэлігенцыі немалое здзіўленне. Бо творы такіх класікаў, як Максім Гарэцкі («Дзве душы», «Рускі» і інш.), якія жыццём сваім заплацілі за служэнне Разумнаму, Добраму, Вечнаму беларускага народа, зусім не ўпаміналіся. Замест гэтага рабіўся нізкі паклон аўтару «беларускай ленініяны».

— Агульнае здзіўленне выклікае «высокая» прэзідэнцкая ўвага толькі да экзаменаў па рускай (беларускай) мове ці літаратуры. Бо якраз гэты экзамен значна лягчэйшы, чым па матэматыцы, хіміі, фізіцы, біялогіі. Чаму ж па іх змесце не зачытваліся экзаменацыйныя білеты на ўсю рэспубліку?

Сказанае не маглі не чуць і не заўважаць члены «спецыяльнай» прэзідэнцкай камісіі, «надзеленыя неабходнымі паўнамоцтвамі». Адпаведна не маглі яны ўтаіць гэтую інфармацыю ад самога Прэзідэнта. Таму, думалася, ён аператыўна папраўіць сітуацыю. Аднак такое не здарылася. Сведчаннем таму з'яўляецца перадача раніцай 23 ліпеня, зробленая па першаму каналу Беларускага тэлебачання. У ёй паведамлялася аб стварэнні камісіі для кантролю ўступных экзаменаў у г.Брэсце. У яе склад уведзены аж 50 чалавек з самога абласнога цэнтра і раёнаў. Відаць, у 2-х ВНУ гэтага горада заўважаны настолькі вялікія злачынствы, што ўзнікла пагроза падрыву асноў існавання нашага грамадства. Вядома, нічога такога там няма. Мне адносна нядаўна давялося быць у Брэсце на міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай пытанням нацыянальнай адукацыі. Сустракаўся з выкладчыкамі педагагічнага інстытута. І магу ўпэўнена сказаць, што яны заклапочаны якасцю набору студэнтаў значна больш, чым «вертыкальшчыкі». Заклапочана не для формы, а для справы. Бо іх жыццё прысвечана гэтаму.

Само сабою напрошваецца пытанне — а навошта робіцца такі вялікі шум? Ёсць падставы меркаваць, што ён патрэбен для таго, каб мець новую чарговую «перамогу» на карысць бытцам бы ўсяго народа. Выкарыстаны пры тым папулісцкі прыём дасягае сваёй мэты. Бо робіць на простых людзей неабходнае ўражанне: бачыце, як «вертыкаль» спрыяе атрыманню вышэйшай адукацыі вашымі ўнукамі, вашымі дзецьмі, братамі і сёстрамі, ствараюцца для ўсіх абітурыентаў аднолькавыя магчымасці. Далёка не кожны разумее простую ісціну: аднолькавымі тыя магчымасці не могуць быць ніколі. Таму што ў дзяцей не аднолькавыя прыродныя здольнасці, не аднолькавыя бацькі хоць бы ў сэнсе аказання дапамогі ў засваенні дзецьмі ведаў, клопату аб іх, не аднолькавыя ўмовы вучобы і інш. Аднолькавасць у гэтым сэнсе не толькі немагчымая. Яна і непатрэбная. Тая неаднолькавасць стварае ўмовы для спаборніцтва, развіцця. На ўступных экзаменах размова можа ісці толькі аб аб'ектыўнасці ацэнкі ведаў абітурыентаў. Задача гэта не простая, яе якаснае вырашэнне залежыць перш-наперш ад прафесійна-кваліфікацыйных паказчыкаў экзаменатараў, метадаў і ўмоў правядзення экзаменаў. Адзначанае фарміруецца паступова. Прэзідэнцкія камісіі ў сучасных варыянтах бяссільныя паскорыць гэты працэс. У цэлым, апроч блытаніны (а часам, і бязглуздзіцы), гэтыя камісіі нічога не далі грамадству.

У заключэнне выкажу наступнае. Аўтарытэт адукацыі ў такіх умовах жыццядзейнасці рэспублікі безупынна зніжаецца. У выніку на некаторыя спецыяльнасці ВНУ конкурсу зусім няма. Калі такі працэс працягнецца, могуць скласціся абставіны, пры якіх адпаведныя выкладчыкі вымушаныя будуць самі шукаць сабе студэнтаў. Якімі ж тады будуць уступныя экзамены для іх, які прэзідэнцкі кантроль? Ва ўсякім разе хоць Міністэрства адукацыі і навукі павінна гэта разумець! Навошта ж яно дае падставы ганьбаваць усю Беларусь! Няўжо дзеля служэння... самім сабе. Толькі ж міністэрства гэтае павінна служыць Разумнаму, Добраму, Вечнаму!

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар.**

*Права*

# *Закон і сімволіка*

Якой сімволікай могуць і якой мусяць карыстацца беларусы? Як рэгламентуе працэс ужывання сімволікі заканадаўства?

Прыняты 19 верасня 1991 года за нумарам 1086-ХІІ Закон аб дзяржаўным гербе тлумачыць: «Дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь з'яўляецца старажытны беларускі герб Пагоня». Прыняты ў той жа дзень Закон № 1090-ХІІ «Аб дзяржаўным сцягу» ў якасці яго зацверджаны бел-чырвона-белы штандар. Акрамя таго, у сталіцы дзейнічае прынятая яшчэ 5 верасня 1991 года пастанова гарадскога Савета № 166, якая зацвярджае бел-чырвона-белы сцяг і Пагоню ў якасці нацыянальных сімвалаў.

Але, нягледзячы на тое, што гэтыя нарматыўныя акты дагэтуль захоўваюць сваю моц, паўсюдна ў краіне ўжываецца новая, прынятая рашэннем травеньскага рэферэндуму дзяржаўная сімволіка. Гэткі стан рэчаў склаўся ў выніку недасканаласці дзеючага Закона аб рэферэндуме, які не прадугледжвае працэдуры скасавання старой дзяржаўнай сімволікі і замены яе новай. **Гэты ж закон НЕ прадугледжвае пераходу скасаванай у выніку рэферэндуму сімволікі ў разрад забароненай ці незарэгістраванай.**

Што такое незарэгістраваная сімволіка? Гэтага паняцця датычыць артыкул $167^2$ Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, згодна з ім, карыстанне ў грамадскіх месцах сцягамі і вымпеламі, не зарэгістраванымі ў вызначаным парадку, а таксама выраб, распаўсюджванне і нашэнне плакатаў, эмблем і сімвалаў, сэнс якіх скіраваны на прычыненне страт грамадскаму і дзяржаўнаму ладу, правам і законным інтарэсам грамадзян, караецца штрафам у памеры ад 5 да 10 мінімальных заробкаў.

Тое, што рэферэндум згодна з законам ёсць непасрэдны выказ волі народа і яго вынікі маюць перавагу над актамі, прынятымі заканадаўчай уладай, дае ўладам падставы лічыць Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг страціўшымі свой статус дзяржаўных ды нідзе і нікім незарэгістраванымі. Гэта ставіць тых, хто імі карыстаецца, у шэраг парушальнікаў закона, бо ў дзяржаўных прававых актах паняцце нацыянальнай сімволікі не выкарыстоўваецца.

Цяпер — аб сімволіцы зарэгістраванай і не. Акрамя дзяржаўнай сімволікі, зарэгістраванай можа быць любая іншая, якой карыстаюцца грамадскія арганізацыі, спартыўныя клубы, фірмы і іншыя арганізацыі. Рэгістрацыя сімволікі адбываецца ў месцы рэгістрацыі арганізацыі — выканаўчым камітэце раённага Савета і раённым аддзеле ўнутраных спраў, а ў выпадку грамадскіх аб'яднанняў — у Міністэрстве юстыцыі. Вызначаных законам крытэрыяў, якімі маглі б карыстацца мясцовыя ўлады ці міністэрства, зацвярджаючы тую ці іншую сімволіку, не існуе, таму зацвярджэнне прапанаванай кімсьці сімволікі ці адмаўленне ў ім залежыць выключна ад густу мясцовых чыноўнікаў. Грамадзянін Беларусі, які стварыў бы ўласны марскі флот, у якасці яго сцяга рэальна мог бы зарэгістраваць чорны штандар з белымі чэрапам і косткамі — фармальных забаронаў ён бы не сустрэў. Гэтак жа сама не нармуецца выкарыстанне арганізацыямі і фірмамі сімволікі іншых дзяржаў — пэўна, з гэтай прычыны фінансавае таварыства «Славянскае» ўпрыгожыла сваю шыльду расійскім двухгаловым арлом, а сталічны завод «Электроніка» размалёўвае шыльды сваіх гадзіннікаў колерамі сцягу тае ж Расіі. Пагоня ж павандравала на Захад, упрыгожыўшы сабою бутэлькі з нямецкім півам «Холстайн», што, пэўна, дае падставы да выкарыстання гэтага герба сябрамі Партыі аматараў піва.

Іншым жа асобам, якія жадаюць карыстацца ёю і бел-чырвона-белым сцягам, варта ведаць: **закон НЕ забараняе ўжывання прыватнымі асобамі сімволікі іншых дзяржаў**, існуючых ці не існуючых, напрыклад, БНР. Тэарэтычна для яго ахоўнікаў няма розніцы, трымаеце вы ў руках сцяг і герб Уганды ці Беларускай Народнай Рэспублікі. Але на практыцы карыстанне апошнімі, асабліва на грамадскіх акцыях, можа выклікаць у прадстаўнікоў улад асацыяцыі зусім не гістарычныя, у выніку чаго да вас могуць быць ужытыя санкцыі, прадугледжаныя артыкулам $167^2$ Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

*(Заканчэнне будзе.)*

**Падрыхтаваў У.П.**

# МАКСІМ ТАНК

*У беларускай літаратуры тры вялікія Максімы — Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Максім Танк. Апошні — наш сучаснік. Ягонае імя сёння вядомае не толькі беларускаму чытачу. Гэта паэт сусветнага сумеру. Паэт, які стаіць поруч з тымі, хто праславіў нашу літаратуру.*

*Яшчэ ў 1931 годзе ў Заходняй Беларусі паэт пісаў:*

*Калі няма на свеце маёй мовы,*
*Майго народа і мяне самога, —*
*Дык для каго будуеце, панове,*
*Канцлагеры, катоўні і астрогі?*

*Ці не за падобныя рэчы яго арыштавала польская ўлада? Наклад першага зборніка паэта «На этапах» (Вільня, 1936) быў канфіскаваны. Сёння не так важна — якую тады палітычную пазіцыю займаў Максім Танк. У той сітуацыі ён заставаўся беларусам, і гэта галоўнае. Ягоныя творы «Родная мова», «Люцыян Таполя», «Песня кулікоў», «Раманс», «Рукі маці»... сталі класікай. Сённяшняму чытачу Максім Танк вядомы як майстар верлібра. Яго вершы вызначаюцца глыбокай філасафічнасцю і лірызмам.*

*1994 год. Зборнік вершаў «Мой каўчэг». Паэт перадае сумны вобраз Беларусі:*

*Цябе параўноўвалі*
*З лістам кляновым,*
*З шыпшынавай кветкай*
*Агнёва-барвовай,*
*А мне ты здаешся*
*Ад ран агнявых*
*Гарачым — усплескам*
*Ахвярнай крыві.*

*Хто ведае, можа прыйдуць лепшыя часы. Імя ж непаўторнага лірыка — Максіма Танка і ягоную паэзію памятае беларуская нацыя.*

# Паэты не паміраюць...



83 гады — нібыта і немалы век чалавечы. Разумею, бо і сам ужо адчуваю, што ў такім узросце ідзе пэўная псіхалагічная падрыхтоўка і самога чалавека, і блізкіх яго да трагічнага фіналу. Аднак смерць не можа быць чаканай. Смерць заўжды нечаканая. Вестка, што не стала Максіма Танка, ашаламіла мяне. Удумайцеся: не стала Максіма Танка! І адразу адчуеце вялікую пустату. У літаратуры, у культурным, у грамадскім жыцці, увогуле ў жыцці. Няма Максіма Танка! Божа мой, якая пустэча! І які незвычайны боль — не толькі ад страты даўняга сябра, блізкага чалавека, мудрага чалавека, Паэта, Грамадзяніна. Нехта даўно яшчэ сказаў: адыход любога чалавека ў іншы свет збядняе не толькі сям'ю, блізкіх, ён збядняе народ, чалавецтва. Адыход ад нас такога Нацыянальнага Паэта, якім быў Максім Танк усе 65 гадоў сваёй актыўнай рэвалюцыйнай творчасці, сапраўды збядніў няшчасны наш народ. Плачце, беларусы! Вы развітваецеся і са сваім лепшым Паэтам, і з цэлай эпохай сваёй нацыянальнай літаратуры — лепшай эпохай, самай плённай, што б там ні казалі магільшчыкі гэтай эпохі. Менавіта Максім Танк разам з Коласам, Крапівой, Броўкам, Куляшовым, Панчанкам, Лыньковым, Мележам вывелі беларускую літаратуру, нашу слаўную, сапраўды народную паэзію не толькі на ўсесаюзную літаратурную арэну, але і да сусветнага чытача. Паэзія Максіма Танка хвалявала прагрэсіўных людзей у Расіі, Польшчы, у Кітаі, В'етнаме, на Кубе, у Францыі, Чэхіі, Славакіі, Балгарыі гэтак жа горача, як і ў нас у Беларусі, заражала духам сацыяльнай бадзёрасці. Гэта была паэзія-заклік, паэзія-змагар, паэзія-роздум, паэзія-праўда, паэзія-вера — у народ, у яго сілу і моц, у яго адвечнае імкненне да шчасця.

Яўген Іванавіч Скурко, узяўшы сабе гучны псеўданім Максім Танк, прыйшоў у літаратуру ў маладыя гады, і набатам загучаў яго голас рэвалюцыянера, камуніста на паднявольнай зямлі былой Заходняй Беларусі. І трэба сказаць сёння: да гонару Яўгена Іванавіча, ён да канца свайго жыцця застаўся верным тым ідэям, з якімі прыйшоў у літаратуру. Не здрадзіў перакананням сваёй маладосці і старасці. Але разам з тым рэалістычна цвяроза і мудра ацэньваў усё, высокае і пачварнае, што было ў нашай гісторыі, у жыцці, у мастацтве, культуры.

У апошнія гады, пенсіянерамі, мы часцей званілі адзін аднаму, чым сустракаліся, хоць я наведваў Яўгена Іванавіча і ў бальніцы, і дома. Доўгімі былі нашы тэлефонныя размовы, нашы сустрэчы. І кожны раз мяне захапляла яснасць яго розуму, надзвычайная памяць і вельмі цвярозы погляд на ўсё, што адбывалася ў палітыцы, эканоміцы, літаратуры, у жыцці народа. Здзіўляла, што ў свае 80 і больш гадоў Яўген Іванавіч так многа чытаў. Чытаў усё: беларускія газеты і часопісы, расійскія, польскія. Дасведчанасць меў фенаменальную. Уражвала, што пры невылечных хваробах сваіх ён заставаўся аптымістам. Песімізм у яго разважаннях я адчуў пасля смерці Любові Андрэеўны. Я наведаў яго дома і ўпершыню пачуў: «А знаеш, Іване, я ўжо часта думаю: хутчэй бы!..» Мне перааняло дыханне, душылі слёзы. Нялёгка было не выдаць іх.

«Не здавайся, Максіме, дружа! Трымайся!» Не, відаць, жыццё страціла сэнс са смерцю дачкі, жонкі, з развалам жыцця, з наступленнем галечы нават на такога Паэта, ветэрана вайны, якому народ і ўрад павінны былі стварыць найлепшыя ўмовы.

Сумна, дарагі Яўген Іванавіч, вельмі сумна праводзячы цябе ў незваротную дарогу, казаць горкія словы аб зямным жыцці. Суцяшае хіба адно — што Паэзія не памірае, як і тварэц яе — Народ. І Паэты не паміраюць, пакуль будуць жыць іх палымяныя шчырыя радкі. Твае будуць жыць! Мы, жывыя, будзем старацца, каб новае пакаленне чытачоў мела твае кнігі!

Бывай, дружа! Няхай пухам табе будзе родная зямля!

**Іван ШАМЯКІН.**

# Зварот да грамадзян Беларусі

***Дарагія людзі!***

Ганебны, навязаны народу рэферэндум, інспіраваны вялікадзяржаўнымі, імперскімі сіламі Расіі, праведзены яго ініцыятарамі ў парушэнне адпаведных законаў і палажэнняў дзейснай Канстытуцыі, паставіў пад смяротную пагрозу лёс беларускай мовы — бясцэннага скарбу нашага народа, усёй славянскай сусветнай культуры.

Адчуваючы падтрымку прэзідэнцкага кіраўніцтва, пры патуранні Міністэрства адукацыі і навукі, шавіністычна, па-русіфікатарску настроеныя дырэктары і настаўнікі ў шмат якіх школах, не толькі сабатуюць утварэнне беларускіх першых класаў, але і падбухторваюць бацькоў, каб тыя яшчэ раз «выказалі сваё волевыяўленне» ды змянілі мову навучання сваіх дзяцей, якія ўжо некалькі гадоў вучацца па-беларуску. Фактычна поўным ходам вядзецца праца па расфармаванні беларускамоўных класаў. Гэткі ж працэс назіраецца і ў дзіцячых садках. У многіх беларускіх (паводле статуса) школах, парушаючы нават фармальную роўнасць моваў, утвараюцца рускамоўныя першыя класы, хоць у тым жа Менску амаль палова школ — рускамоўныя. Такім чынам разбураецца беларускае школьніцтва, нішчыцца перспектыва стварэння сістэмы нацыянальнай адукацыі краіны.

З мэтай згортвання нацыянальна-патрыятычнага выхавання вучняў пераглядаюцца школьныя праграмы і падручнікі, у тым ліку толькі што створаныя кампетэнтнымі навукоўцамі па гісторыі нашай Айчыны — на беларускі народ зноў імкнуцца надзець ярмо каланіялізму, зноў хочуць пасеяць у душах беларусаў семя рабскай псіхалогіі.

Тыя сілы, што так моцна крычаць пра славянскую еднасць ды братэрства, на самай справе прыкладаюць усе намаганні, каб знішчыць мову, культуру, духоўнасць сапраўды братняга для ўсіх славян (і не толькі славян) беларускага народа.

Марная справа звяртацца па справядлівасць да сённяшніх кіраўнікоў дзяржавы, якія ў сваёй варожасці да найважнейшых каштоўнасцяў народа — незалежнасці, мовы, гістарычных сімвалаў, дэмакратыі — пайшлі на злачынства, правёўшы яго праз ганьбу самагубнага рэферэндуму.

Прэзідэнт і ягоныя памагатыя-палітрукі, верхаводзячы ў сістэме нацыянальнай адукацыі, занятыя цяпер (на смех усяму свету) то прыдумваннем адыёзных тэм сачыненняў ці неверагоднай складанасці беларускіх дыктовак для абітурыентаў ВНУ; то пераробкай на свой капыл беларускай гісторыі; то ўвядзеннем ў ВНУ «вертыкальна»-паліцэйскага рэжыму ўступных экзаменаў.

Марна было б ушчуваць і тых, хто, жывучы на нашай зямлі, карыстаючыся гасціннасцю і цярплівасцю яе народа, ненавідзіць усё беларускае, марыць пра аднаўленне былой імперыі, хто сёння з шалёным імпэтам здзяйсняе ў Беларусі выпрабаваны стагоддзямі імперскі прынцып: «што не змог зрабіць рускі штык, даробіць руская школа». З такімі ў дэмакратычных краінах гавораць мовай закона пракуратура і суд.

Але ў Беларусі ўсталявалася ўлада беззаконня. Таму толькі няўхільнае выкананне Канстытуцыі, у якой беларуская мова зацверджана як адзіная дзяржаўная мова; свядомае супрацьдзеянне спробам знішчэння нацыянальнай школы і культуры дазволяць перамагчы антыдзяржаўныя, антыбеларускія сілы.

Мы звяртаемся да тых бацькоў-беларусаў, чые дзеці сёлета пойдуць у першы клас ці прадоўжаць сваю вучобу ў наступных беларускіх класах. Шаноўныя бацькі! Аддавайце дзетак у беларускія класы. Захавайце паўсюль тыя класы, што ўжо існуюць. Не пазбаўляйце сваіх дзяцей будучыні — не адрывайце іх ад родных каранёў. Не дайце сфармавацца ў іх душах здраднай пагардзе да роднай мовы, культуры, гісторыі. Сёння Вы ў іх адымеце родную мову, як некалі яе адабралі ў Вас, а заўтра гэта абернецца здрадаю вашых дзяцей не толькі Айчыне, але і вам самім. Маці, Бацькаўшчыну, родную мову не выбіраюць. Яны нам дадзены прыродай і гісторыяй. Наш ганаровы абавязак іх любіць, шанаваць, берагчы і абараняць.

Мы звяртаемся да нашых суграмадзян, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў: рускіх і палякаў, украінцаў і татараў, яўрэяў, літоўцаў і іншых. Толькі незалежная, дэмакратычная, заможная, з квітнеючай культурай і моцнай нацыянальнай адукацыяй Беларусь гарантуе развіццё на нашай агульнай Радзіме і вашых культур і нацыянальных школ. Дык падтрымайце ж сёння беларускую мову, найперш вучачы сваіх дзетак па-беларуску, дапамажыце ёй у гэты няпросты час.

Мы звяртаемся да беларускай творчай і навуковай інтэлігенцыі. Узвысце на поўную моц свой голас, скажыце сваё рашучае, важкае слова ў абарону самага святога, што ёсць сёння ў нас, — матчынай мовы.

Дарагія суайчыннікі! Мы перакананыя, што сённяшняя змрочная часіна міне. Беларусь скіне з сябе чорную навалу і ачмурэнне, каб назаўжды сцвердзіць сваю мову і культуру, верне праўдзівую гісторыю і свае святыя сімвалы — зойме, як прарочыў наш геніяльны паэт, «свой пачэсны пасад між народамі». Мы цвёрда верым: будучыня нашай Бацькаўшчыны — светлая. Дык жа будзьма вартымі гэтай будучыні, наблізім яе.

***Жыве Беларусь!***
***Жыве беларуская мова!***

**Грамадскі Каардынацыйны камітэт абароны беларускай мовы.**
**Менск. 10 жніўня 1995 г.**

# Вялікі Беларус

Пакінуў нас яшчэ адзін Вялікі Беларус — не стала Максіма Танка. Сціскаецца сэрца, сум ахоплівае душу, калі падумаеш, што больш ужо ніколі не ўбачыш гэтага прыгожага чалавека, не пачуеш яго ўзнёслага слова, не пасмяешся з яго раптоўнага жарту, не падзівішся такім трапным вершаваным імправізацыям, не адчуеш цудоўнай чалавечай цеплыні і добразычлівасці, якія шырокім біяполем заўсёды ішлі ад яго магутнай постаці. Смуткуе кожны сумленны беларус, плача ўся краіна, бо смерць Максіма Танка — нацыянальная жалоба. Сапраўдны нацыянальны беларускі паэт, гонар не толькі былой савецкай, але і сусветнай літаратуры, ён уабраў у сябе ўсе подыхі зямлі беларускай, увесь свет бліскавіц, блакіт неба і азёр нарачанскіх. Ён ніколі не здрадзіў Беларусі, яе народу, найбольш міламу яго сэрцу нарачанскаму краю, сваёй роднай Пількаўшчыне, з якой зусім нядаўна прыязджаў развітвацца і дзе завяшчаў пахаваць сябе — каб навечна зліцца з гэтай святой зямелькай і спачыць побач з магілай матулі.

Паэт вялікай філасофскай думкі, Максім Танк не раз уздымаў яскравы роздум пра адвечныя агульначалавечыя праблемы. Адначасова з-пад яго пяра выходзілі пяшчотныя лірычныя вершы. Разнастайнасць тэматыкі яго твораў здзіўляе — усё, што тычылася чалавецтва, асабліва яго Бацькаўшчыны, цікавіла паэта. Дабро і зло, любоў і нянавісць, мір і вайна, чалавек і прырода, зямля і космас, мінулае, сучаснае і будучае — усё знайшло месца ў творах паэта.

Максім Танк як выдатны майстар прыгожага пісьменства і чалавек энцыклапедычных ведаў быў абраны правадзейным членам Акадэміі навук Беларусі, у якой ён прабыў больш за 20 гадоў. Ён нячаста выступаў на агульных сходах акадэміі, але адна яго прысутнасць рабіла гэтыя сходы больш урачыстымі, больш паспяховымі.

Многа цяжкасцей перанёс паэт у сваім жыцці: нялёгкае сялянскае дзяцінства, падпольная дзейнасць, Лукішская турма, ваеннае ліхалецце, смерць родных і блізкіх... Але аптымізм не пакідаў яго, і ён верыў у лепшае жыццё народа і краіны і як мог змагаўся за гэта.

Хаця і быў пісьменнік аблашчаны савецкай уладай, атрымаўшы многія ўзнагароды, прэміі, пасады, што, безумоўна, радавала і падтрымлівала сілы, але ён бачыў недахопы тых часоў і вельмі перажываў за бясконцыя хібы таталітарызму. Асабліва балела сэрца за стан мовы, культуры, беларускасці. Горка перажываў занядад гаспадаркі, вёскі, адчуваў у гэтым агульную нашу віну і ў тым ліку і сваю асабістую.

*Апусцелі хаты*
*І ў маёй Пількаўшчыне.*
*На ўсю вёску —*
*адна калыска,*
*Якую калыша*
*Транзістарная калыханка.*
*................................*
*Ды і я тут — не без віны.*
*Калісьці першы*
*Падаўся быў у свет*
*За зманлівай славай.*

Ён ніколі не жаліўся на здароўе, але вялікія сінякі і прыпухласці пад вачыма выдавалі хваробу. Жывучы ў адным доме, я часта бачыў Максіма Танка, які нетаропка ішоў у магазін ці проста на прагулку. Яго стомленая, але яшчэ стромкая і магутная фігура, звяртала на сябе ўвагу. Ён ішоў задумлівы, мудры і здавалася, што вось зараз у яго думках нараджаецца новы вобраз, новы верш.

Вельмі сумленны і добразычлівы, Максім Танк абуджаў у людзей надзвычайны давер. Так, Паўліна Мядзёлка напрыканцы свайго жыцця, пакідаючы Менск, аддала два сшыткі сваіх успамінаў маёй маці — Ларысе Гарэцкай з наказам перадаць іх праз 25 гадоў пасля яе смерці менавіта Максіму Танку, бо верыла, што ён лепш за ўсіх ведае, як з імі трэба будзе абысціся. Прайшло 20 гадоў, і маці зразумела, што ёй ужо пара паклапаціцца пра сшыткі. Яна напісала і пазваніла Яўгену Іванавічу. Ён зайшоў да нас. Мы доўга гаманілі, старэйшыя ўспаміналі мінулае. Паэт пакінуў кнігу «Лірыка» з надпісам: «Глыбокапаважанай Ларысе Іосіфаўне Гарэцкай. Ад усяго сэрца. Мінск, 17.03.1990». Праз тры гады ўспаміны П.Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця» былі надрукаваны ў часопісе «Полымя» з вельмі добрым змястоўным уступам Уладзіміра Калесніка.

Максім Танк любіў вандраваць і быў вельмі лёгкі на пад'ём. Аднойчы пазваніў мне Ніл Гілевіч і запрасіў прыняць удзел ў паездцы, якую ён і В.А.Лашковіч арганізавалі на керамічную фабрыку ў Радашковічы. Сабралася нас чалавек сем. Вельмі хацелі запрасіць і Максіма Танка, але сумняваліся, ці паедзе — слаба сябе адчувае і жонка хворая. Пазванілі — і ён адразу згадзіўся. Сустракаліся з працаўнікамі фабрыкі, жыхарамі пасёлка, аглядалі фабрычны музей керамікі. Адбылася вельмі добрая сардэчная сустрэча. Як пажартаваў Яўген Іванавіч: «Вось і аднавілі дні навукі і культуры». Дарэчы, тады прагучала з вуснаў Максіма Танка яго «Балада пра гліну».

*Якая дзіўная*
*На нашай Мядзельшчыне*
*Гліна!*
*Ганчары з яе калісьці*
*Такія цуды выраблялі,*
*Што нават*
*Ад купцоў замежных*
*Не было адбою*
*................................*
*А зрабіў свісцёлку —*
*Сама грае,*
*Змудрагеліў пеўніка —*
*Ён кукарэканнем сваім*
*І мёртвага разбудзіць.*
*Таму не верце,*
*Што там з некай*
*Месапатамскай гліны*
*Усемагутны*
*Вылепіў Адама.*
*Ён вылепіў яго,*
*Калі разводдзем веснім,*
*Гразнучы*
*Аж па калені,*
*Ішоў з сяўнёй*
*Па Мядзельшчыне нашай.*

На 80-годдзе ўвесь дзень цягнуліся да Максіма Танка ў хату невялічкімі групамі людзі, каб пабачыць, пагаманіць, павіншаваць і пажадаць усяго добрага. Ён быў вясёлы, трошку адпіваў з чаркі. Аптымізм зноў не пакідаў яго, але сум быў у вачах: разумеў, што не так многа засталося ў яго дзён, ды і тых з хваробай, хваляваўся за будучыню Беларусі. Побач былі дзеці, была верная сяброўка і жонка Любоў Андрэеўна, таксама вельмі слабая. Потым не стала і Любові Андрэеўны...

У апошні час Вялікі Беларус асабліва трывожыўся за лёс Бацькаўшчыны, у сувязі з тымі падзеямі, якія прывялі да ганебнага рэферэндуму («якое дзікунства!») і іншых з'яў антыбеларушчыны ў грамадскім жыцці. Ён марыў пра незалежную дзяржаву — Беларусь, пра заможнае шчаслівае жыццё роднага народа. Больш страшнага, больш жудаснага для яго нічога не было, як згуба Беларусі.

*Пасля бясконцых*
*Несправядлівых*
*І справядлівых войн,*
*Пасля пякельных*
*Курапат,*
*Хатыняў,*
*Трасцянцоў,*
*Апакаліптычнай*
*Чарнобыльскай гекатомбы*
*Часамі баюся ў рукі браць*
*І геаграфічны атлас,*
*Каб не ўбачыць*
*На зямной паверхні*
*Замест святых імён*
*Рэк,*
*Ніў,*
*Лясоў і сёл*
*Маёй радзімы*
*Кароткі надпіс*
*«Калісьці*
*Тут Беларусь была.*

Вершы і думкі паэта, яго запаветы і мары застануцца навечна з Беларуссю, таму што гэта яго любы край, «дзе нават і памёршыя жывуць».

*Ты знаеш край, зачараваны край,*
*Дзе ў салаўіных песнях — кожны гай;*
*Дзе вабіць сэрца неабсяжнасць ніў,*
*Дзе зззяе хваль азёрных пераліў;*
*Дзе зоры над курганамі мігцяць,*
*Дзе ўдалячынь вядуць шляхі жыцця;*
*Дзе ў кожнай хаце ты — жаданы, свой,*
*Дзе некалі мы стрэліся з табой;*
*Дзе вечна птушкі свае гнёзды ўюць,*
*Дзе нават і памёршыя жывуць.*

**Акадэмік Радзім ГАРЭЦКІ.**

# Старажытны Тураў у X–XIII стст.

*«...Рогволод перешел из заморья имяше волость свою Полотьске, а Тур Турове от него же и Туровци прозвашася».*
***(Лаўрэнцеўскі летапіс.)***

Тураў — адзін з старажытных гарадоў Усходняй Еўропы. Калі першае ўпамінанне пра Полацк адносіцца да 862 г., то Тураў згаданы ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 980 годам.

З самага пачатку свайго існавання Тураў быў племянным цэнтрам аднаго з буйнейшых усходнеславянскіх плямёнаў на тэрыторыі Беларусі — дрыгавічоў, якія ў другой палове I тысячагоддзя новай эры рассяліліся ў басейне р.Прыпяці і, з цягам часу, на поўнач, захад і ўсход. Такім чынам яшчэ задоўга да дзяржаўнага ўтварэння — Тураўскага княства з цэнтрам у Тураве — у гэтым краі ўтваралася племяннное аб'яднанне дрыгавічоў з тым жа цэнтрам. Няма дакладных звестак, каб гаварыць пра час гэтага ўтварэння. Адно несумненна, што на працягу ўсёй гісторыі гэтага племені Тураў заставаўся адміністратыўным, эканамічным і культурным цэнтрам дрыгавічоў. Такую важную ролю горад адыгрываў дзякуючы свайму надзвычай выгаднаму геаграфічнаму палажэнню і размяшчэнню ў цэнтры рассялення дрыгавічоў. Па назве галоўнага горада атрымала свае імя ўся зямля і палітычнае дзяржаўнае аб'яднанне. Тураўскае княства ў XII ст. было абмежавана на поўдні прыкладна сучаснай мяжой паміж Украінай і Рэспублікай Беларусь, на поўначы яго граніца праходзіла паўднёвей Барысава, Менска, Заслаўя. На паўночны ўсход ад Рагачова яна ішла па мяжы са Смаленскай зямлёй, па Дняпры. На захадзе па правабярэжжы Буга, уключаючы гарады Бярэсце і Драгічын. Апрача згаданых гарадоў, у склад Тураўскай зямлі ўваходзілі Слуцк, Клецк, Пінск, Давыд-Гарадок, Рагачоў, Чартарыйск, Дубровіца.

Яшчэ ў XIX ст. Тураў і яго зямля прывабілі вучоных, але пісьмовых крыніц было яўна недастаткова для поўнага і ўсебаковага аднаўлення гісторыі, звязанай з Туравам і яго зямлёй. З пачатку 60-х гадоў XX ст. пачалося археалагічнае вывучэнне старажытнага Турава. У 1961 годзе раскопкі вяліся пад кіраўніцтвам маскоўскага археолага і гісторыка В.В.Сядова, у 1962—1963, 1968, 1992—1993 гг. яны былі прадоўжаны пад кіраўніцтвам П.Ф.Лысенкі (Інстытут гісторыі АН Беларусі). Калі па пісьмовых крыніцах можна было аднавіць у асноўным палітычную гісторыю, то на падставе археалагічных дадзеных было адноўлена эканамічнае і куль-турнае жыццё горада.

Старажытны Тураў знаходзіўся паміж Прыпяццю і рэчкай Яздай, якая абвівала старажытнае гарадзішча і навакольны горад і з усходняга боку ўпадала ў р.Струмень. Па Ясяльдзе і Піне горад быў звязаны з Заходнім Бугам. Па Гарыні і Убарці ішлі водныя шляхі на Поўдзень. Па Прыпяці Тураў быў звязаны з Дняпроўскім водным шляхам «з варag у грэкі». Выгаднае геаграфічнае палажэнне, умелае праўленне князёў рабіла Тураўскае княства моцным і квітнеючым. Нягледзячы на тое, што тураўскі стол па традыцыі, пачынаючы з 988 г. належаў трэцяму па ўзросту сыну кіеўскага князя і адначасова тураўскі князь мог быць разам і кіеўскім князем, але кіеўскія князі імкнуліся пашырыць свае правы на Тураўскую

*(Заканчэнне на с.5.)*



Старажытны Тураў. Рэканструкцыя П.Ф.Лысенкі. Мастак Я.Каробушкін.

***АКТУАЛЬНА!***

# Беларускі друк трэба

***На гэта пытанне спрабуюць адказаць журналіст Алесь МІКАЛАЙЧАНКА і кіраўнік групы вывучэння СМІ Інстытута праблем культуры Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, кандыдат філасофскіх навук Вячаслаў КАЧАРГІН. Яны сустрэліся, каб абмеркаваць сітуацыю, што склалася ў беларускамоўным друку.***

## ГАЛОЎНАЕ Ў АДРАДЖЭННІ ДРУКАВАНАГА СЛОВА — ТАЛЕНТ!

**А. М.**: Шаноўны Вячаслаў Якаўлевіч, мяркую, Вы нічога не маеце супраць аксіёмы: поспех любога перыядычнага выдання залежыць ад узроўню самафінансавання.

**В. К.**: Мне здаецца, поспех і беларускамоўнай, і рускамоўнай прэсы найперш абумоўлены прафесіяналізмам журналістаў і тых пісьменнікаў, якія працуюць у журналістыцы. Што ж тычыцца поспеху эканамічнага, тут аднаго заваяванага нейкім выданнем аўтарытэту сярод насельніцтва малавата. Кожная газета павінна мець сваю камерцыйную службу, плённа займацца прадпрымальніцтвам. Але зразумела адно: без гэтага аўтарытэту, без высокага тыражу не будзе і аператыўнага поля дзейнасці камерцыйным газетным службам. Акрамя таго, трэба мець на ўвазе ланцужок узаемасувязі: Таленавіты журналіст з дэмакратычным Законам аб друку. Журналіст і Закон у сваю чаргу — з зычлівай да сродкаў масавай інфармацыі Дзяржавай. Калі ёсць у адным комплексе ўсе гэтыя складальнікі — Журналіст, Закон і Дзяржава, — то прэса абавязкова зойме сваё становішча чацвёртай улады і ніколі не стане абузай на плячах народа...

**А. М.**: Многія дэмакратычна настроеныя палітыкі, гаворачы пра свабоду прэсы і электронных СМІ, забываюцца на тое, што ідэал (абсалютная свабода СМІ), калі ён не пацверджаны штодзённай практыкай дачыненняў газет, часопісаў, тэлерадыёвяшчання, інфармацыйных агенцтваў з дзяржавай, так і застаецца ідэалам. Прывабным, але недасягальным. З дзяржавай, якая крэўна зацікаўлена ў тым, як яе, дзяржаву, «падаюць» насельніцтву СМІ; з дзяржавай, якая можа знайсці тысячу прычын, каб гэтая «падача» вялася ў пажаданым для дзяржавы ключы, нам, журналістам, трэба кантактаваць, працаваць, нарэшце, весці пастаянны дыялог пра ролю і месца ў дзяржаўным і грамадскім будаўніцтве журналістыкі. Грунт для такіх перамоў ёсць: міжнародныя нарматыўныя акты, падпісаныя Рэспублікай Беларусь, аб праве чалавека атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю і распаўсюджваць яе, у тым ліку і з дапамогай СМІ. Дзяржава, на мой погляд, павінна выкрышталізаваць свой інтарэс да сродкаў масавай інфармацыі, каб яны служылі не палітыкам, якія кіруюць сёння ці апынуцца пры ўладзе заўтра. На мой погляд, у дзяржавы да нас, журналістаў, павінна быць некалькі патрабаванняў. Першае. Мы павінны дапамагчы дзяржаве будаваць цывілізаваную эканоміку. Другое. Мы павінны дапамагчы дзяржаве будаваць нацыянальную культуру з высокім патэнцыялам духоўнасці. Трэцяе. Мы павінны дапамагчы дзяржаве збудаваць здаровае грамадства, якое мела б з дзяржавай самы цесны кантакт і дазваляла б дзяржаве гэта грамадства пастаянна ўдасканальваць і прыстасоўваць да любых умоў існавання ў навакольным Сусвеце.

На вялікі жаль, сённяшняя дзяржава не заўсёды разумее і свой інтарэс да сродкаў масавай інфармацыі, і сваю ролю ў жыццядзейнасці СМІ...

**В. К.**: Вы, Алесь, трохі адхіліліся ад галоўнай тэмы размовы, хаця тое, што Вы сказалі, — вельмі нават не лішняе ў нашай гутарцы. Давайце вернемся да таго, з чаго пачалі гаворку, — да праблемы прафесіяналізму журналістыкі як залогу паспяховай дзейнасці беларускай прэсы. Скажыце, калі ласка, што, на Ваш погляд, абумоўлівае такі поспех? Можа, талент? Але якім чынам ён, талент, павінен быць скарыстаны ў штодзённай практыцы газет і часопісаў?

**А. М.**: Ну, схема гэткага скарыстання таленту, на мой погляд, «зацверджаная» шматвяковай практыкай існавання прэсы: цікавая газета (часопіс, бюлетэнь) — заваяванне чытацкага «электарату» і пад'ём агульнага тыражу — эканамічны поспех (магутны «наплыў» рэкламных заказаў, развіццё выдавецкай справы і да т. п.). Чым, напрыклад, абгрунтаваны поспех, у тым ліку і эканамічны, апазіцыйнай газеты «Свабода», якую рэгулярна чытае нават сам Прэзідэнт? Гэта пытанне за «круглым сталом» секцыі СМІ на сёлетнім Кангрэсе прагрэсіўных сіл Беларусі журналісты задавалі галоўнаму рэдактару выдання Ігару Германчуку. Бо тыраж беларускамоўнага выдання ў 93 тысячы асобнікаў — сур'ёзная нагода для размовы. Што ж калегі пачулі ў адказ? А тое, што было ўсім даўно і так зразумела: «Свабода» друкуе на сваіх старонках толькі тую інфармацыю, якая нідзе не публікавалася дасюль. Тут на 99 працэнтаў інфармацыя арыгінальная. «Аўтэнтычная», так бы мовіць. І пэўная чытацкая аўдыторыя, што любіць «альтэрнатыўную» незашмальцаваную інфармацыю, звычайна шукае яе ў «Свабодзе». Таму «Свабоду» трывае і наш паважаны Прэзідэнт. Яму ж неабходна ведаць меркаванне апазіцыі, каб гэта меркаванне ўлічваць у сваёй дзейнасці або не ўлічваць... Газета, заўважу, выдаецца на «тарашкевіцы», а не на сучаснай літаратурнай унармаванай мове, што мне асабіста вельмі не падабаецца (дай, Божа, адрадзіць літаратурна ўнармаванае роднае слова!). Але талент, як высвятляецца, заўсёды мацнейшы за любую, нават за самую складаную праблему. Само сабой, у «Свабоды» ёсць нейкія «аднаразовыя» фінпамочнікі, фундатары. Але не яны тут «робяць надвор'е». Па-першае, у газеты няма праблем з рэалізацыяй накладаў — часткова праз падпіску, часткова праз «саюздрукаўскія» кіёскі, значная ж частка ідзе да чытача праз грамадскіх распаўсюджвальнікаў. Па-другое, у «Свабодзе» ёсць прыстойная камерцыйная служба, вопытныя прадпрымальнікі-выдаўцы: яны маюць выдатныя гандлёвыя здольнасці... І ў тым, што рэклама ўсё часцей друкуецца на старонках выдання, — іх заслуга...

**В. К.**: Ведаеце, сённяшні поспех «Свабоды» нагадвае мне дагарбачоўскія часы. Тады, як мне здаецца, тыражы газет і часопісаў не залежалі ад мовы выдання. Успомніце, пад мільён асобнікаў падбіраўся наклад беларускамоўнага жаночага часопіса «Работніца і сялянка» і рускамоўнай маладзёжнай газеты «Знамя юности». У сярэдзіне 70-х наклад кожнага выпуску сатырычнага беларускага часопіса «Вожык» налічваў больш трохсот тысяч! А якім папулярным у Беларусі і нават у Саюзе быў рускамоўны літаратурны часопіс «Неман»! А чаму так было? А таму, што, за рэдкім выключэннем, старонкі згаданых мной выданняў запаўняліся высокамастацкай публіцыстыкай, гумарам, нарысамі, аповесцямі і раманамі, якія мелі вялікі запас літаратурнай трываласці. Так што, сапраўды, справа не ў мове, на якой вы пішаце, а ў тым, наколькі даходліва для людзей (а значыць, — наколькі таленавіта) вы пішаце.

Для таго, каб вярнуць беларускаму друкаванаму слову яго законны пасад у жыцці грамадства, трэба, каб кожны аўтар усвядоміў: ён проста не мае права пісаць шэрыя матэрыялы. Сёння пісаць па-беларуску азначае пісаць выключна арыгінальна, выключна таленавіта. Менавіта бесталаннасць і правінцыйная шэрасць зменшыла цікавасць да беларускага друкаванага слова. Гэта — пры ўсёй заганнай палітыцы колішняга партыйнага кіраўніцтва да беларушчыны.

Таму існуе пэўны псіхалагічны бар'ер у цяперашняга чытача беларускамоўных выданняў. Але будзьце ўпэўнены: цікавую інфармацыю ён прачытае, не зважаючы на мову. Прыклад той жа «Свабоды», часопісаў «Работніца і сялянка», «Вожыка», «Звязды» — выданняў, што і сёння не згубілі сваю папулярнасць, паказвае: у нацыянальнай журналістыкі ёсць патэнцыял і ёсць цудоўная будучыня.

## ЯК АДОЛЕЦЬ ПСІХАЛАГІЧНЫ БАР'ЕР?

**А. М.**: Ад прадстаўнікоў нацыянальна патрыятычных сіл яшчэ ўчора шмат крыўдных слоў можна было пачуць у адрас беларуска-рускамоўных выданняў. Маўляў, нідзе ніколі ні ў адной краіне падобных варыянтаў не існавала і не існуе. Так — не існавала і не існуе, магчыма. Але ж нідзе не існуе праблемы, як вярнуць народ да сваіх каранёў. Адсюль і газеты, што, нібыта кроплі вады, сваім існаваннем адлюстроўваюць становішча беларускай мовы ў нашым грамадстве і яго дачыненні з расійскай мовай...

**В. К.**: І дай Бог іншаму чыста беларускамоўнаму выданню столькі зрабіць для вяртання нацыянальнай свядомасці беларускаму народу, колькі зрабіла тая ж двухмоўная «Народная газета»! Сотні тысяч чытачоў, знаёмячыся з нарысамі Івана Макаловіча, «прытчамі» Анатоля Казловіча, вострымі артыкуламі Іосіфа Сярэдзіча, Івана Герасюка, Сяргея Плыткевіча, іншых публіцыстаў, упершыню ўважліва і свядома прачыталі слова, напісанае па-беларуску, напісанае па-майстэрску, а затым, магчыма, далучыліся да чытання і беларускіх кніг.

Шкада, што некаторыя нацыянал-дэмакраты не зразумелі да гэтага часу: каб чалавеку далучыцца да беларускай мовы, патрэбна менавіта хаця якая наяўнасць беларускай свядомасці. А такая свядомасць можа ўзяць пачатак, у тым ліку і з расійскага слова, калі гэта слова бароніць Беларусь ад асіміляцыі, бароніць самабытнасць беларускай культуры, бароніць спрадвечнае права беларуса мець свой этнічны твар. Таму, між іншым, на мой погляд, і патрэбны расійскі дублікат той жа «Спадчыне» — цудоўнаму гістарычнаму часопісу, каб праўда беларускай гісторыі была ўсвядомлена, хай сабе і з дапамогай расійскага слова, але як мага большай чытацкай грамадой.

Для тых, хто хоча распачаць незалежнае беларускамоўнае выданне, мая парада: паспрабуйце яго распачаць з самых першых нумароў, як двухмоўнае.

**А. М.**: Дык вось, Вячаслаў Якаўлевіч, у слаўным шэрагу незалежных перыядычных выданняў з'явілася яшчэ адно — вельмі адметнае па жанру і мове напісання матэрыялаў. Гэта — штотыднёвік «Реклама плюс». Выдае яго прадпрымальнік Леанід Цвыроў, ён жа — галоўны рэдактар, а яго намеснік — прафесійны нацыянальны журналіст Мікола Дзелянкоўскі, якога нядаўна прынялі ў Саюз пісьменнікаў за ягоную цікавую мастацкую публіцыстыку.

Зразумела, рэкламнае выданне — гэта ўстойлівы тыраж, салідныя рэкламадаўцы. Таму эканамічны поспех спадарожнічае газеце. І што, на мой погляд, самае цікавае — дык сама «пабудова» гэтага тыднёвіка: палова аб'ёму — рэклама, палова — інфармацыя.

Для даследчыкаў нацыянальнай прэсы павінна быць цікавым не толькі гэта. А найперш, што інфармацыя, якая робіцца несумненна цікава, арыгінальна і непаўторна, друкуецца і на расійскай мове, і на беларускай. Пакуль у суадносінах: 70 на 30 працэнтаў. Але дух у газеты — беларускі! Як распавёў мне пры сустрэчы спа-

## пісьменства і друку




Арабская карта 1154 года, на якой упершыню пазначаныя беларускія гарады Тураў (Туруба) і Менск (Муніска)
Карту пазычыла фірма «Арты-фэкс» — дзякуем.

АКТУАЛЬНА!

## рэфармаваць. Але як?

дар Дзелянкоўскі, неўзабаве аб'ём беларускай мовы дойдзе тут да 50 працэнтаў. Спачатку ж газета, заўважу, была чыста рускамоўнай. Але Мікалай Іванавіч паспрабаваў са згоды Леаніда Рыгоравіча правесці эксперымент. Надрукаваў свой асабісты артыкул па-беларуску. Тыраж не зменшыўся! Потым у рэдакцыі побач з рускамоўнымі журналістамі пачалі працаваць беларускія. Зразумела, беларуская мова стала на старонках газеты з'яўляцца часцей. І гэтую «нажыўку» чытач «заглынуў»...

**В. К.**: Адсюль дазвольце зрабіць, паважаны Алесь, выснову: для «першаснага» выхаду беларускага друкаванага слова да чытача ў нашых умовах, калі мець на ўвазе наш у асноўным рускамоўны чытацкі «электарат», найбольш падыходзяць рэкламна-інфармацыйныя газеты. І падаваць беларускае слова ў іх трэба побач з расійскім. У такім разе і эканоміка газеты не прайграе, і беларускае слова выйграе. Хай яно ў чытэльны побыт уваходзіць не кавалерыйскім наскокам, а мякка, паступова, патроху, ураўнаважваючы рускую мову. Надыдзе час, і такога кшталту выданні поўнасцю і, што надзвычай важна, без фінансавага ўрону пяройдуць на беларускую мову. Мне здаецца — гэта самы аптымальны шлях: ад двухмоўя ў адным нумары перыядычнага органа друку да аднамоўя ў выпуску публіцыстычнай часткі падобнага роду выданняў.

Вопыт «Народнай газеты», «Добрага вечара» і тыднёвіка-дадатка да яго — «Сталіца», яшчэ некалькіх выданняў, дзе беларуская мова прадстаўлена ў прапорцыях ад 30 да 50 працэнтаў, паказвае што яна павінна спачатку прыцягнуць увагу, «уцерціся» ў кола чытацкіх інтарэсаў сваёй тэматыкай, падачай матэрыялаў, кампаноўкай нумара, а затым па «нарастаючай» заваёўваць сваё пачэснае і справядлівае месца ў інфармацыйнай прасторы. Вунь Іосіф Сярэдзіч распачаў выданне сваёй новай газеты «Народная воля» па-расійску і па-беларуску. А я не маю падстаў не давяраць яго прафесіяналізму.

**А. М.**: Вы маеце рацыю, Вячаслаў Якаўлевіч. Па-майму, Мінкультдрук рэспублікі павінен заахвочваць двухмоўныя газеты і часопісы, якія без фінансавых страт паступова павялічваюць аб'ём публікацый на беларускай мове. Але зразумейце правільна: найперш трэба заахвочваць тыя чыста беларускамоўныя выданні, што рухаюцца да масавых тыражоў.

**В. К.**: Усё-такі мы глядзім на праблему з аднаго прафесійнага боку — літаратурнага. А з другога — трэба падумаць пра выйсце з эканамічнай складанай сітуацыі, у якой апынуўся беларускі друк сёння.

І тут у групы па вывучэнню СМІ Інстытута праблем культуры ёсць некалькі арганізацыйных прапаноў, якія, на наш погляд, павінны дапамагчы ўратаваць нацыянальную прэсу ад збанкрутавання, вывесці яе на шлях самастойнага існавання. Хаця мы і не прэтэндуем на ісціну ў апошняй інстанцыі, гэта ўсяго толькі меркаванні-рэкамендацыі...

### СПАЧАТКУ— ПАДТРЫМКА, ПАСЛЯ — САМАСТОЙНАСЦЬ...

**В. К.**: На жаль, існуючая сістэма дзяржаўных датацый прэсы мае вялікую патрэбу ў тым, каб яе не проста ўдасканаліць, а карэнным чынам перайначыць — стварыць прадуманую ў сваім механізме мадэль дапамогі друку за кошт бюджэту.

Зразумела, цяпер, падчас эканамічнага крызісу, на вастрыні самых разнапланавых праблем апынуліся ўсе газеты і часопісы. Падпіска на трэці квартал 1995 года паказала: за рэдкім выключэннем, тыражы скараціліся як у рускамоўных, так і ў беларускамоўных выданнях, а таксама ў выданнях, якія выходзяць на дзвюх мовах.

**А. М.**: Між іншым, страцілі найбольш выданні, якія (хай не пакрыўдуюць на мяне кіраўнікі дзяржавы) падвергліся жорсткаму націску з боку тых палітыкаў, што маюць у руках рэальную ўладу, але не заўжды могуць ёю распарадзіцца як належыць. Я маю на ўвазе дачыненні ўлады з рэдакцыйнымі калектывамі СМІ. Усё ж я схіляюся да наступнай думкі. Тое, што здарылася з шэрагам газет за апошнія больш чым паўгода, — гэта вынік адсутнасці той агульнадэмакратычнай платформы, на якой павінна будавацца ўся сістэма прэсы краіны. Я маю на ўвазе прыняты параўнаўча нядаўна ВС Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Па-першае, дадзены Закон не абараняе любую рэдакцыю ад любога ўціску звонку. А яго, між іншым, можа ажыццявіць не толькі ўлада выканаўчая ці прадстаўнічая — кожны, хто мае ў руках мех з грашыма: напрыклад, манапаліст паліграфічных сродкаў вытворчасці, нават... банк, які павінен выдаць зарплату журналістам. Па-другое. Закон не абараняе канкрэтнага журналіста ў судовай сістэме, і я пра гэта не аднойчы казаў у друку і ў эфіры. Па-трэцяе, наш Закон не адлюстроўвае суадносіны нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў грамадстве, не клапоціцца аб адраджэнні беларускага друкаванага слова, не звяртае ўвагі на тое, як засмечваецца «трасянкай», вульгарызмамі, канцылярызмамі ды іншымі «ізмамі» расійская літаратурная мова. Так што хай мне даруюць добрыя паэты: журналісты Сяргей Давідовіч і Анатоль Вярцінскі ды іншыя мае калегі па прафесіі з адпаведнай Камісіі ВС, але яны разам з усім «старым» дэпутацкім корпусам стварылі вельмі недасканалы Закон. Ён, між іншым, прайграе падобнаму Закону Расійскай Федэрацыі, якую нам цяпер вельмі часта прыводзяць за прыклад. І ўсё ж на фоне ўсіх «разборак» і катаклізмаў па-ранейшаму наперадзе «Свабода», якая выпускаецца з пачатку гэтага года адзіным накладам — 93 тысячы экземпляраў. Можна не пагаджацца з усімі спосабамі арганізацыі матэрыялаў рэдакцыяй «Свабоды», з яе палітычнымі поглядамі, але несумненна адно: створаны ёю ў чытачоў стабільны імідж — вось што ратуе найперш ва ўсіх сітуацыях ад таго ж эканамічнага крызісу выданне.

А вось у сэнсе падпіскі пацярпелі «датацыйныя» выданні — «ЛІМ», «Наша слова», «Культура» і іншыя беларускамоўныя газеты і часопісы. Яны ў самы гарачы час падпісной кампаніі не выходзілі ў свет з прычыны фінансавых цяжкасцей. Ці не ўвесь травень гэтыя тыднёвікі не выпускаліся наогул...

**В. К.**: З усяго Вамі сказанага вынікае: трымаць на дзяржаўным фінансаванні даволі працяглы час адны і тыя ж газеты і часопісы шкодна. І для прэсы. І для дзяржавы... Вось чаму мы прапануем кіраўнікам рэдакцый, заснавальнікам і дзяржаве добра падумаць, што пры любых умовах мэта кожнага рэдакцыйнага калектыву павінна быць адной — рух у незалежнае самастойнае існаванне. І тут можа быць вялікае мноства спроб стаць на старт.

У якасці аднаго з прыкладаў можна прывесці намер штотыднёвіка «Наша слова», які яшчэ ў мінулым годзе ўступіў у перамовы з рэдакцыяй тыднёвіка «Культура», каб выйсці з крытычнага эканамічнага становішча. Мяркуйце самі. У аднаго і другога выдання — роднасная тэматыка. Тут — усё пра культуру беларускага слова. Там — пытанні нацыянальнай культуры ў астатніх яе іпастасях. Дык чаму б не аб'яднаць якую ў каго ёсць базу — матэрыяльную, кадравую — і не распачаць выпуск шматпалоснага адзінага тыднёвіка пад агульнай назвай, парадніўшы заснавальнікаў? Дык каб трэцім па ліку сузаснавальнікам стаў працоўны калектыў аб'яднанай рэдакцыі? Ды чаму б, уласна, не стварыць, пашукаўшы фундатараў, чыста камерцыйны дадатак, не заняцца ўсур'ёз выдавецкай і рэкламнай справай. Не стварыць нейкае ўласнае прадпрыемства ў гэтым накірунку?

Канешне, дзяржава павінна падтрымліваць новую газету. Напрыклад, перадаць у бясплатнае і пастаяннае карыстанне офісныя плошчы, аказаць дапамогу ў арганізацыі паліграфічнай базы. А каб трансфармацыя ў адзінае выданне не стала дужа жорсткай для калектыву, міністэрству трэба вызначыць на ўсе справы, звязаныя з арганізацыяй самастойнасці, тры гады актыўнай помачы: 100-працэнтнае датаванне на першым годзе, 75-працэнтнае — на другім, 50-працэнтнае — на трэцім. З чацвёртага года — незалежнае самастойнае існаванне. Уласна, такім шляхам могуць пайсці многія газетныя і нават часопісныя культуралагічна-публіцыстычныя выданні. Бо, сапраўды, навошта роднасным па тэматыцы органам друку рваць на часткі свой невялічкі чытацкі «электарат», сціплую матэрыяльную базу, не дужа багатыя сродкі? Праўда, самастойнасць вымагае ўмення зарабляць грошы, распаўсюджваць тыражы нетрадыцыйнымі спосабамі, прывабліваць да сябе фундатараў, займацца прагназаваннем і сацыялогіяй, прапагандаваць газету ці іншы орган друку, аб'ядноўвацца ў газетна-часопісныя акцыянерныя таварыствы. Падобныя таварыствы, дарэчы, — шлях у самастойнасць для літаратурных і гістарычных часопісаў, калі побач з іх выпускам можна развіваць выданне цікавейшай дакументальнай і мастацкай гістарычнай кнігі, календароў, плакатаў, фотаальбомаў, арганізоўваць выставы карцін. І яшчэ шмат чаго рабіць такога, што дапамагло б развіццю літаратуры, аднаўленню гістарычнай праўды.

**А. М.**: Але вось, калега, бяда: нешматлікі ў нас атрад тых пісьменнікаў і журналістаў, якія распрацоўваюць гістарычную тэматыку.

**В. К.**: Мяркую, будзе спецыялізаванае выдавецтва — з'явяцца такія пісьменнікі... Дзяржава тут павінна сябе паводзіць мудра. І выпрацаваць свае правілы падтрымкі датаваных выданняў. Мне здаецца, калі захоўваюцца ў адносінах да СМІ і Закон, і Канстытуцыя, і адпаведныя чалавечыя правы, трэба ўсё ж, каб кожнае выданне не апускалася ніжэй крытычнай рысы ва ўзроўні падпіскі. Усялякая самастойнасць прэсы пачынаецца менавіта з тыражу. Думаецца, што для тых рэдакцый, якія не дбаюць пра чытачоў, але жадаюць карыстацца датацыяй, трэба ўстанаўліваць пэўныя тыражныя ліміты. Якія канкрэтна? Мяркую, не ніжэй 10—15 тысяч асобнікаў у падпісцы, і 2—3 тысяч у розніцу. Інакш каму трэба выданне, якое ніхто не чытае?

**А. М.**: Пагадзіцеся, Вячаслаў Якаўлевіч, з цягам часу дапамога дзяржавы прэсе, у тым ліку беларускамоўнай, павінна быць выбарачнай, конкурснай і, вядома ж, бездатацыйнай. Перамог, скажам, у конкурсе па выніках года на большы тыраж — атрымай «мінілаб» ці наборную кампутарную сістэму або вагон паперы, дадатковыя офісныя плошчы... І такіх вось конкурсаў можа быць не адзін і не два. Тое ж Міністэрства культуры і друку пасля свайго «вызвалення» ад патрэбы ўтрымліваць 44 выданні перыёдыкі магло б арганізаваць прыстойную групу прагназістаў-сацыёлагаў, якія на гаспадарча-разліковай аснове выконвалі б заказы і дзяржаўных, і прыватных газет ды часопісаў, давалі б усім нам кваліфікаваныя парады...

**В. К.**: Зразумела, міністэрства без працы не засталося б... Усіх варыянтаў тут не пералічыць. Важна іншае. Трэба, нарэшце, і дзяржаве, і журналісцкаму корпусу ўсвядоміць, што праблема СМІ — вельмі сур'ёзная і ў рэчышчы часткі агульнанацыянальнай культуры, і ў рэчышчы палітыкі. Пакінуць гэтую праблему на волю лёсу азначае закансерваваць яе, пакінуць увесь наш друк на згубу. Трэба дзейнічаць і як мага хутчэй ратаваць беларускую прэсу.

# Старажытны Тураў у X–XIII стст.

*(Заканчэнне. Пачатак на с.4.)*

зямлю і захаваць сваю самастойнасць. Так у XII ст. тураўскі князь Юрый Яраславіч, які заняў тураўскі трон у 1158 г. і ў гэты ж год змог вытрымаць дзесяцітыднёвую моцную аблогу кіеўскага князя і яго памочнікаў. У 1160 г. асаду паўтарылі і тураўцы на чале з Юрыем Яраславічам трымалі аблогу тры тыдні і ўстаялі. Урэшце была прызнана самастойнасць Тураўскага княства. Гэта было магчыма дзякуючы прыродным і штучным умацаванням як дзядзінца, так і навакольнага горада, якія з усіх бакоў былі ўмацаваны высокім земляным валам (гл.здымак). Роў праходзіў з паўднёва-ўсходняга боку, дзе не было прыродных водных перашкод. Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што дзядзінец і навакольны горад засяляліся адначасова ў дамангольскі час з другой паловы X ст., што адпавядае першаму ўпамінанню Турава ў летапісу.

У час раскопак на дзядзінцы ўскрыта 35 драўляных наземных пабудоў, з іх 24 пабудовы — жытлы. Плошча жытлаў складала 16—18 кв.м. Адна пабудова мела 25 кв.м. Усе яны мелі глінабітныя або цагляныя печы. Выяўлена тры абшытыя дошкамі склепы глыбінёй 60—70 см. На тэрыторыі навакольнага горада знойдзены рэшткі трохапсіднага з плінфы (старажытная цэгла) храма XII ст.

У горадзе былі вядомы самыя розныя рамёствы (вырабы з жалеза, каляровых металаў, гліны і інш.). Вельмі важныя знаходкі зроблены намі ў 1993 г. — свінцовая пячатка кіеўскага мітрапаліта Кірылы, бронзавая булава, тры металічныя нарогі сахі. Вакол храма расчышчаны тры мужчынскія пахаванні ў сланцавых саркафагах. Але самая найважнейшая знаходка 1993 г. — гэта ўскрытае паблізу храма язычніцкае свяцілішча, дзе праводзіліся набажэнствы да прыняцця тураўцамі і жыхарамі навакольных паселішчаў хрысціянства. На тэрыторыі Беларусі даследаваны дзесяткі старажытных гарадоў, але свяцілішча на тэрыторыі горада, тым больш у спалучэнні з больш познім хрысціянскім храмам адкрыта ўпершыню.

Аб духоўным значэнні Турава сведчыць той факт, што ў ім нарадзіўся і пражыў жыццё сусветна вядомы асветнік Кіеўскай Русі, пісьменнік і паэт Кірыла Тураўскі. Ён узначальваў тураўскую епіскапію. Апрача багаслоўскай і асветніцкай дзейнасці, ён быў выключным майстрам урачыстага слова. Яшчэ сучаснікі называлі яго «златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси». Яго прамовы яшчэ пры жыцці перапісвалі і лічылі нараўне з майстрамі старажытнай Грэцыі, якія з даўніх часоў з'яўляліся ідэаламі. Яго дзейнасць была прызнана ў свеце, асабліва ў славянскіх краінах. Разам са славай Кірылы Тураўскага распаўсюджвалася слава і аб горадзе, які падараваў праваслаўнаму хрысціянству такую таленавітую асобу, як Кірыла Тураўскі. Дакладна невядомы гады яго жыцця. Мяркуюць, што нарадзіўся ён у 1113г. Год смерці таксама невядомы, але дакладна можна сцвярджаць, што памёр ён не пазней 1182 г.

Такім чынам, Тураў у старажытнасці быў значным горадам, які адыгрываў важную ролю як у палітычным, так і ў эканамічным жыцці ўсёй Усходняй Еўропы.

**Т.М.КАРОБУШКІНА.**
**Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі.**

Я чытаю Біблію

# З гісторыі перакладаў Святога Пісьма

### Мова Старога Запавету

Уласную гісторыю мае не толькі справа перакладу галоўнай кнігі хрысціянства — Бібліі, але і мова, якой яна была напісана.

Як узнікла мова Святога Пісьма? 1200 гадоў да Х.н. землі Ханаана — тэрыторыю цяперашняй дзяржавы Ізраіль — захапілі семіцкія плямёны. Пачаўся працэс, які ў гісторыі чалавецтва паўтараўся мностваразоў: заваёўнікі трапілі пад моцны культурны ўплыў аўтахтоннага насельніцтва, успрынялі яго мову і змяшаўшы яе са сваёй. Гэтая новая мова Палесціны, дзеля перадачы гукаў якой выкарыстоўваліся знакі фінікійскага алфавіту, праіснавала да VI стагоддзя да Х.н. — часу заваявання гэтых земляў Вавілонам. Пасля таго яўрэі даволі хутка ўспрынялі мову заваёўнікаў — арамейскую і разам з ёю квадратнае арамейскае пісьмо. Але нейкі час перад тым носьбіты яўрэйскай мовы карысталіся для пісьма не старой фінікійскай, а новай — арамейскай графікай.

Таму менавіта так — па-яўрэйску і арамейскім пісьмом, якое перадавала толькі зычныя гукі, былі запісаныя 27 тэкстаў самай старадаўняй часткі Бібліі — Старога Запавету, якія сёння з'яўляюцца канонам у вернікаў дзвюх сусветных рэлігій — юдаізму і хрысціянства.

Пад уладай Вавілона мова Старога Запавету ўжывалася выключна ў святынях. Пачаўся працэс міграцыі яўрэяў з Палесціны. Тыя з іх, што аселі ў межах вавілонскай дзяржавы, канчаткова страцілі сваю мову і загаварылі па-арамейску. Іншыя, што пасяліліся ў розных краінах Міжземнамор'я, карысталіся койнэ — дыялектам грэцкай мовы, распаўсюджаным у краінах, што былі калісьці часткамі імперыі Аляксандра Македонскага.

Менавіта гэтае паўстанне дыяспары, што не валодала мовай Старога Запавету, і выклікала патрэбу перакладу яго на іншыя мовы.

Першай мовай перакладу стала арамейская. Арамейскія «таргумы» — пераклады — змяшчалі не толькі кананічныя тэксты, але і іх тлумачэнні. Сёння вядомыя зробленыя ў III стагоддзі да Х.н.пераклады Кнігі Левіт і Кнігі Іова.

Уласны пераклад Старога Запавету быў зроблены і самарыцянамі — этнічнай групай, што склалася з плямёнаў, пераселеных асірыйцамі на захопленыя ў яўрэяў землі заваяванай імі дзяржавы. Паміж IV і I стагоддзямі да Х.н. былі зробленыя пераклады Пяцікніжжа Маісеева, запісаныя па-арамейску самарыцянскімі знакамі.

### Сэптуагінта і Гексапала

Першым значным перакладам Старога Запавету на грэцкую мову стала Сэптуагінта (ад LXX — лацінскага 70). Патрэба яго была выкліканая фармаваннем яўрэйскай дыяспары, якая не валодала ні яўрэйскай, ні арамейскай мовамі. Пераклад быў зроблены ў егіпецкай Александрыі — горадзе, заснаваным у 331 годзе да Х.н. Аляксандрам Македонскім, дзе існавала вялікая калонія элінізаваных яўрэяў. Захавальнік славутай Александрыйскай бібліятэкі дарадзіў свайму валадару Пталемею II (285—246 г.г. да Х.н.) папрасіць для бібліятэкі святую кнігу юдзеяў — Тору. Першасвятар Ерусаліма выканаў просьбу цара і падараваў яму світак Торы (часткі Закон Старога Запавету), напісаны залатымі літарамі. Разам са світкам ён адаслаў у Егіпет 72 перакладчыкаў, якія, згодна з паданнем, жывучы на выспе Фарос на працягу 72 дзён, працавалі кожны над сваім перакладам. Пераклад, які абагульніў іхнія працы, атрымаў назву Сэптуагінты.

Гэты пераклад не толькі дазволіў азнаёміцца з тэкстам Бібліі розным народам, што карысталіся мовай перакладу — койнэ, але і данёс да нашага часу найбольш поўны тэкст Старога Запавету, узяты з крыніц больш старых, чым больш познія масарэцкія пераклады V—VIII стагоддзяў.

Пазней з'явіліся новыя пераклады Бібліі, зробленыя на койнэ. Прычынай іх стварэння стала ўзнікненне новай рэлігіі — хрысціянства і адметнага ад юдаізму тлумачэння яе прыхільнікамі тэксту Старога Запавету, зробленага перакладчыкамі Сэптуагінты пад моцным уплывам элінізму. Найбольш вядомымі сярод іх сталі працы Акілы, Сімаха і Тэадатыёна.

Пераклад Акілы выкананы ў II стагоддзі да Х.н. і падкрэслена пазбаўлены грэцкіх матываў Сэптуагінты. Напрыклад, у Кнізе Ісаі прадказваецца нараджэнне дзіцяці, якое ўратуе край і дынастыю Давіда. Пад уплывам эліністычных рэлігійных традыцый у дачыненні да яго маці было ўжыта акрэсленне «панна», а не «маладая жанчына». Акіла вярнуўся да першаснага сэнсу — «маладая жанчына».

У канцы II стагоддзя да Х.н. пераклад Старога Запавету зрабіў Сімах, які імкнуўся перадаць яўрэйскі тэкст класічнай літаратурнай грэцкай мовай, а не народнай койнэ. Трэці перакладчык — Тэадатыён (канец I — пачатак II ст.) — спрабаваў наблізіць Сэптуагінту да арыгінальнага яўрэйскага тэксту.

Такім чынам, ужо ў канцы II стагоддзя існавалі чатыры найбольш вядомыя грэцкія

(Працяг на с.7.)

# В Е Р У Е М

## Што для мяне малітва?

## Дайсці да праўды

З маёй верай справа вельмі складаная. Нарадзілася ў каталіцкай сям'і, выхавана ў пашане да Бога — і ўсё было добра да чатырнаццаці гадоў. Пасля пачаліся сумненні. Было і так, што перастала верыць, але хадзіла спавядацца, святар тлумачыў мне мае непаразуменні, і ўсё было добра.

Пасля мае адносіны да Бога пачалі мяняцца, паглыбляцца. Я зразумела вартасць веры. Так прайшлі школьныя і першыя гады вучобы ва універсітэце. Але аднойчы надышоў момант, калі «завалілася» ўсё: вера, Бог, Хрыстос, сэнс жыцця, яго мэта і вартасць. Нібы правалілася мне зямля пад нагамі, працей кажучы, пачала сумнявацца ва ўсім. Як то было цяжка, але я праз гэта прайшла, пачала шукаць праўды і шукаць усур'ёз, бо адчула, што да гэтага часу нешта мне было не так. І гэта працягвалася доўга, доўгія месяцы. Калі-нікалі ўжо мне пачынала яснець — і потым зноў усё «разляталася на кавалкі». Не адзін раз ужо наогул сумнявалася, ці дайду да праўды, ці яе ўвогуле можна дасягнуць. Мне дапамаглі святары, якія сумелі вытлумачыць пэўныя рэчы. Я спрачалася з імі, дарэчы, не толькі з імі, але і з атэістамі. Сама таксама шукала, пытала.

І так паступова пачала нанава знаходзіць Бога. І тады адкрыла адно: што Бог зусім іншы, чым я яго сабе ўяўляла, што ён сапраўды Магутны, Неасяжны, Неўяўляльны. І што — Ён ёсць. Гэта, відаць, было самым важным. Але дарога да бажніцы была ўсё ж вельмі далёкай. Доўга была дзісткай-пантэісткай — можа гэта не літаральна, але нешта падобна, як кажа, святы Павел: «У ім жывём, рухаемся і існуем». Апроч Бога, вялікага і адзінага (не ў Троіцы), не прызнавала нічога, але шукала далей. І знайшла Хрыста, таксама іншага, як думала раней: папросту прыгожага Чалавека. Не абышлося пры гэтым без бунту і знішчэння ўсяго набытага ў разважаннях. І калі ўсё ўжо, здавалася, павінна быць добра, усё зноў разбурылася.

Я ўзбунтавалася. Сказала «не». Гэта было проста зрабіць, і зноў перастала верыць. Тады ўжо людзі не маглі мне памагчы. Ні адзін іх аргумент не мог мяне пераканаць, зрэшты, не хацела гэтага. Я ведала, што веру і што не дамся пераканаць сябе. Але, нягледзячы ні на што, вонкава ўсё ж «практыкавала» рэлігію, так, а раптам... Бо грунтоўна ўсё ж не знала: ці ёсць у гэтым праўда, ці яе няма?

Менавіта тады, калі ўжо не сама сабе, ніхто мне не мог дапамагчы, тады я напаткала кнігу «Дарога на гару Кармель» святога Яна. І, відаць, менавіта гэтая кніжка рашуча паўплывала, і я цяпер верую. Святы Ян тлумачыў, што Бога нельга ні панць, ні зразумець, і што мы ў гэтым жыцці асуджаныя на «цемнату» веры. І тады я зразумела, што розум дапамагае толькі да пэўнай мяжы, па-за ёю не можа ўжо нічога зрабіць — гэта перавышае яго магчымасці.

У мяне шмат цяжкасцяў. Часам яшчэ хацела б сваю веру «зважыць» ці «змераць». Але ўжо ведаю, што гэтага не ўдасца зрабіць, і менавіта таму, што змагла з гэтым пагадзіцца — мне стала прасцей і лягчэй. Гэта называю Божай ласкай: яе не апішаш, гэта можна толькі перажыць.

І ўвогуле, каб верыць, трэба хацець верыць. Але на гэта патрэбна тая ж Ласка. А сумненні, цяжкасці — яны таксама патрэбныя — так думаю. Яны ж прымушаюць нас думаць, параўноўваць уласныя погляды з чужымі, інакш можам спаткацца з папрокам: а калі б ты нарадзіўся мусульманінам, то гэтак быў бы пераканаены ў сваёй праўдзе, як цяпер? Калі б ты меў рацыю? І дзе праўда?

Мае асабістыя развагі вельмі памаглі. Яны падмацавалі гэтае апошняе «так». Розум да гэтых пэўных граніц быў патрэбны. Тое ж, перад чым ён скарыўся, не супярэчыла яму, толькі яго перарастала. І менавіта таму ён узбунтаваўся і часам яшчэ бунтуецца, не могучы зразумець.

І яшчэ адно вырасла з гэтых маіх разваг: талерантнасць, і цалкам сур'ёзная талерантнасць, што азначае глыбокую павагу да поглядаў іншага чалавека. Магчыма, што ён даходзіў да іх таксама цяжка, як я да сваіх, а можа яшчэ цяжэй. І за гэта я Богу таксама ўдзячная.

***Студэнтка, 21 год.***

***Перадрук з кнігі «Безымянныя гавораць пра малітву».***

## Беларускія святыя

*Сёлета 29—30 ліпеня адбылося чарговае паломніцтва праваслаўных беларусаў у Вільню, да месца пакутніцкай смерці беларускіх святых, мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія. Як заўсёды, паломніцтва ладзіла Беларускае Праваслаўнае брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў.*

Найперш згадаем, хто такія святыя Іаан, Антоній і Яўстафій і чым яны славутыя...

Два родныя браты, Няжыла і Кумец, прыдворныя князя Альгерда, прынялі ад святара Нестара святое Хрышчэнне і атрымалі імёны **Антоній** і **Іаан**. Праз нейкі час князь абвінаваціў братоў у вераадступніцтве, дапытаў іх, і яны вызналі сябе хрысціянамі. Князь загадаў пасадзіць іх у вязніцу. Натоўпы народа прыходзілі да вязніцы, каб пачуць пропаведзі мучанікаў, і шмат каго браты звярнулі да Хрыста. Напалоханыя паганскія жрацы патрабавалі пакарання братам. Раніцой 14 красавіка (27 красавіка па н.ст.) 1347 года мучанік Антоній быў павешаны на дубе. 24 красавіка быў задушаны Іаан, а цела яго было павешана на тым самым дубе.

Трэцім мучанікам за веру Хрыстову стаўся Круглец. Пры Хрышчэнні святар Нестар даў яму імя **Яўстафій**. Аднойчы ён прылюдна вызнаў сябе хрысціянінам і адмовіўся есці мяса з прычыны посту. Яго жорстка катавалі, пасля чаго павесілі на тым самым дубе, дзе раней прынялі мучаніцкую смерць Антоній і Іаан. Адбылося гэта 13 снежня 1347 года. А праз год князь Альгерд прыняў хрысціянства, і, як пажадала ягоная жонка Ульяна, на месцы пакарання смерцю мучанікаў была пабудавана капліца, а затым князем Канстанцінам Астрожскім быў пабудаваны храм у імя Святой Тройцы.

У 1374 годзе Віленскія мучанікі былі кананізаваныя патрыярхам Філафеем.

У XVI стагоддзі мошчы святых Антонія, Іаана і Яўстафія перанесць у крыпту Свята-Духава манастыра. Падчас 2-й Сусветнай вайны святыя мошчы былі эвакуяваны ў Маскву. Вяртанне іх адбылося 26 ліпеня 1946 года. Гэты дзень штогод святкуецца ў Віленскім Свята-Духавым манастыры.

Мучанікі Віленскія не ўваходзяць у Сабор Беларускіх Святых, але паўсюдна шануюцца на Беларусі.

24—26 ліпеня 1993 года часткі мошчаў святых Віленскіх мучанікаў былі перанесены з Віленскага Свята-Духава манастыра ў Менскі Свята-Петра-Паўлаўскі Сабор. Мошчы былі закладзеныя ў ікону трох Віленскіх мучанікаў, намаляваную смаленскім іканапісцам Сяргеем




Кульманавым. Ініцыятарам перанясення мошчаў было Беларускае Праваслаўнае брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, якое са студзеня 1992 года дзейнічае пры Менскім Свята-Петра-Паўлаўскім саборы.

І вось — сёлетняе паломніцтва...

Ужо чацвёрты раз з ініцыятывы менскіх братчыкаў беларускія паломнікі наведваюць Вільню. Сёлета пакланіцца святым мясцінам пайшлі не толькі менчукі, але святары і шчырыя вернікі з Івянецкай Свята-Ефрасіненскай і Слуцкай Свята-Міхайлаўскай цэркваў. Сярод паломнікаў было шмат інтэлігенцыі: навукоўцы, журналісты, пісьменнікі.

Паломнікаў сустрэлі прадстаўнікі пасольства Беларусі ў Летуве. Адбылася шчырая размова. Яўген Вайтовіч, пасол Беларусі, расказаў пра змены, якія апошнім часам адбыліся ў жыцці беларускай дыяспары, пра справы пасольства, пра нядзельную беларускую школу. Спадар Вайтовіч адзначыў прыемны факт — адраджаюцца традыцыі паломніцтва.

Паломнікаў гасцінна прынялі ў Свята-Духавым манастыры. У наступным годзе, дарэчы, манастыр будзе святкаваць юбілей свайго заснавання, і таму плануецца правесці паломніцтва больш шырока, з удзелам летувіскай грамадскасці. Мэта паломніцтва для сяброў Брацтва ў Свята-Духаў манастыр была не толькі ў тым, каб памаліцца ў яго мурах, — у шмат каго з братчыкаў там асабістыя духаўнікі з ліку манахаў.

Адметнасцю Свята-Духава манастыра з'яўляецца бібліятэка. Там цяпер вельмі ўтульна, шмат беларускай літаратуры. Мясцовыя беларусы часта карыстаюцца ёю — такім чынам, бібліятэка выконвае прыкметную асветніцкую ролю.

30 ліпеня на месцы пакутніцкай смерці беларускіх святых, ля муроў Троіцкай царквы, быў адслужаны малебен. У храм зайсці нельга, бо там ідзе рамонт. Прыкрым быў для паломнікаў той факт, што на сцяне царквы, якраз каля выяў святых Антонія, Іаана і Яўстафія, аказалася прымацаванай шыльда з надпісамі на ўкраінскай і летувіскай мовах. Надпісы сцвярджалі: храм гэты адметны тым, што тут нейкі час служыў Язафат Кунцэвіч. Не згадвалася, на жаль, ні пра Канстанціна Астрожскага, ні пра Мялеція Смятрыцкага, ні пра Лявонція Карповіча...

Мелі паломнікі сустрэчу і з прыхаджанамі будучай царквы ў Салешніках (па-летувіску — *Шальчынінкай*). Гэтае мястэчка знаходзіцца на мяжы Беларусі і Летувы, і там жыве шмат беларусаў. Калі царква будзе пабудаваная, Брацтва Віленскіх Мучанікаў будзе апекавацца ёю.

Святыя месцы, якія наведалі паломнікі, маюць для праваслаўнага беларуса неадольнае прыцягненне. Таму шкада, што шматлікія ахвочыя не змаглі паехаць да іх, бо не мелі замежнага пашпарта, без якога цяпер у Летуву не праедзеш... Афармляць жа гэты дакумент — задавальненне клопатнае і дарагое. Хаця па канонах усіх рэлігій паломнікі да святых месцаў павінны карыстацца агульнай пашанай і спрыяннем, бо знаходзяцца пад вышэйшым апякунствам — Божым...

**Л.Ш.**

Беларускае замежжа

# «Прамень» свеціць

Першы нумар газеты беларусаў Латвіі, якая атрымала назву «Прамень», убачыў свет напярэдадні 1995 года. З таго часу выйшла з друку ўжо сем нумароў гэтага штомесячнага выдання, якое мае карэспандэнтаў як у сталіцы Латвіі, так і ў іншых гарадах краю — Даўгаўпілсе, Ліепаі, Юрмале, Огрэ, Олайне.

Чытачы «Праменя» могуць даведацца пра жыццё беларускіх суполак Латвіі, падзеі ў Беларусі, дзейнасць беларускага пасольства ў Рызе, погляды яго супрацоўнікаў на падзеі ў Беларусі, прачытаць паведамленні беларускіх урадавых інфармацыйных службаў і передрукі з газет, што выдаюцца на Бацькаўшчыне. Акрамя інфармацыйных і публіцыстычных матэрыялаў, газета змяшчае рэкламу прадпрыемстваў і фірмаў, якія маюць эканамічныя сувязі з Беларуссю, артыкулы пра гісторыю і культуру беларускага народа.

Адметнымі рысамі выдання з'яўляюцца, з аднаго боку, лаяльнасць і абсалютная талерантнасць у дачыненні да цяперашніх беларускіх уладаў, з другога — выкарыстанне герба «Пагоня» і лозунга «Жыве Беларусь». Магчыма, гэта не што іншае, як адлюстраванне становішча залежнасці статысячнай беларускай дыяспары Латвіі ад падтрымкі з Менску.

«На Беларусі адраджаецца ўсё тое, што доўгія гады было ў загане», — трохі незразумела, але аптымістычна было напісана ў звароце да беларусаў Латвіі, надрукаваным у першым нумары «Праменя». У спадзяванні на гэта і стварылася выданне. Што чакае беларусаў, а значыць, і беларускую дыяспару заўтра, пакажа час. Але сёння «Прамень» яшчэ свеціць.

У.П.

Прафесар Герман Бідэр. Зальцбург.

# Моўная сітуацыя ў Беларусі

***Дзейнасць замежных беларусістаў дагэтуль застаецца для самой Беларусі маленькай таямніцай. Мала хто з шараговых грамадзян РБ (за выключэннем навуковай і мастацкай інтэлігенцыі) цікавіцца, што яны пра нас думаюць і пішуць, на якім узроўні даследуюць праблемы нашай мовы і культуры, як ацэньваюць сутнасць і магчымасці Беларускага Адраджэння і што ўвогуле іх з намі аб'ядноўвае.***

***Названая праца вядомага аўстрыйскага славіста і беларусіста Германа Бідэра ў нейкай меры адказвае на гэтыя пытанні. Аўтар даследуе працэс культурнага адраджэння Беларусі пры савецкай уладзе, калі меў месца генацыд нацыянальнай інтэлігенцыі, моўную палітыку бальшавікоў, накіраваную на русіфікацыю беларускага народа, сутнасць нашай сённяшняй «трасянкі» і некаторыя іншыя пытанні. Са спісу выкарыстанай літаратуры бачна, што ў сваіх развагах і высновах аўтар абапіраецца на шматлікія даследаванні вядучых беларусістаў — айчынных і замежных. Праца публікавалася ў 1993 г. ў Чэхаславакіі.***

***Адзначаючы эрудыраванасць, навуковую дасведчанасць, аб'ектыўнасць і шчырую павагу Германа Бідэра да беларускай мовы і культуры, будзем спадзявацца, што разгляд дадзенай тэмы ім будзе даведзены да лагічнага канца, а менавіта да таго часу, калі беларусізацыя фактычна ўжо скончылася, а праведзены ў рэспубліцы рэферэндум стаў чорным днём у гісторыі Беларускага Адраджэння.***

### 1. Грамадскія функцыі беларускай і рускай моў у Беларусі.

Для моўнай сітуацыі ў Беларусі характэрна амаль усеагульнае беларуска-рускае двухмоўе, а таксама рэгіянальнае беларуска-польскае двухмоўе (пераважна ў Гродзенскай вобласці) і беларуска-украінскае двухмоўе (Заходнім Палессі).

У цяперашні час беларуска-рускае двухмоўе ўяўляе сабой не сацыяльны або рэгіянальны білінгвізм, а агульнанародную з'яву (каля 90 працэнтаў беларусаў валодае рускай мовай). З другога боку, толькі нязначны працэнт рускіх у Беларусі ведае беларускую мову.

За апошнія дзесяцігоддзі значэнне рускай мовы для беларусаў ўсё больш павялічвалася, хоць доля рускай меншасці ў Беларусі ў 1989 г. складала толькі 14 працэнтаў ад усяго насельніцтва краіны. Савецкае моўнае планаванне сістэматычна прапагандавала беларуска-рускае двухмоўе і рускую мову ў якасці так званай другой роднай мовы беларусаў. За апошні час асіміляцыйныя тэндэнцыі асабліва ўзраслі: у 1989 г. ужо 28 працэнтаў насельніцтва краіны лічыла рускую мову роднай мовай, у той час як толькі 70 працэнтаў насельніцтва лічыла сваёй роднай мовай беларускую мову. З 60-х па 80-я гады прыблізна паўтара мільёны беларусаў перайшло з беларускай мовы на рускую. Шырокаму распаўсюджванню рускай мовы сярод беларусаў садзейнічалі моўныя і пазамоўныя (сацыяльна-палітычныя, эканамічныя, культурныя, рэлігійныя) фактары. Гарадское насельніцтва Беларусі, якое складае больш за палову ўсяго насельніцтва краіны, зараз зрусіфікавана. У Менску моўныя абставіны асабліва складаныя — на роднай мове там гавораць усяго 2 працэнты насельніцтва. Аднак значная частка тых, хто гаворыць па-руску, выкарыстоўвае не літаратурную форму рускай мовы, а спецыфічную сумесь яе з беларускай мовай (якая атрымала назву "трасянка". — Рэд.). З другога боку, у заходніх рэгіёнах Беларусі, перадусім у Гродзенскай вобласці, дзе насельніцтва моцна спаланізавана, выкарыстоўваецца таксама польская мова.

Беларуская літаратурная мова да пачатку 90-х гадоў ужывалася толькі ў малатыражных газетах і часопісах, у мастацкай літаратуры і выданнях па некаторых гуманітарных навуках, у радыёперадачах і на тэлебачанні. У сельскіх школах яшчэ часткова вялося навучанне на беларускай мове. Сельскае насельніцтва пераважна размаўляла на беларускай мове — на яе мясцовых дыялектах, асабліва ў сямейным асяроддзі, але ўжо не заўсёды ў прафесійным акружэнні. Руская мова, такім чынам, займала дамінуючае становішча ва ўсіх грамадскіх сферах: палітыцы, адміністрацыі, вытворчасці, на транспарце і г. д., а акрамя таго, пераважала ва ўсіх культурных сферах — у школе, у кнігавыдавецтвах і прэсе, у тэатры і кіно, на радыё і тэлебачанні.

Некалькі прыкладаў для ілюстрацыі той крытычнай сітуацыі, у якой знаходзілася да нядаўняга часу беларуская мова.

У 1989 г. 79 працэнтаў вучняў краіны хадзілі ў школу з рускай мовай навучання і толькі 21 працэнт вучняў вучыліся ў беларускамоўнай школе. У 1991 г. ва ўсёй Беларусі было 30 рускіх гімназій і ліцэяў і толькі 2 такія беларускія школы. Ва універсітэтах і іншых вузах беларуская мова ўвогуле не ўжывалася, за выключэннем аддзяленняў беларускай філалогіі. У 1987 г. усе выдавецтвы Беларусі выпусцілі на беларускай мове толькі 357 кніг і брашур, але 2507 друкаваных твораў такога ж тыпу — на рускай мове. У тым жа годзе тыраж беларускай белетрыстыкі складаў 950 тыс. экз., а тыраж рускай мастацкай літаратуры — 20,7 млн. экз. У 1987 г. у Беларусі выдаваліся 79 рускіх часопісаў і толькі 31 часопіс на беларускай мове. У тым жа годзе ў Беларусі выходзіла 130 газет на беларускай мове і 80 — на рускай, аднак агульны тыраж усіх беларускіх газет складаў прыблізна 1,7 млн. экз., а тыраж рускіх газет — звыш 35 млн. экз. Склалася такая моўная сітуацыя, для якой характэрна шырокае, неабмежаванае распаўсюджванне рускай мовы і крайняя ступень звужэння сферы ўжытку беларускай мовы. У той час як у рускай мовы сацыяльны прэстыж значна ўзняўся і яе пачалі праслаўляць як «великий и могучий язык», да беларускай мовы склаліся зняважлівыя і нават пагардлівыя адносіны, у выніку чаго у тых, хто на ёй гаварыў, развіўся комплекс непаўнацэннасці, нігілізм да сваёй мовы.

### 2. Інтэрферэнцыя беларускай і рускай моў.

Блізкароднаснае двухмоўе адрозніваецца больш высокай ступенню ўзаемапранікнення кантактуючых моў, чым двухмоўе няроднаснае. Паралельнае функцыяніраванне ў Беларусі беларускай і рускай моў прыводзіць да ўзаемадзеяння іх сістэм і парушэння нормаў абедзвюх моў на ўсіх узроўнях, гэта значыць, да міжмоўнай інтэрферэнцыі, якая выклікана частковым разыходжаннем сістэм беларускай і рускай моў.

**На фанетычным узроўні інтэрферэнцыя праяўляецца** перш за ўсё ў выніку захавання білінгвамі гукавых рыс роднай мовы і перанясення іх ў іншую. У рускай мове беларусаў нялёгка пераадольваюцца цвёрдае вымаўленне беларускіх зычных (р), (ч), (шч) губных зычных (п), (б), (м), (ф) у пэўнай пазіцыі, вымаўленне мяккіх афрыкат (ц'), (дз') перад галоснымі пярэдняга раду, моўная рэгрэсійная асіміляцыя па палатальнасці ў спалучэннях зычных, білабіяльнасць фанем (в), (л) у закрытых складах і ў канцы слова, фрыкатыўны характар зычнага (г), спецыфічныя рысы беларускага акання-якання, з'явы дысіміляцыі зычных, падаўжэнні зычных пры спалучэнні з (j) і г. д.

**Акцэнтная інтэрферэнцыя** абумоўлена тым, што кантактуючыя мовы маюць значную колькасць скланяльных лексічных адзінак, якія належаць да розных акцэнтных парадыгмаў. Скланяльныя словы адрозніваюцца па месцы націску або ва ўсіх, або — радзей — у асобных моваформах (напр. **рус**. *боя́знь, мо́лодость* і **белар**. *бо́язь, маладо́сць; ма́лый і малы́; никого́ і ніко́га; ввёсти, введённый і ўвёсці, уве́дзены).* Нескланяльныя лексічныя адзінкі таксама нярэдка адрозніваюцца несупадзеннем месца націску (напр., *нельзя, слегка, насмерть і нельга, злёгку, насмерць).* Паводле падлікаў беларускіх мовазнаўцаў беларуска-рускія акцэнтныя разыходжанні тычацца 20 працэнтаў усяго лексічнага складу.

У рускай мове беларусаў таксама выразна выяўляецца марфалагічная інтэрферэнцыя ў выніку змешвання і нераспазнавання нятоесных граматычных катэгорый, тыпаў словазмянення, асаблівасцей структуры слова, а таксама няправільнай стылістычнай ацэнкі моўных фактаў. Марфалагічная інтэрферэнцыя нярэдка выклікана словамі, ідэнтычнымі па гукавому складу і лексічнаму значэнню, якія аднак адносяцца да рознага граматычнага роду (**рус**. *собака* (жан. р.) і **белар**.*сабака* (муж. р.); *яблоко* (сярэдні р.) і *яблык* (муж. р.). Крыніцай інтэрферэнцыі служаць частыя руска-беларускія разыходжанні ва ўтварэнні формаў у адзіночным і множным ліку (параўнай: *на коне, на земле і на кані, на зямлі, братья і браты*). У скланенні прыметнікаў — у абодвух ліках *(о дорогом брате і аб дарагім брату; свежие фрукты і свежыя фрукты)*; у сістэме спражэння (напр., *пишет і піша*) і відаўтварэння дзеясловаў (напр. *обеспечить і забяспечыць*).

**Сінтаксічная інтэрферэнцыя** назіраецца ў выпадку разыходжання дзеяслоўнага кіравання *(благодарить кого і дзякаваць каму)*, сінтаксісу словазлучэнняў з беспрыназоўнікавым і прыназоўнікавым кіраваннем (напр. *ждать кого і чакаць на каго*, а таксама сродкаў сувязі складанага сказа (напр. у даданых сказах беларусы схільны атаясамліваць беларускі злучнік *які* з генетычным, а не функцыянальным рускім эквівалентам *какой*).

Лексічная інтэрферэнцыя звязана з няпоўным супадзеннем тэматычных груп слоў (напр. **рус**.*медведь, волк, заяц* і **белар**. *мядзведзь, воўк, заяц*; але *белка і вавёрка*), семантычнай структуры і спалучальнасці слоў (параўнай, напр., *великий человек і вялікі чалавек, але большой дом і вялікі дом*), іх лексіка-семантычных суаднос[і]н (параўнай, напр., антонімы ў абедзвюх мовах тыпу *здоровье — болезнь і здароўе — хвароба*), а таксама з неразмежаваннем (часткова) тоеснай па знешняму вобліку рускай і беларускай лексікі, але рознай па змесце (міжмоўная аманімія і паранімія, напр., **рус**.*отказ* і **белар**. *адмова, ответ і адказ*).

Асноўнымі відамі **словаўтваральнай інтэрферэнцыі** трэба лічыць змешванне словаўтваральных сродкаў у паралексах (параўнай *грамматический і граматычны*), атаясамліванне неадналькавай прадукцыйнасці генетычна роднасных фармантаў (*читатель і чытач*) і атаясамліванне іх розных словаўтваральных значэнняў *(уехать і паехаць, але въехать і ўехаць)*, або неаднолькавай стылістычнай маркіраванасці, а таксама перанясенне словаўтваральных адносін з адной мовы ў іншую (напр. *утюг і гладить*, але *прас і прасаваць*).

*(Заканчэнне будзе.)*

Я чытаю Біблію

# З гісторыі перакладаў Святога Пісьма

*(Працяг. Пачатак на с.6.)*

пераклады Старога Запавету, якія істотна розніліся адзін ад аднаго.

У VIII стагоддзі н.э. Арыгенам было зроблена крытычнае выданне Старога Запавету. Пераклады публікаваліся ў шэсць слупкоў: яўрэйскі тэкст Старога Запавету, яўрэйскі тэкст у грэцкай транскрыпцыі, пераклад Аківы, пераклад Сімаха, версія 72 перакладчыкаў, пераклад Тэадатыёна.

Кніга атрымала назву Гексапала (шасціслупковая) і даказала: істотных разыходжанняў з арыгіналам Сэптуагінта не мае.

Усе 50 тамоў Гексапалы былі знішчаны ў час арабскіх заваёваў VII стагоддзя. Захаваліся толькі невялікія цытаты з яе ў творах ранніх хрысціянскіх аўтараў.

Самым папулярным на пачатку існавання хрысціянства стаў пераклад, зроблены простай і даступнай большасці мовай — Сэптуагінта. Найбольш верагодна, што менавіта ён стаў базай для перакладу Біблії на іншыя мовы, як гэта адбылося ў Егіпце, дзе хрысціянства пачало распаўсюджвацца з канца I ст. Да IV ст. кнігі Біблії там ужо былі перакладзены на ўсе чатыры дыялекты копцкай мовы, што сфармаваліся на аснове старажытнаегіпецкай.

У V ст. Новы Запавет быў перакладзены на эфіопскую мову. Напачатку IV ст. хрысціянства было абвешчана дзяржаўнай рэлігіяй у Картлі (цэнтральнай частцы Грузіі), і пачаўся пераклад кананічных тэкстаў на мясцовую мову. У V ст. хрысціянства прынялі армяне, і на армянскую мову Біблію пераклалі Патрыярх Ісак Вялікі і св. Месроп.

### Пераклад на лаціну

Яшчэ за некалькі стагоддзяў да нараджэння Хрыстова універсальнай мовай, побач з грэцкай, пачала рабіцца лаціна — гэта было выклікана пашырэннем уплыву Рымскай імперыі. Па-за межамі Рыма яго мова ўжывалася ў рэгіёнах, не закранутых раней элінскай культурай і адносна нядаўна далучаных да імперыі — на тэрыторыі сучасных Францыі, Іспаніі, Партугаліі, Вялікай Брытаніі, Даніі, краін Паўночнай Афрыкі ды іншых. Найбольшае распаўсюджванне яна атрымала на пачатку новай эры — у час узнікнення і пачатку пашырэння хрысціянства. Таму ў краінах Рымскай імперыі Біблія была перакладзена на лаціну нават двойчы. Першы пераклад быў зроблены ў Паўночнай Афрыцы на мяжы II—III стагоддзяў, другі — у сярэдзіне III ст. у Рыме.

Старалацінскія пераклады захавалі для гісторыі тагачасную мову простага народа, але мастацкай якасцю не адрозніваліся, бо былі перапрацоўкамі грэцкай Сэптуагінты, у выніку чаго тэкст перакладаў быў месцамі скажоным і цалкам незразумелым.

### Вульгата

Каб мець дасканалы, набліжаны да арыгіналу лацінскі пераклад, Папа Дамасій даручыў св.Гераніму выправіць старалацінскі варыянт. У 383 г. той пачаў пераклад Новага Запавету і Псалтыра. Менавіта гэтую падзею і можна лічыць пачаткам справы перакладу хрысціянскай Біблії, бо ў іншую мову перакладаліся не толькі агульныя для юдэяў і хрысціянаў тэксты Старога Запавету, але і канон хрысціянства — створаны на мове грэкаў — койнэ Новы Запавет — апісанне жыцця і навукі Хрыста.

Лацінскі пераклад Святога Пісьма надаў яму асаблівасць, якую дагэтуль захоўвае хрысціянства: у яўрэйскім тэксце назва збору кананічных тэкстаў перадавалася словам "берыт", грэцкі адпаведнік якога — "дыятэке" — азначаў дамову ці саюз і адначасова меў другасны сэнс адпавядаў абавязку, запаведзенай спадчыны. У III стагоддзі рэлігійны сэнс колішняй дамовы Бога з "абраным народам" быў забыты і лацінскім словам "запавет" — TESTAMENTUM — сталі абазначаць як юдэйскую, так і хрысціянскую часткі Біблії.

У астатнім жа пераклад св.Гераніма быў вельмі блізкім да арыгіналу дзякуючы валоданню ім мовай Старога Запавету. Св.Геронім пераклаў усе 27 протакананічных кніг і дзве другакананічныя, прызнаваныя толькі хрысціянамі — Кнігу Товіта ды Кнігу Юдзіфі. Астатнія другакананічныя кнігі ў працу перакладчыка былі ўключаны ў старалацінскім перакладзе.

На працягу наступных пяці стагоддзяў пераклад св.Гераніма выцесніў старалацінскі варыянт і стаў лічыцца агульнапрызнаным, атрымаўшы ў XVI стагоддзі назву Вульгата — звычайны, нарматыўны.

### Масарэцкі тэкст

Трэба дадаць, што ў яўрэйскай мове найбольш дакладныя і поўныя тэкст Біблії быў зафіксаваны ў V—VIII стагоддзях масарэтамі (ад яўр. масора — традыцыя) — вучонымі рабінамі ў рукапісах, для напісання якіх быў выкарыстаны адмысловы масарэцкі алфавіт — знакі, якія ставіліся над і пад зычнымі літарамі яўрэйскага пісьма дзеля перадачы галосных.

Такім чынам, на абшары панавання хрысціянства ў сярэднявеччы існавалі тры зборы найбольш дакладных біблійных тэкстаў:

*(Працяг на с.8.)*

*Вучымся*

*Філалагічныя загадкі*

## Налле

*«Раз улетку ў ціхую пагодлівую ноч ляцеў, агнём шыбаючы, вуж з поўначы на поўдня, як бы несучы з сабой многа золата і срэбра грэшніку, каторы чорту душу запісаў. Бачылі гэта дарожнікі і **налле**, ідучы з прыгону...»*

Гэта частка легенды «Вужаў камень», надрукаванай у кнізе «Беларускія легенды. Кніжка першая: Начэпнасць (З Я.Баршчэўскага пераклаў Я.Станкевіч)», што была выдадзена ў Вільні ў 1917 годзе.

Што азначае слова **налле**? Пашукайце ў слоўніках, папытайцеся ў старых людзей. Складанасць загадкі яшчэ і ў тым, што невядома, ці слова **налле** дадаў Я.Станкевіч, перакладаючы тэкст легенды на беларускую мову, ці яно было ў запісе Яна Баршчэўскага.

**З.С.**

*Хачу ведаць*

## Чаму такія прозвішчы?

Вельмі часта сустракаю беларускія прозвішчы, якія заканчваюцца на *-еня, -эня:* Мікалаеня, Сушчэня, Цярэня...

Лічу, што больш-менш ведаю беларускую этымалогію, але дзеля канчаткаў згаданых прозвішчаў не магу знайсці тлумачэння. Шмат у каго пытаўся — не ведаюць.

Дапамажыце ліквідаваць прабел!

**Аляксандр ПЯТРОЎ.**
**Гародня.**

*Беларускі кнігазбор*

## Весткі з Хельсінкі

Жорсткі лёс нашай нацыі... Плёнам таленту нашых прашчураў карыстаюцца іншыя народы... Праўдзівасць гэтых слоў, што ўжо ўяўляюцца нам штампамі, нядаўна зноў пацвердзілася. У Навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны перадалі Каталог часткі славутай бібліятэкі магнацкага роду Радзівілаў, што знаходзілася калісь у Нясвіжы, перадалі з Хельсінкі, сталіцы Фінляндыі.

Як жа трапілі «за мора» радзівілаўскія скарбы?

У канцы XVIII стагоддзя, калі дзялілі Рэч Паспалітую, бібліятэка Радзівілаў была вывезена ў «паўночную сталіцу» Расійскай імперыі. Але, як бачым, там яе асабліва не цанілі, а разкамплектавалі ды пачалі раздаваць. Частку, і немалую, пазней перадалі бібліятэцы Хельсінкскага універсітэта.

Каталог даволі вялікі — 200 старонак. І пералічана ў ім не адна тысяча кніг — выданняў шмат якіх еўрапейскіх краін. І, вядома ж, у ліку старадрукаў ёсць і кнігі, што надрукаваныя ў друкарнях беларускіх гарадоў.

**З.С.**

## Язык як перац

Ліхі (злы), як аса.
Лішні, як гнілы корань (зуб) у роце.
Лоўкі, як артыст.
Лоўкі, як біч.
Лубін як лаза (вялікі, густы).
Лубін як лес (вялікі).
Лыпае (вачыма), як баран.
Лысы, як барсук.
Лысы, як бубен.
Лысы, як калена.
Лысы, як ксёндз.
Любіць, як матка дзіцятка.
Любіць, як мядзведзік мёд.
Любіць, як сабака ката.
Любіць, як сабака палку.
Любіць, як сабака цыбулю.
Любяцца, як галубы (галубкі).

*Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»*

*Сымон БАРЫС*

# Як у нас клічуць?

*(Працяг.)*

## Жаночыя імёны

**Аліса**. Алиса — вытворнае ад імені Елена. Вытв.: Аліся, Алюся, Алюська. Імяніны: тыя ж дні, як у Алены.

**Анісся**. Анисия (грэц.) — тая, якая мае поспех. Вытв.: Аніска, Аніса, Аніста. Імяніны пр. 12.01.

**Анея** (бел). Вытв.: Анейка, Анеечка.

**Антосся, Антаніна**. Антонина — жаночая душа ад мужч. імені Антон, Антось, якое ад Антоний (рымскае родавае імя). Вытв.: Тоня, Тося, Антоля, Антуля, Антанінка, Антоська, Анця, Анцечка, Тонька, Танюшка, Тошка. Імяніны: пр. 14.03; 23, 26.06; кат. 1.03; 3, 10.05.

**Антаніда**. Антонида (грэц.) — дачка Антонія. Імяніны тыя ж, што ў Антаніны.

**Анфіса**. Анфиса (грэц.) — якая квітнее. Вытв.: Анфіска, Анфісачка, Фіса, Фіска, Фісачка. Імяніны: пр. 9.08; 9.09; 21.12.

**Анэля**. Анелия — балгарскі варыянт імені Ганка. Вытв.: Нэля, Анэлька, Анэлечка. Імяніны кат. 4, 27.01; 28.03; 31.05; 18.11.

**Аршуля, Артуля**. Урсула (лац.) — мядзведзіца. Імяніны кат. 21.10.

**Арына, Ада**. Ариадна (грэц.) — верная, адданая жонка. Вытв.: Арынка, Арыяна, Адачка. Імяніны 1.10.

**Ася**. Ася. Вытв.: Аська, Асечка.

**Аўрэля, Раіна**. Аврелия (лац.) — жан. імя ад мужч. імені Аврелий — рымскага родавага імя. Вытв.: Аўруся, Аўрэлька, Рэлька, Раліся, Раліна. Імяніны кат. 25.09.

**Аўгуста**. Августа — жан. імя ад мужч. імені Август (лац.) — велічны. Вытв.: Аўгуня, Аўгуся.

**Аўгусціна**. Августина — жан. імя ад мужч. імені Августин.

**Аўдоцця, Аўдося**. Авдотья — вытворная форма імені Евдокия (грэц.) — прыхільнасць, зычлівасць, дабраслова. Вытв.: Аўдотка, Аўдоля. Імяніны: пр. 14.03; 20.07.

**Аўгіння, Яўгенія**. Евгения — жан. імя ад мужч. імені Евгений (грэц.) — высакародны, шляхетны. Вытв.: Жэня, Геня, Яўгенька. Імяніны: пр. 6.01; кат. 13.09.

**Аўрора**. Аврора — рымскае імя багіні.

**Афанасся, Фаня**. Афанасия (грэц.) — жан. імя ад мужч. імені Афанасий — бессмяротны. Вытв.: Фаня, Фанечка, Фанька. Імяніны: 25.04; 22.10; 19.11.

**Багдана**. Богдана — жаноч. імя ад мужч. імені Багдан (слав.) — дадзены Богам. Вытв. Багданка.

**Бальбіна**. Бальбина (стараням.) — адважная. Імяніны кат. 31.03; 2.12.

**Багуміла** (слав.) — мілая для Бога.

**Багуслава, Багуся**. Богослава (слав.) — слава Богу. Вытв.: Багуна, Багунка, Багуська, Багулечка.

**Бажэна**. Божена (слав.) — боская, Богам дараваная. Імяніны кат. 13.03.

**Барыслава** (слав.) — жан. імя ад мужч. імені Барыслаў.

**Барбара**. Варвара (грэц.) — іншаземка, дзікарка. Вытв.: Барбарка, Барця, Барціся, Варця, Варка,Варуся. Імяніны: пр. 17.12, кат. 4.12.

**Багіна**. Богна (слав.) — жан. імя ад мужч. Багдан. Імяніны кат. 20.06.

**Беата** (лац.) — шчаслівая. Імяніны кат. 6.09.

**Бернарда** (ад мужч. імені Бернард, са стараням. — дужы мядзведзь). Імяніны кат. 11.02.

**Біянка**. Бианка (лац.) — бялявая, белая. Імяніны кат. 2.12.

**Браніслава**. Бронислава — жан. імя ад мужч. Бронислав (слав.) — той, хто бароніць славу. Вытв.: Броня, Бронька, Бронечка. Імяніны кат. 1.09.

**Брыгіта**. Бригитта (кельцк.) — дружная, моцная. Імяніны кат. 1.02; 23.07; 8.10.

**Бэла**. Белла. Вытв. Бэлачка, Бэлка, Балуся, Балуля.

**Бяроза. Бярозка** (слав.).

**Валянціна. Валя**. Валентина (лац.) — дужая, моцная. Утворана ад мужч. імені Валянцін. Вытв.: Валюня, Валечка, Валька, Валянцінка, Валюнька, Валюшка, Валюнця, Валюська, Валюсёк, Валюсечка, Валюха. Імяніны пр. 23.02; 29.07.

**Валерыя, Валера**. Валерия (лац.) — бодрая. Утворана ад мужч. імені Валера. Вытв.: Валерка, Валерачка; Лера, Лерачка, Леруля, Леруня, Леруся. Імяніны: пр. 20.06; кат. 28.04; 5.06.

**Ванда**. Паходжанне не ўстаноўлена. Імя вядома беларусам, палякам і балгарам. Вытв.: Ваньдзя, Ваньдзечка, Вандачка. Імяніны кат. 23.06.

**Васа**. Васса (грэц.) — лясістая цясніна. Вытв.: Васачка, Васанька, Васюня, Васька, Вася. Імяніны пр. 6.07; 3.09.

**Васіліна**. Василиса (грэц.) — велічная, царыца. Беларускае жаночае імя ўтворана ад мужч. імені Васіль. Вытв.: Васілінка, Васюня, Васюнка, Васіліска. Імяніны пр. 21.01; 23.03; 28, 29.04; 16.10.

**Вера** (слав.). Ёсць меркаванне, што гэта пераклад на нашу мову грэц. імені Пісціс — «вера». Вытв.: Верачка, Верка, Верця, Варуся. Імяніны пр. 30.09.

**Веранікa**. Вероника (грэц.) — якая прыносіць перамогу. Вытв.: Віка, Вікуся; Ніка, Нічка; Фоня; Вярона, Вяронка, Вяроня, Веронця, Вера. Імяніны: пр. 17.10; кат. 13.01; 4.02; 17.05; 9, 12.07.

**Вікта, Вікторыя**. Виктория (лац.) — перамога. Вытв.: Віка, Віктуся, Вікця. Імяніны кат. 23.12.

**Вінцэся**. Винцентина. Утворана ад мужч. імені Вінцэсь. Вытв.: Вінцэсечка, Вінцэська.

**Веста**. Веста (рымс.) — багіня хатняга агню. Вытв.: Вестачка, Вестка, Вястуля.

**Веліміра** (слав.) — патрабуй міра. Вытв.: Вялічка, Велька, Велімірка, Веля, Велюня, Велюля.

**Віталіна, Віталя**. Утворана ад мужч. імені Віталь.

**Вірынея**. Виринея (лац.) — свежая, зялёненькая. Імяніны пр. 17.10.

**Вольга, Воля**. Ольга (сканд.) — святая. Вытв.: Воля, Волечка, Воленька, Волька. Імяніны: пр. 24.07; кат. 11.07.

**Вяргіня**. Виргиния. Вытв.: Вяргінечка, Вяргінька.

**Вяслава** (слав.) — скарочанае імя ад імені Вячаслава. Вытв.: Вяська, Вясечка, Вяслаўка, Вяславачка, Славачка. Імяніны кат. 22.05; 7.06.

**Вячаслава** (слав.) Утворана ад мужч. імені Вячаслаў. Вытв.: Вячаслаўка, Вячка, Вяслаўка.

**Віялета**. Виолетта. Вытв.: Вяля, Летка. Імяніны кат. 21.10.

**Галіна**. Галина (грэц.) — цішыня, спакой. Галіна (бел.) — сук з веццем. Вытв.: Галінка, Галіначка, Галя, Галька, Галюська, Галюсечка, Галюсёк, Галюня, Галюнчык; Галенька, Галечка, Галюля, Галюша, Гала, Галка, Галачка, Гэля, Гэлька, Гэльця. Імяніны: пр. 23.03; 29.04; кат. 1.07.

**Ганна**. Анна (яўр.) — Боская ласка, дар Божы. Вытв.: Ганначка, Ганка, Гануся, Гануля, Гана, Ганька, Ганьця, Ганулька, Ганулечка, Ганулiца, Гандзя, Гандзечка; Анка, Анця, Анцечка, Ганэта, Анэта, Аня, Анька, Анечка, Анюта, Анютка, Анютачка; Нюта, Анюра; Нюра, Нюрка, Нюрачка; Анюся: Нюся, Нюша, Нюшка, Ганарэта, Нюшачка. Імяніны пр. 23.02; 8.04; 25, 26.06; 18.07; 7.08; 10, 22.09; 15.10; 4, 11.11; 3, 22.12.

**Гардзіслава** (бел.) Утворана ад мужч. імені Гардзіслаў.

**Гарыслава** (слав.) Утворана ад мужчынскага імені Гарыслаў (той, хто гарыць славай).

*(Працяг будзе.)*

*Я чытаю Біблію*

# З гісторыі перакладаў Святога Пісьма

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 6, 7 і 8.)*

Без сумлеву, з ідэалогіяй Рэфармацыі Скарына быў знаёмы: падчас навучання яго ў Кракаўскім універсітэце ідэі Яна Гуса былі там надзвычай папулярнымі. Наведаўшы ў 1523 годзе Вітэнберг, наш першы друкар, верагодна, сустракаўся там з Марцінам Лютарам — перакладчыкам Біблii на нямецкую мову і ідэолагам нямецкай Рэфармацыі, за тры гады да таго адлучаным ад царквы. Праз год ягоныя аднадумцы пачалі ў Германіі грамадзянскую вайну — ці мог не ведаць аб гэтым Скарына?

Якраз таму, можна меркаваць, з усіх ідэяў Рэфармацыі Скарына ўспрыняў толькі адну: неабходнасць друкавання Біблii мовай народа. Першая ва Усходняй Еўропе друкаваная Біблія ўбачыла свет, і пра культурную значнасць гэтай падзеі было сказана і напісана шмат. Але наколькі каштоўнай была праца Скарыны для хрысціянства?

Вядома, што Гус, чэскім перакладам Біблii якога карыстаўся Скарына, дастаткова вольна трактаваў дагматы веры, імкнучыся з іх дапамогай абгрунтаваць сваё рэвалюцыйнае сацыяльнае вучэнне. Але ж таксама вядома, што на працягу ўсёй сваёй гісторыі хрысціянства імкнулася захаваць тэкст Святога Пісьма ад скажэнняў і максімальна наблізіць яго да першакрыніц — найбольш старых яўрэйскіх, грэцкіх і лацінскіх тэкстаў Біблii. Другасны ж, тэндэнцыйны пераклад ніводнай царквой ніколі не прызнаваўся за аўтэнтычны.

У якой ступені праца Скарыны адпавядае арыгіналу, можна даведацца, параўнаўшы спіс кананічных кніг, пададзены ў прадмове друкара да выдадзенай ім Біблii з кананічным спісам тэкстаў Святога Пісьма, што склаўся яшчэ на пачатку новай эры.

| Спіс кніг Біблii, складзены Скарынам | КАНАНІЧНЫ СПІС |
|---|---|
| | **СТАРЫ ЗАПАВЕТ** |
| Бытья | Быццё |
| Исход | Зыход |
| Леувит | Левіт |
| Числа | Лічбы |
| Вторый Закон | Другі Закон |
| Исус Наувин | Ісус Навін |
| Судей | Суддзяў |
| Руф | Руф |
| Четырех царства | I і II Самуіла |
| | I і II Царэй |
| Двое Паралипоменон | I і II Хронік |
| Двое Ездры | Ездры |
| Товиф | Ніхемії |
| Юдиф | Товіт |
| Есфир | Юдзіф |
| Псалтырион | Эсфір |
| Притчи | I ды II Махавеяў |
| Еклезиаст | Іов |
| Пьсни песнем | Кніга Псальмаў |
| Исуса Сирахова | Казанні |
| Премудрости Божией | Еклезіаст |
| Исайя | Песня Песняў |
| Еремия | Мудрасці Саламонавай |
| Езекииль | Мудрасці Сірахавай |
| Прарока Даниила | Ісаі |
| Меньших пророков | Ярэміі |
| I і II Махавеев | Плач Ярэміі |
| | Баруха |
| | Малых Пракаў |
| | **НОВЫ ЗАПАВЕТ** |
| Благовествование | Эвангелле паводле |
| Матфея | Мацвея |
| Марка | Марка |
| Луки | Лукі |
| Іоана | Яна |
| Послания Павла | Дзеянні Святых Апосталаў |
| Деания Апостолская | Пасланні Апосталаў |
| Седм соборных посланией | Апакаліпсіс |
| Апокалипсия | |

Дзеля ўдакладнення трэба дадаць, што ў сінадальным перакладзе, якім карыстаецца Руская праваслаўная царква, I і II Кнігі Самуіла ды I і II Кнігі Царэй называюцца I, II, III і IV Кнігамі Царстваў, Кніга Ніхеміі — II Кнігай Ездры, а Кнігі Хронік — I і II Параліпаменон.

Тым не менш, нават не ўжываючы тэксталагічнага аналізу, а толькі параўнаўшы склад і паслядоўнасць тэкстаў у гэтых спісах, можна зразумець: Біблія, выдадзеная Скарынам, мела адрозненні ад арыгінала. Дзеля перакладу тэксту такой значнасці і складанасці быў патрэбны час і веды, недаступныя аднаму чалавеку. Пацвярджэннем гэтаму можа служыць тое, што кананічны пераклад Біблii на расійскую мову быў надрукаваны толькі праз амаль дзевяць стагоддзяў існавання праваслаўя — у 1868—1872 гадах і абапіраўся ён не на славянскія пераклады сярэднявечча ці працы расійскіх перакладчыкаў XVII—XIX стагоддзяў, а на масарэцкія тэксты V—VIII ст.

Кананічны ж пераклад Святога Пісьма на беларускую мову застаецца справай будучыні.

**Падрыхтаваў У.П.**

# Аб мове перакладаў Ф.Скарыны

Для настаўнікаў, вучняў і абітурыентаў пэўную цяжкасць уяўляе характарыстыка мовы перакладаў Бібліі Ф.Скарынам, бо ў друку сустракаем супярэчлівыя яе ацэнкі. Так, У.Ігнатоўскі ў «Кароткім нарысе гісторыі Беларусі» піша, як Скарына зразумеў, што «лацінская ці старацаркоўнаславянская мовы не могуць задаволіць шырокія колы грамадства, таму пераклаў Біблію на сучасную яму беларускую мову». У «БелСЭ» (т. XII, 1975) напісана: «Ён выпусціў на мове блізкай да старабеларускай 23 кнігі Бібліі»... (с.392), а на с. 537 «...выданне Бібліі на старабеларускай мове». На старонках падручніка «Гісторыя Беларусі» для 8—9 класаў (1993 г.) чытаем: «Скарына з'явіўся абаронцам роднай мовы... Ён замацаваў родную мову ў высокай літаратуры сусветнага значэння... Аўтары «100 пытанняў і адказаў...» паведамляюць, што Скарына выдаў Біблію на беларускай літаратурнай мове. «Беларусы першымі атрымалі друкаваную кнігу на роднай мове». А.Петрашкевіч у часопісе «Полымя» (№ 1 за 1993 г.) напісаў, што беларусы пераклалі Біблію на дзяржаўную беларускую мову другімі ў свеце пасля чэхаў, каб «даць навуку дзеткам, а царкве і вернікам мудрасць боскую не на чужой, а на сваёй матчынай мове».

Такія сцвярджэнні разыходзяцца з трактоўкай у іншых навуковых крыніцах. У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (т.1) чытаем: Скарына, захоўваючы ў пражскіх кнігах Старога Запавету царкоўнаславянскую аснову, наблізіў іх мову да народнай. «Нарысы гісторыі Беларусі» сведчаць: Скарына не толькі пераклаў на тагачасную беларускую літаратурную мову (царкоўнаславянскую мову беларускай рэдакцыі) кнігі Бібліі, але пракаменціраваў іх, зрабіў больш прывабнымі і даступнымі для ўсіх слаёў насельніцтва (с.184). Масей Сяднёў у «Нашым слове» (№ 8, 1995 г.) піша: «Мова Скарыны — гэта, па сутнасці, царкоўнаславянская з беларускім і польскім уплывамі». Аб гэтых супярэчнасцях пісаў А.Жураўскі ў «Гісторыі сучаснай беларускай літаратурнай мовы». У перакладах асветніка ў большасці царкоўнаславянская мова з моцным элементам жывой беларускай і слядамі ўплыву чэшскай і польскай моў. «Пануючай тут была кніжнаславянская моўная стыхія».

На маю думку, трэба пагадзіцца з вызначэннем мовы вялікага патрыёта і перакладчыка, дадзеным У.Мархелем у часопісе «Роднае слова» (№ 6, 1994 г.). На яго думку, пераклад Бібліі Скарыны вылучаўся тым, што беларуская гутарковая лексіка спалучалася з стараславянскай. «Хоць Скарына выдаваў Біблію «для люду посполитого», тым не менш замест як мага паўнейшага перакладу біблейскіх сюжэтаў у моўную стыхію свайго народа, ён даволі стрымана карыстаўся беларускім гутарковым словам..., а схіліўся да стараславянска-беларускага моўнага кампрамісу...»

Сам Скарына размяжоўваў паняцці «рускій языкъ» (беларуская мова) і «словенскій языкъ» (кніжнаславянскі, царкоўны). На ім выдадзены «Апостал», «Псалтыр», «Малая падарожная кніжыца».

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**настаўнік-пенсіянер.**
г.Ашмяны.



*Уладзімір* **СВЯЖЫНСКІ,**
*кандыдат філалагічных навук*

**Гісторыя моваў на Беларусі**

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

***«А так ничога иншого не значат тыи слова, едно науку и праўду...»***
***«Выкладъ месцъ труднейшихъ» (тлумачэнні біблейскіх кніг), XVII ст.***

Зборнік № 107 Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы ўключае рэлігійныя навелы павучальнага зместу. У адной з іх, напрыклад, апавядаецца аб тым, як адзін цнатлівы і набожны епіскап, якога звалі Андрэем, не бачачы ў тым нічога благога, утрымліваў у сваім доме такую ж цнатлівую і набожную манашку. Аднак д'ябал рашыў скарыстаць гэты выпадак, каб спакусіць епіскапа яе прыгажосцю. У гэты час адзін яўрэй-хрысціянін заблудзіўся ноччу і, шукаючы сабе прытулку, увайшоў у паганскі храм. Апоўначы ён міжволі стаў сведкам зборышча злых духаў, на якім адзін з іх выхваляўся, як ён «умыслъ епископа уродою (г. зн. прыгажосцю) мнишки до покусы телесное побудил». Заўважыўшы ў храме яўрэя з крыжам, духі паразбягаліся хто куды, а яўрэй хуценька пабег да епіскапа і спытаў яго, хто яго спакусіў, што ён «оную мнишку долонью по задку ударилъ». Епіскап вельмі здзівіўся, адкуль яму пра гэта стала вядома. І яўрэй расказаў яму пра зборышча злых духаў, якое яму давялося назіраць. Напалоханы епіскап адаслаў са свайго дому ўсіх жанчын, якія пры ім жылі, і такім чынам «от покусы телесное згола волным зостал».

У рукапісных зборніках рэлігійнага зместу XVII ст. адлюстравана адна з важных рыс жывога беларускага вымаўлення — пераход *л* у *ў* (упершыню дасягае ўзроўню нормы, хоць і другараднай), што стала значным крокам у пераадоленні разрыву паміж пісьмовай і вуснай мовай старажытнага перыяду на фанетычным узроўні.

Гэты працэс знайшоў сваё завяршэнне толькі ў новай беларускай літаратурнай мове. Формы дзеясловаў прошлага часу адзіночнага ліку мужчынскага роду, якія ў папярэдніх тэкстах мелі як правіла канчатак *-лъ*, у разглядаемых рукапісных помніках часта заканчваецца на *-въ*, якое, трэба думаць, вымаўлялася як *ў: видевъ, гледевъ, закричавъ, захоравъ, зваливъ, исцеливъ, казавъ, нашовъ, живъ, отворивъ* і г. д. Тут заставалася толькі вынайсці спецыяльную літару для абазначэння *у* нескладовага, што было таксама зроблена толькі ў новай беларускай літаратурнай мове.

У рукапісах XVII ст. упершыню ўзроўню нормы, хоць і другараднай, дасягае адлюстраванне цвёрдасці шыпячых перад *и*. У папярэдніх помніках, нават у дзелавых, на працягу доўгага часу пануючымі былі традыцыйныя спалучэнні *жи, чи, ши, щи*. У разглядаемых тэкстах прыкметна пашыраны напісанні тыпу *прагнучый, спячый, триумфуючый, умираючый, чыстости, очы, обачыт, мовящый, плынущый* і г. д.

Рукапісы намнога радзей, чым друкаваныя кнігі, выкарыстоўваюць архаічную літару *амега*, якая ў іх ужываецца звычайна ў адпаведнасці з традыцыяй у пачатку слова. Часцей, чым дагэтуль, замест архаічнага *юса малога* для абазначэння гуку *а* з папярэдняй ётацыяй ужываецца больш блізкае да сучаснай літары *я а* ётаванае. Некаторыя з разглядаемых рукапісаў па ўзору дзелавых помнікаў зусім не ведаюць *юса малога*. Са сродку эканоміі месца ў скарапісных тэкстах у сродак **упрыгожвання** пісьма ператварылася надзвычай шырокае ўжыванне **вынасных** літар, гэта, як правіла, першыя літары збегу зычных і апошнія зычныя слова. Гэта сведчыць аб тым, што хаатычнасць старабеларускага кірылічнага пісьма на самой справе была ўяўнай, пісцы строга кіраваліся традыцыйнымі правіламі.

Разам з тым, як помнікі рэлігійных жанраў, разглядаемыя рукапісы не былі свабоднымі ад ужывання сродкаў царкоўнаславянскай мовы. Гэта дзеепрыметнікі цяперашняга часу з суфіксам *-щ-* тыпу *висящий, кающийся*, а таксама формы роднага склону прыметнікаў адзіночнага ліку мужчынскага роду з канчаткам *-аго, - яго* тыпу *великаго, возлюбленнаго, грешнаго, душевнаго.* Знарочыстасць, са стылістычнымі мэтамі ўжывання царкоўнаславянскіх суфіксаў і канчаткаў добра бачная на прыкладзе ўтварэння пры дапамозе іх формаў ад каранёў і асноў усходне- і нават заходнеславянскага паходжання: *воннаго (духмянага), жаднаго (ніводнага), забитаго, зацнаго (шаноўнага), квитнеющый.* Такія формы працягвалі ўжывацца ў рэлігійнай пісьменнасці на беларускай мове таму, што яны былі зразумелыя простаму чытачу.

«Выкладъ месцъ труднейшихъ» (Зборнік № 111 Бібліятэкі Акадэміі навук Украіны) — узор сярэдневяковай **экзэгезы** (тлумачэння Бібліі). Згодна з рэлігійным уяўленнем, тэкст Свяшчэннага пісання шматгранны, поўны таямніц і загадак, сімвалічны. Таму і ўзнікае неабходнасць расшыфроўваць, раскрываць сэнс і значэнне, растлумачваць свяшчэнныя пісьмёны, якія заключаюць у сабе разгадку таямніц сусвету і адказы на важнейшыя пытанні аб шляхах ратавання. У хрысціянскай традыцыі існавала думка, што чым бліжэй экзэгез стаіць да часу адкрыцця (откровения), тым больш у яго шанцаў пранікнуць у таямніцу Свяшчэннага пісання. Менавіта таму **«Выкладъ месцъ труднейшихъ» — каштоўная крыніца па семантыцы старабеларускай лексікі, бо аўтарам яго была асоба, для якой старабеларуская пісьмова-літаратурная мова была не мёртвай, як для нас, а жывой**. Аўтар помніка, па ўсёй бачнасці, цудоўна валодаў таксама грэцкай, лацінскай і старажытнаяўрэйскай мовамі, таму яго тлумачэнні цёмных месцаў біблейскіх кніг дастаткова аўтарытэтныя. У сваіх тлумачэннях аўтар карыстаецца арыгінальнай лацінскай тэрміналогіяй, таму яго тлумачэнні — узор старабеларускага навуковага стылю: «Нараменникъ. Латинницы supernumerale альбо superindumentum. Грецы епомис, жиды ефод, мы то преложили, нараменникъ, было тое одене верхнее от рамен аж до пояса. Бо его припасовано; А был двоякий, еден золотый и гиянцинтовый, которого навышший каплан уживалъ; другий был лняный для иншых капланов». У гэтым зборніку ўпершыню на ўзроўні нормы праведзена **уніфікацыя** канчатка меснага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду па творным склоне, што з'яўляецца і зараз нормай большасці беларускіх народных гаворак і стала нормай сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У разглядаемым помніку даволі частыя прыклады ўжывання уніфікаваных форм тыпу *о вшеляким пекле, в новым законе, при каждым месте, о римским панстве, в старым законе.* Упершыню ў такой ступені ў рэлігійных тэкстах у разглядаемых рукапісах пашырана ўласнабеларуская лексіка, якая таксама стала нормай сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Гэта словы накшталт *витэнье, выхованье, глупство, господыня, гостинец, девчина,*



«Першая старонка кнігі «Выкладъ месцъ труднейшихъ.» (Каментар да Кнігі Быцця).

*детинство, досконалость, дорослый, дужий, жаданье, жартъ, завжды, заховати, звычайный, згинуть, зникнути, знищенье, злочинство, клопотъ, коханье, коштовный, кошуля, лагодный, мерковати, нахилити* і шмат іншых.

Каб пераканацца ў тым, што старабеларуская літаратурная мова пазнейшага часу, адлюстраваная ў рукапісных рэлігійных тэкстах XVII ст., — гэта зусім самастойная мова, якая ўжо даўно не з'яўляецца ўсяго толькі свецкай разнавіднасцю царкоўнаславянскай мовы, варта супаставіць суадносныя ўрыўкі з Бібліі, выдадзенай у 1581 годзе на царкоўнаславянскай мове ў Астрогу Іванам Фёдаравым, і рукапіснага беларускага перакладу Бібліі пачатку XVII ст. **Біблія Івана Фёдарава**: предстасте две жене блудницы пред ц(а)ремъ, и стоясте пред нимъ И рече жена едина, въ мне есть беда г(оспод)и мои. азъ и си подругами, и живеве в дому едіном и породихове въ дому. И бысть по третіем дни рожеція моего, и роди и жена сія, и бехове сами между собою. и не бе никтоже с нами разве нас в дому наю. **Беларуская Біблія**: пришли две жене вшетечницы до царя, и станули перед нимъ, з которих одна рекла: прошу мой пане и я и тая невеста: мешкали есмо въ одном дому, и породила есмъ у неи в коморе. А третего дня потомъ яко есмъ породила, родила тежъ и тая, и были есмо посполу, а жаден инный не был з нами в дому, опрочъ насъ двойга.

ACADEMIA «NS»

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

1. **ПЕРАСТАЦЬ** (з інфінітывам: спыніць якое-н. дзеянне, занятак, выйсці з якога-н. стану) *(Міхась) замкнуўся ў сабе і нават перастаў загаварваць да Толі* (Якімовіч). *Спіць хлопчык, як забіты і кашляць перастаў* (Гарэцкі). **ПАКІНУЦЬ** *(Леў Раманавіч:) — Пакінем пра гэта гаварыць. Усё ў свой час...* (Асіпенка). *Сябры яго (Паўлюка) пакінулі смяяцца — яны захапіліся ўжо, гледзячы на гульню* (Мурашка). *Гадоў васемнаццаці ён (Лешак) пакінуў вучыцца і ўзяўся за гаспадарку* (Брыль). **КІНУЦЬ** *Сідор кінуў думаць, выйшаў на сярэдзіну вуліцы і пайшоў насустрач гутарцы* (Гартны). — *Незак.:* **Пераставаць, пакідаць, кідаць**.

**Перастаць 1.**

У англ. мове ёсць шэраг дзеясловаў з агульным сэнсам 'спыніць якое-н. дзеянне', ужыванне якіх залежыць ад стылю, характару дзеяння і г. д.

Асноўныя англ. адпаведнікі да прыведзеных **перастаць, пакінуць** наступныя: **stop, cease, give up, quit**. Апошні з іх — *quit* належыць да амер. варыянту англ. мовы. *Cease* з'яўляецца кніжным словам. Абодва дзеясловы аб'ядноўвае іх французскае паходжанне.

2. **ПЕРАСТАЦЬ** (пра дождж, снег) *Дождж перастаў на світанні, і хлопцы зараз жа пачалі рыхтавацца ў дарогу* (Маўр). *Снег ішоў нядоўга. Прыцерушыўшы зямлю, перастаў* (Мяжэвіч). **СПЫНІЦЦА** *У той год было сухое лета. Дажджы спыніліся з вясны. Штодзень у сінеч даль адзета. З адной дзьме вецер стараны* (Колас). *Гром цяпер, як незадаволены дзед-буркун, вуркатаў недзе за Расцяробамі, дождж сціхаў, а неўзабаве і зусім спыніўся* (Даніленка). **СКОНЧЫЦЦА** *Відаць, толькі скончыўся дождж. З голага веццяпадалі на зямлю, на ржавае апалае лісце буйныя кроплі* (Пішчыкава). *Грыбныя скончыліся ліўні, Туманы нікнуць да трысця* (Лось). **КОНЧЫЦЦА** *Дождж кончыўся так раптоўна, што не верылася* (Карпаў). **ПЕРАСЦІХНУЦЬ** разм. (паступова аціхаючы, перастаць). *Раптам на дол упала кропля, адна, другая, потым дзве разам. Адкуль бы гэта, калі дождж даўно перасціх і нідзе не нахмарвае?* (Пужанін). *Дождж перасціх, але над Дзвіной яшчэ імжыла і вясёлка не блякла, красавалася, упрыгожваючы неба і зямлю* (Хадкевіч). **ПЕРАЦІХНУЦЬ** *Вось і схлынулі хмары і дождж пераціх* (Панчанка). *Дождж пераціх, але ўсё роўна было золка і сцюдзёна* (Новікаў). **ПЕРАЙСЦІ** разм. *Міжвольна закрадвалася сумненне: «Ці ўсе адважацца выбрацца ў дарогу, калі дождж не пяройдзе?»* (Шыловіч). *(Сцяпан Юхневіч:) — Мокні ці не мокні, а сцірту адкрытаю не пакінеш. Так што тут адзіны выхад: націснуць і скончыць. Бачыш, дождж пераходзіць...* (Савіцкі). — *Незак.:* **Пераставаць, спыняцца, канчацца, перасціхаць, пераціхаць, пераходзіць.**

**Перастаць 2.**

Англійскімі сінонімамі да дзеяслова **перастаць** у гэтым ужыванні будуць два дзеясловы з папярэдняй групы адпаведнікаў да **перастаць 1**, менавіта **stop** і **cease**.

---

*Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»*

*Валянціна ВЫХОТА*

## Коласавы зернеткі

*Лузаў дзед добра свае злоткі:*
*Было за што кручок загнуць,*
*Было і ў краму з чым зірнуць.*

**Крама.** Ням. Kram m, с.-в.-ням. krām m 'расцягнутае палотнішча, пакрыццё шатра, гандлёвая лаўка, пакрыццё над месцам гандлю, куплены падарунак, тавар' (параўн. крамны, крамніна), krām(e)f 'лаўка дробязяў', 'тавар'. Св.-в.-ням. crām, 'будка на рынку', сярэдненіжненямецкае (с.-ніж.-ням.) krām(e) 'пакрыццё палаткі, пакрытая ільняной тканінай гандлёвая будка'. Потым будка з дошак, у якой раскладваўся тавар для продажу, далей маленькая крамка ў доме. Чыста нямецкае *krāma азначае 'пакрыццё, якое расцягваў вандроўны гандляр над сваім возам'.




Гравюра Міколы КУПАВЫ.

*А потым сталі барукацца.*
*Амброжык Кубел разгуляўся*
*Са ўсімі шчыра цалаваўся.*

**Кубел.** Ням. Kübel m Г. Пауль лічыць яго пазычаннем з с.-лац. cubellus памяншальнае с.-лац. cuba=cupa 'бочка'. С.-в. -ням. kübel, ст.-в.-ням.* kubil. С.-лац. cūpellus, -a 'мера збожжа; посуд для піцця', царк.-слав. kŭbĭlŭ 'мера збожжа'. Ф. Клюге мяркуе, што асноўным словам для ўтварэння Kübel, відаць, ёсць лац. cupa 'бочка'.

*На тым абшары, на шырокім,*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Лужкі, дарожкі, і пагоркі,*
*І купкі хвоек маладыя.*

**Купа**. Ням. Haufen m, с.-в.-ням. hūfe, ст.-в.-ням. hūfo; сярэдненіжненямецкае hūpe, герм. *haupa — абляўт, (індаеўрапеўскае чаргаванне галосных) у hūpon. Корань kūp-nó- Г.Пауль і Ф. Клюге дапускаюць роднаснасць са ст.-слав. kupŭ 'купа, куча'.

*Тут быў Базыль, Антось*
*Тацянін,*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Яшчэ Карусь, Паўлюк*
*Куртаты,*
*Сцяцок, Казюк Скарабагаты.*

**Куртаты**.Ням. kurz, с.-в.-ням., ст.-в.-ням. kurz запазычана з лац. curtus 'кароткі', першапачаткова 'адрэзаны', што адпавядае грэч. kartós дзеепрыметнік ад keírein, 'рэзаць'. Ранейшае запазычанне — ст.-в.-ням. kurz kurt. Форма kurt ёсць таксама ў ст. - саксонскім.

Kurz<лац>куртаты.

*А хлопцы проста збіліс з тропу*
*І ў нейкім страсе і ў захопу*
*На дзядзьку-кухара глядзелі.*

**Кухар**. Ням. Küche f, 'кухня', с.-в.-ням. küchen, ст.-в.-ням. chuhhina рана пазычана з позн.-лац. coquīna, ад coquo 'варыць, пячы, смажыць'.

---

*Урэшце!*

## Край без імя

*(Роздум над кніжкай)*

*Каталік бяжыць у касцёл*
*праваслаўны ў царкву*
*За кароўнік варона ляціць,*
*за мяжу дэпутат.*
*Спекулянт глядзіць на*
*Стамбул,*
*генерал на Маскву.*
*Толькі мокне адзін пад*
*дажджом*
*самотны вуніят...*

Гэта верш «Дэмакратыя» з апошняга паэтычнага зборніка гарадзенскага паэта Алеся Чобата. Зборнік мае шматзначную назву «Новая Галілея». Шматзначную асабліва ў супастаўленні з назвай кніжкі скандальнавядомага Славаміра Адамовіча «Зямля Ханаан». З назвы вынікае, што калі С.Адамовіч успявае Беларусь як зямлю Ханаана, сына Хама, праклятую Ноем, дык А.Чобат лічыць яе месцам новага нараджэння Хрыста... І — той самай Айчынай, якая не прызнае сваіх прарокаў.

Дарэчы, думка пра Айчыну, якая праганяе і губіць сваіх прарокаў, працінае ўсю кніжку: «Беларусь пустая забудзе мёртвых і прадасць жывых». А. Чобат, дарэчы, таксама належыць да тусоўкі «прарокаў у сваёй Айчыне» па многіх прыкметах: ён інтэлігентны, ён паэт, ён нацыянальна свядомы. А значыць, тут чужы. А яшчэ яго творчасць утрымлівае дзіўны сінтэз, характэрны для спрадвечнай беларускай ментальнасці: правінцыйнасці і еўрапейскай свядомасці. Увогуле мне здаецца, што паэзія Алеся Чобата — своеасаблівая квінтэсенцыя прынцыпаў маладой беларушчыны, узор мыслення Інтэлігента-адраджэнца. Тут і любоў да радзімы, змяшаная з пагардай, боль, змяшаная з надзеяй, мастацкасць, змяшаная з публіцыстычнасцю... Адчуваецца, што частка твораў, напісаная аўтарам падчас «пераможнай эйфарыі» адраджэнцаў, калі здавалася, што вось-вось «Мужык-На-Кані» пагоніць адсюль «апошняга расейскага маёра»... На жаль, у час шалёнага наступу антыбеларушчыны, наступу па ўсіх напрамках, падмацаванага ўсімі магчымымі фактарамі — прэсай, тэлебачаннем, літаратурай, уладай, рэлігіяй — гэтыя вершы ўспрымаюцца нашмат болей светла, чым трактаваў іх сам аўтар... Затое актуальнасць тых вершаў, якія напісаныя да «перамогі», рэзка ўзрастае... Сапраўды,

*...тое, што засталося —*
*чужое даўно, савецкае;*
*вырвалі месцу язык,*
*і не пад Божым сярпом*
*лапоча яго калоссе!*

Сапраўды, па-ранейшаму спадзяюцца «хлопы» на добрага цара, які іх «не абдзеліць», і ненавідзяць «бунтоўную шляхту», якая бунтуецца, пэўна, таму, што «не хоча рабіць»...

«Безнадзейнасць, бяссілле, бязладдзе...»

Вершы паэта люструюць час, у які напісаныя. Таму сёння можна толькі горка ўздыхнуць, чытаючы пра тое, што ў нас «будуць новыя пашпарты, як у Еўропе», «Праблема самога Адраджэння вырашаная — мова стала дзяржаўнай». Але ж як не пагадзіцца, што «А якая дзяржава — такая і мова»...

*Край без імя, прозвішча і года*
*нараджэння*
*спрабуе паўстаць з магілы,*
*робіць поспехі —*
*ужо стаіць на каленях...*

Што ж, 1100 паасобнікаў накладу «Новай Галілеі» надвор'я, што называецца, не зробяць. Але калі хоць некалькім выпадковым чытачам перадасца боль і надзея, роспач і любоў паэта, ён мае права прасіць, як у апошнім вершы зборніка, каб на ягоным магільным камені быў «герб таго краю, які не я выбіраў, понеже не чалавек выбірае Айчыну сваю».

**Чытач.**

## Літаратурныя прыколы ў Салігорску

Сёння беларуская літаратура намагаецца, і часам даволі паспяхова, далучыцца да еўрапейскіх і сусветных традыцый. Але апошнія — гэта не толькі нязвыклыя пакуль нашаму чытачу накірункі і стылі, але і сам лад жыцця творцаў. Сапраўды, ці можна ўявіць літаратурнае жыццё, напрыклад, Парыжа без багемы, плётак і г.д. Але тое самае ўжо сфармавалася і ў нас, толькі не кожны пра гэта ведае. У тым я мог пераканацца, слухаючы аповяды сяброў літаратурнага руху «Бум-Бам-Літ» пра іхні ўдзел у вечарыне, прысвечанай 585-м угодкам Грунвальдскай бітвы, што адбылася 15 ліпеня ў Салігорску. Іхнія прыгоды, я думаю, будуць цікавыя і вам, шаноўныя чытачы.

А прыгоды гэтыя пачаліся яшчэ ў Менску, калі стала вядома, што аўтобус арганізатараў, які павінен быў давезці хлопцаў да Салігорска, не прыйдзе. Ім анічога не заставалася, як толькі атабарыцца ў сталічным скверыку. Але трэба было дзейнічаць. Да запланаванага пачатку вечарыны заставалася ўсяго некалькі гадзін. Натхняла на дзейнасць і ўбачанае толькі што відовішча — фантан вышынёй з шасціпавярховік на адной з цэнтральных аўтастаянак.

Так ці інача «бум-бам-літаўцы» нейкім чынам апынуліся ў аўтобусе, што накіроўваўся ў Салігорск. Па дарозе пяцёра маладых літаратараў сустрэлі худога, у кепцы, калегу Валерыя Ларчанку, які сядзеў на слуцкім вакзале і... гандляваў семкамі. Ад прапановы далучыцца да канцэсіі апошні быў вымушаны адмовіцца. Што зробіш, бізнес ёсць бізнес.

Тым часам вечарыну ўжо трэба было пачынаць. Арганізатары апынуліся ў незайздросным становішчы і ламалі галовы: што рабіць? На іхняе шчасце, вядомы бард Валеры Пазнякевіч дабраўся-такі да Салігорска ў час, а ён хлопец гаваркі, і цэлую гадзіну паспяхова забаўляў публіку. Калі ў зале з'явіліся «бум-бам-літаўцы», публіка нават здзівілася. А калі яны выступалі, публіка здзіўлялася яшчэ больш. Нездарма пісьменнік Хведар Гурыновіч, які выйшаў на сцэну пасля паранаідальна-псіхадэлічнага напору Іллі Сіна, доўга «прабачаўся» перад слухачамі за... свае неавангардныя вершы. А балахон Сіна яшчэ надоўга, відаць, запомніцца прадстаўніцы гарвыканкама. «Паглядзіце, у што яны апранутыя!» — крычала яна. Зрэшты, не спадабаліся ёй, мяркуючы па ўсім, не балахон, а песня «Чырвоны вярблюд» Сержа Жука-Мінскевіча, якую варта было б зрабіць дзяржаўным гімнам экс-БССР, вершы Севы Гарачкі пра паталагічныя адносіны Леніна з дзецьмі, дый апавяданні Зміцера Вішнёва «Шчыры чалавек» і «Бочкавы краб». Але астатняя публіка эмоцый прадстаўнічых асоб не падтрымала, і дзякуй ёй за гэта.

Самае цікавае, безумоўна, адбывалася пасля, калі пачаўся звычайны для ўсіх гастроляў «джаз». «Бэбэлаўцы» не пайшлі штурмаваць сэрцы дзяўчат дый трэсці мірны горад, а спакойна зачыніліся ў сваім нумары гатэля дый пачалі размаўляць пра літаратуру (прынамсі, так яны мне сказалі). Асабліва вылучыўся тут транслагіст Алесь Туровіч, аўтар славутых Белага і Чорнага аркушаў. Ягоныя мудрыя словы, праўда, не спадабаліся Іллю Сіну, што той быў вымушаны скарыстаць газавы балончык, матывваўшы гэта сваёй канцэптуальнай нязгоднасцю з пазіцыямі Алеся, што рабіла ўсялякія дыскусіі немагчымымі. Алесю, зрэшты, амаль спадабалася. Але потым, калі эпатажнага Сіна паклалі спаць, Туровіч, ужо з крыху дрэннай артыкуляцыяй, пачаў спрэчку з вядомым літаратурным сапсуном Зміцерам Вішнёвым. Скончылася ўсё даволі звычайна — шклянкай гарэлкі за вялікую перамогу пад Грунвальдам.

Карацей, нягледзячы на стомленасць, вярталіся «бум-бам-літаўцы» дахаты вельмі неахвотна. І гэта добра, што прынамсі колькі чалавек з нашае гаротнае краіны здолелі так аптымальна праявіць свае творчыя здольнасці.

**Кастусь ЕЛІСЕЕЎ.**

*85 гадоў з дня нараджэння Ларысы ГЕНІЮШ*

# Трагічны і светлы лёс

У гэтым годзе, 9 жніўня, вялікай патрыётцы і выдатнай паэтцы Ларысе Геніюш споўнілася б 85 гадоў. Блізкае знаёмства з гэтай шчырай і цудоўнай беларускай стала для мяне сапраўдным падарункам лёсу. У сваёй «Споведзі» Ларыса Антонаўна па невядомых прычынах не згадвае свой апошні лагер, а менавіта Мардоўскі (п/с 385/6), дзе і я адбывала свой тэрмін. Знаходзілася яна там усяго некалькі месяцаў, якія вызначыліся тым, што адсюль яна выйшла на волю.

Засяроджуся на самым галоўным, а менавіта на тым, што засталося ў маёй памяці як самае дарагое і незабыўнае, — на сваім знаёмстве з Ларысай Геніюш. Неяк на прадвесні 1956г. у наш лагер з досыць памяркоўным кліматам сталі прыбываць этапы зняволеных з Інты, Варкуты, Нарыльска. Прывозілі знясіленых і хворых жанчын. З адным такім этапам прыбыла і Ларыса Антонаўна. З першых дзён да яе ўзнікла вялікая цікаўнасць як з боку зняволеных, так і з боку лагернага начальства. Яна была непадкупнай, і таму апынулася на цяжкіх работах. Нейкі час працавала нават асенізатарам. Але ў любых абставінах заставалася сама сабой — велічнай і гордай. Чым больш яе зневажалі, тым большым аўтарытэтам яна карысталася. Я з ёю разам працавала на швейнай фабрыцы. Норма была вялікая, і Ларыса Антонаўна з цяжкасцю яе выконвала, таму я нярэдка забягала да яе ў цэх і дапамагала ёй, пасля чаго мы вярталіся ў зону пазней за ўсіх. У лагеры знаходзілася каля 5 тыс. жанчын рознага ўзросту, і Ларыса Антонаўна да кожнай з іх знаходзіла словы суцяшэння і маральнай падтрымкі. Скажу шчыра: да мяне Ларыса Антонаўна нейкі час ставілася насцярожана, але хутка яе падазронасць мінула, і мы пасябравалі: часта сустракаліся, каб паразмаўляць. Для гаворкі выходзілі з барака на тэрыторыю зоны, дзе нас не маглі падслухаць «стукачы», якія сачылі за кожным крокам паэткі.

З вялікай цеплынёй і замілаваннем Ларыса Антонаўна ўспамінала гады, пражытыя ў Чэхаславакіі. Умела і пажартаваць: свайго мужа Івана Пятровіча жартам называла «мой сацыяліст». А гэта таму, што напрыканцы Другой сусветнай вайны Іван Пятровіч не пажадаў выехаць на Захад і яны засталіся жыць у Празе, дзе неўзабаве і былі арыштаваны і сасланы ў Сібір.

З вялікай зацікаўленасцю і разуменнем Ларыса Антонаўна выслухала мой аповяд пра моладзь з Пастаўскага і Глыбоцкага педвучылішчаў, якая пасля вайны аб'ядналася ў падпольны «Саюз беларускіх патрыётаў» з мэтай бараніць ад русіфікацыі нацыянальную школу і культуру. Пасля катаванняў і здзекаў удзельнікі Саюза, у які ўваходзіла і я, былі асуджаны на вялікія тэрміны зняволення. Расказала я таксама Ларысе Антонаўне, што яе вершы мы вывучалі ў час акупацыі ў школе.

Прыгадваецца такі эпізод. Калі ўжо стала вальней з лагерным рэжымам пасля смерці «бацькі народаў» і дазваляліся праводзіць культурныя мерапрыемствы, былая артыстка балета прапанавала мне прыняць удзел у мастацкім гуртку. Я адмовілася: маўляў, не тое месца, не той час. Ларыса Антонаўна мой учынак не ўхваліла. Яна сказала: «Ёсць, Алеська, магчымасць зрабіць добрую справу для людзей, то трэба яе рабіць. Мастацтва патрэбна людзям дзеля таго, каб яны канчаткова не здзічэлі».

І вось павінен адбыцца наш першы канцэрт у мужчынскай зоне лагера, дзе знаходзіўся Іван Пятровіч. Калі ўдзельніцы самадзейнага гуртка, у тым ліку і я, апынуліся на зоне зняволеных мужчын, усе яны, ад старога да маладога, выйшлі з баракаў нас сустракаць. Пасля канцэрта адбыліся танцы. Людзі гуртаваліся па нацыянальнасцях, шукалі сваіх. Нарэшце і я пазнаёмілася з Іванам Пятровічам Геніюшам і перадала яму ад Ларысы Антонаўны ліст і «пасху» — выпечаную ў кубку булачку і ячка, бо якраз на гэты час прыпадаў Вялікдзень. Івана Пятровіча я сустрэла ў асяроддзі пажылых інтэлігентных мужчын.

Неўзабаве павінен быў адбыцца яшчэ адзін канцэрт у мужчынскай зоне. На гэты раз Ларыса Антонаўна перадала мне свае новыя вершы і зварот да зняволеных беларусаў. Дамоўленасць была такая: перадаю пакунак таму, хто да мяне падыдзе са шкатулкай. Аднак напярэдадні паездкі ў артыстаў зрабілі вобыск, і сам начальнік рэжыму ўзяў з маёй тумбачкі вершы Ларысы Антонаўны. Канцэрт адмянілі. Я перажываю, што падвяла Ларысу Антонаўну, і чакаю выкліку ў камендатуру. Ларыса Антонаўна таксама занепакоена, але супакойвае мяне, што ўсю віну прыме на сябе. Ды, дзякаваць Богу, усё скончылася добра, бо гэты час распачала сваю дзейнасць камісія Вярхоўнага Савета СССР па разгляду спраў палітвязняў замежнага паходжання. У хуткім часе Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч былі вызвалены з Мардоўскага лагера і пераехалі ў Зэльву на Беларусь.



Яшчэ раз мне было наканавана лёсам сустрэцца з Геніюшамі на шасцідзесяцігадовым юбілеі паэткі. Я тады ўжо мела сваю сям'ю і жыла ў Карагандзе. За сталом ішла нягучная гамонка, успаміналі няволю. Сярод блізкіх гасцей быў і сын гаспадароў, які выхоўваўся ў Польшчы, — Юрка. У нейкі час Ларыса Антонаўна ўключыла кружэлку з запісам песень Забэйды-Суміцкага, і палілася песня «Зялёны дубочак», якая сагрэла душу, абудзіла надзею, што Беларусь будзе жыць. Дарэчы, гэту кружэлку, падараваную аўтарам, Геніюшы бераглі, як найвялікшы скарб. Дзе ж яна цяпер? Назаўтра настаў час развітвацца. На аўтастанцыю праводзілі Іван Пятровіч і Мікола Прашковіч. Ларыса Антонаўна прыпынілася ля веснічак і благаславіла нас у дарогу. Я азірнулася і ўбачыла, што яна плача. Ніколі такога не здаралася ў няволі.

На аўтастанцыі было шмат людзей, адчувалася, што за намі сочаць. І раптам прагучаў на ўвесь перон вокліч Міколы Прашковіча: «Жыве Беларусь!». Неўзабаве пасля гэтай падзеі Прашковіч памрэ пры загадкавых абставінах, у хуткім часе памрэ і Іван Пятровіч, Ларыса Антонаўна развітаецца з жыццём 7 красавіка 1983 г. Яе няма, але на небасхіле беларускай паэзіі яе зорка разгараецца ўсё ярчэй і ярчэй.

**Аляксандра ФУРС.**
г. Паставы.

***Скарбы вуснай народнай творчасці беларусаў***

*Гэтую легенду, запісаную А.Сержпутоўскім у вёсцы Зажэвічы Слуцкага павета ад Паўлюка Саўчыка, падаем не толькі як народны твор, але і як узор цудоўнай нашай мовы. Вось як гаварылі даўней у нашых вёсках! Ці ж можна параўнаць з сённяшняй трасянкай?*

# Чорт скінуўся бараном

Гэтак кала багатніка прычапіўся ка мне Янкель Чараваты да пачаў кучыць, каб я яго адвёз у Петрыкаў. Што тут рабіць, нельга адкаснуцца... Баба й не пускала, але я мусіў згадзіцца. От запрог я пару коней у лёгкія драбінкі, набіў дзяругу мурагу, узяў з паўасмінкі аўса, пасадзіў яго дай патарахцеў ва ўсю ноч. От раненька мы й прыехалі ў Смянтанічы, а к абеду — у Петрыкаў. Рад Янкель Чараваты, заплаціў умоўленыя дзесяць злотых да яшчэ, апрыч таго, даў мне добрую кватэрку. От пахарчаваў я коні, купіў сабе солі да тараноў, узяў жонцы лычка абаранкаў да запалачы дай папхаўся памаленьку назад. Еду памаленьку да й думаю сабе, ці не заехаць к сябру ў Млынок. У мяне, бачыце, з Яўхімам у Млынку заедныя пчолы, от затым мы й сябры. Падумаў я гэта да й звярнуў на Курыцічы. Толькі што я ўехаў у алёс, аж бачу стаіць кала самае дарогі вельмі гожы баран да так бляе, што аж мае коні не хочуць іці. Што за ліха, думаю сабе. Мае коні ніколі не былі наравістымі, а тут сталі бы ўкопаныя да й ні з места. Я й так, я й сяк, я й пад чэрава, я й пад хвост — хоць ты што, — на дыбы становяцца, а ўперад ні на пядзю. Злез гэта я з воза, узяў з дзяругі жмак сена, зайшоў уперад да й вяду коней за павады. Коні храпуць, але йдуць за мною. Толькі я параўняўся з тым бараном, як ён замекятаў да пабег у алёс. Перахрысціўся я, сеў на воз да па конях. Гнаў я, што есь духу, покуль прыехаў у Курыцічы. Супыніўся я кала карчмы да й зайшоў туды закурыць люльку. Улажу я ў карчму, аж там людзей поўна. Ведама, як у карчме, там стаіць гоман. Стаю я кала печы ды прыслухоўваюся, аб чом гавораць людзі; а яны ўсе, як у бубен б'юць, усе гамоняць аб том, якія хто бачыў страхі. Толькі ось падходзіць да мяне Гараська да й кажа:

— Чалавеча, з табою сягоннячы было ліхое здарэнне.

Як пачуў я тое, дак чуць не прысеў. Бачыце, я даўно знаў, што Гараська калдун, але не даваў веры, каб ён быў такі моцны знахар, што пазнаў маё здарэнне. Спалохаўся я Гараські, нічога яму не сказаў да хутчэй шамялях з карчмы. А ён мне ўдагонку:

— Пачакай, яшчэ сягоннячы будзе другое здарэнне.

Я ненарокам спалохаўся, але падумаў, што Гараська толькі шуткуе ці кпіць з мяне. Не ведаю, як я даехаў да Млынка да хутчэй к сябру. Сябер якраз у той дзень падглядаў пчолы. От давай ён мяне частаваць. Паставіў на стол пляшку гарэлкі, баба нарабіла на скавaрадзе. От давай мы піць да закусваць. А як трохі выпілі, дак адкуль тая гаворка ўзялася. Не вытрымаў я да й расказаў сябру, якое са мною было здарэнне і што мне казаў Гараська-калдун. Сябер і кажа:

— Эй, сябрэ, не вер ты Гараську, ён толькі чмуціць.

— Як жа, — кажу, — не верыць, калі ён усё бачыць, калі яму, мабыць, чэрці служаць.

От пагасціў я добра ў сябра да й збіраюся пхацца да гасподы, а Яўхім да й кажа:

— Чаго табе сунуцца, нанач гледзячы, начуй у мяне, а заўтра раненька халадком, як піць дасі, даедзеш да гасподы.

— Не, — кажу, — баба будзе сварыцца.

От упёрся я на сваём да й паехаў. Толькі я пераехаў за палянкаю пералесак да грэбельку, як ось зноў бачу, што пры дарозе стаіць баран. Пад'ехаў я бліжэй, дак ён узышоў да й стаў пасярод дарогі. Я гнаць коні, а тыя ані з места.

— Што тут рабіць, — думаю сабе. — Пачакаю, мо хто пад'едзе.

Баран бляе, коні храпуць, я сяджу на возе, бы на йголках, а шапка на галаве расце. Чакаў я, чакаў, аж напрыкрала.

— Чакай, — думаю, — папробую я зрабіць адну штуку.

У мяне з лейцаў было зроблена ў драбінках гертаванне. От я давай распутваць гертаванне да аслабаняць лейцы. Нарэшце распутаў я тыя лейцы, зрабіў з іх пятлю, злез з воза да й пайшоў уперад коней. Стаў я, прыпаравіўся да як шыбануў пятлю, дак акурат і закінуў таму барану на шыю. Не паспеў ён і варухнуцца, як я зашмаргнуў пятлю да й пацёг барана к сабе. Звязаў гэта я таго барана, узваліў яго на воз да й хацеў ехаць далей. Пагнаў гэта я коней, а тыя ані з места. Я б'ю, я гнаць, а коні пнуцца, аж жылы ў іх трашчаць, а не могуць пацягці воза. Бачу я, што гэта не просты баран, а якісь нячысцік, от я развязаў лейцы да й скінуў яго з воза. Баран забляяў, зарагатаў да й рассыпаўся па дарозе, бы мяшок жару. А коні як рвануць да панясуць, дак я думаў, што й костачкі мае растрасуць. Трымаюся я за аглабіны да малюся, каб Бог злітаваўся. Аглянуўся я назад, аж за мною прэ па дарозе, бы клубок з жару. Перахрысціўся я да й кажу:

— Згінь, ліхое, прападзі.

У той момант усё й згінула, а коні выбіліся з сілы да й супыніліся. Я ніколі не забуду, якога страху набраўся ў тую дарогу.

*Багатнік — свята Багач, або Другая Прачыстая, адзначалася 8 верасня; кучыць — вельмі упрошваць, енчыць; Смянтанічы — вёска, зараз у Петрыкаўскім р.; запалач — чырвоныя ніткі для вышывання; алёс, валёс, альса — нізіна, зарослая хмызняком; шамялях — шусь, раптам; гертаванне — замацаванне.*

# Кола сям'і

## Дазволім дзецям цешыцца радасцю раніцы...

### (Рэжым дня дзяцей: розныя меркаванні)

З «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы»: «Рэжым... 2. Дакладна ўстаноўлены распарадак жыцця, працы, адпачынку, і пад.»

Самое гэтае слова адразу выклікае ў нас, выхаванцаў савецкіх садкоў, школ, піянерскіх летнікаў рэакцыю інстынктыўна адмоўную. Хаця паняцце рэжыму ў педагогіцы такое ж неабходнае, як у літаратуразнаўстве паняцце сюжэта. Свае адметныя погляды на рэжым дзіцяці, якое выхоўваецца ў сям'і, мелі ўсе вядомыя педагогі, у педагогіцы ж савецкай, на фоне ўсенароднага «рэжымнага» існавання, рэжым зрабіўся нечым сакральным, прычым пад ім разумелася менавіта строгая дысцыпліна і пахвілiннае ўнармаванне паводзін. «У кожнай сям'і павінен існаваць такі парадак, каб найменшае парушэнне рэжыму было абавязкова адмечанае. Гэта трэба рабіць ад самага малога ўзросту дзіцяці, і чым бацькі будуць стражэй сачыць за выкананнем рэжыму, тым усё менш будзе парушэнняў і тым радзей пасля давядзецца звяртацца да пакаранняў», — пісаў «бацька» савецкай педагогікі А. С. Макаранка. Пацвярджэнне таму знаходзім у любым выданні па праблемах педагогікі савецкага часу: «Ганаровая і адказная задача стаіць перад кожнай савецкай сям'ёй: вырасціць пакаленне, якое будзе ўдзельнічаць у грандыёзным будаўніцтве камунізму. Для пабудовы камуністычнага грамадства патрэбны людзі высокаідэйныя, трывалыя, мужныя, якія ўмеюць працаваць арганізавана, планава.

Адной з важнейшых умоў выхавання здаровых, жыццярадасных, дысцыплінаваных дзяцей з'яўляецца арганізацыя правільнага рэжыму, г. зн. унармаванага распарадку жыцця», — цытуецца па кнізе Н.В.Русаковай «Рэжым дзіцяці-дашкольніка ў сям'і», выдадзенай у 1955 годзе ў Маскве. Гэткія ж адносіны да рэжыму сустракаем і ў выданнях пазнейшых, напрыклад, у «Энцыклапедыі маладой сям'і» (Менск, 1988): «Любыя кампаненты рэжыму дня павінны мець трывалы характар і выконвацца пастаянна». Вось так — катэгарычна і неабвержна. А між тым вялікі педагог Януш Корчак пісаў: «Паважайце цяперашні час і цяперашні дзень! Як дзіця зможа жыць заўтра, калі мы не даём яму жыць сёння свядомым, адказным жыццём?

Дазволім дзецям цешыцца радасцю раніцы і верыць. Менавіта так хоча дзіця. Яму не шкада часу на казку, на размову з сабакам, на гульню ў мяч, на падрабязнае разгляданне малюнка, на перамалёўку літары, і ўсё гэта любоўна. Яно мае рацыю...

Не дэспатычныя распараджэнні, не недаверлівы кантроль, а тактоўная дамоўленасць, вера ў вопыт, супрацоўніцтва і сумеснае жыццё!»А вось як апісвае Ян Корчак дзень «па рэжыму»: «Еш, хаця б і пад'еўшы, хаця б і з агідаю; кладзіся спаць, хаця б і са слязьмі, нават калі заснеш толькі праз гадзіну. Павінен, патрабую, каб ты быў здаровы.

Не гуляй з пяском, не хадзі растропай: патрабую, каб ты быў прыгожы...»

Доктар Бенджамін Спок гэтак апісвае спрэчку дзвюх маладых маці пра рэжым: «...адна з іх сказала тонам, які не дапускаў пярэчанняў: «Маё дзіця знаходзіцца на гнуткім рэжыме», а другая гэткім самым тонам адказала: «А маё — не!» Калі бацькі разважаюць так, як быццам рэжым харчавання — гэта нешта накшталт палітычных ці рэлігійных пераканнняў, мне здаецца, яны ўпускаюць галоўнае.

А галоўнае — гэта тое, што рэжым неабходны для карысці дзяцяці, з аднаго боку, і для зручнасці бацькам — з другога. Рэжым эканоміць вашы сілы і час... Што добра і зручна для бацькоў, тое добра і зручна для дзіцяці».

Сапраўды, у замежнай педагогіцы пераважвае індывідуальны падыход, і бацькам дазваляецца прыстасоўвацца да патрабаванняў дзіцяці. Сапраўды, адны дзеці спяць у шасцігадовым узросце належныя дванаццаць гадзін, другія — як ні старайся — не больш васьмі, і ніколі не засынаюць днём... Адны пачынаюць хадзіць у год, другія — у дзевяць месяцаў...

А вось некалькі малюнкаў з побыту знакамітай Артагенічнай школы доктара Бруна Бэтэльгейма ў ЗША. У гэтай школе лечаць дзяцей, якія ўразладзе са знешнім светам. Момант пад'ёму — самы цяжкі, момант першага кантакту з варожым светам (успомніце нашы піянерскія «пабудкі» ў летніках — гучнае плясканне ў далоні піянерважатай, крык «пад'ём», фальшывы і пранізлівы гук горна...) У школе Бетэльгейма выхавацелька ўваходзіць у спальню і раскладвае на тумбачкі талерачкі з усякімі смачнымі рэчамі... Тут кожны можа ўставаць і класціся, калі захоча. Ёсць у школе і «салодкі пакой» — ён запоўнены цукеркамі, пячэннем, пірожнымі. І калі маленькаму чалавеку блага, ён можа зайсці сюды, і на душы яму зробіцца весялей...

У школе няма зачыненых дзвярэй... Са школы можна выйсці, калі хочаш, і вярнуцца, калі захочаш... Гэта — Школа, якая вучыць жыць...

З усяго напісанага, працытаванага тут, можна рабіць высноў, можна згаджацца і абурацца з асобнымі момантамі. А можна прыняць перш за ўсё прынцып Яна Корчака, які гаворыць, што няма такога педагагічнага вопыту, які б можна было засвоіць тэарэтычна.

**Л. ШНІП.**

## Будзьма ў сямейным гуморы

### Афарызмы

Што да шчасця, то мае яно толькі адно выкарыстанне: робіць магчымым няшчасце.

**Марсель Пруст.**

Пацалункі — тэрмометры кахання. Яны даюць нам магчымасць даведацца пра ступень небяспекі гэтай хваробы.

**Невядомы мысліцель.**

Рабіць памылкі — не найгорш. Сама горш — затойваць памылкі.

**Бэртальт Брэхт.**

Як правіла, кожныя пары перад шлюбам шчаслівыя. І толькі пасля — сумеснае жыццё стварае розныя супярэчнасці.

**Невядомы мысліцель.**

### Нявестка вінавата
### (З народнага гумару)

Нявестка пайшла ў краму па соль. Свякроў жа выпусціла з хлява свіней, каб накарміць, а пасля забылася загнаць іх. Свінні тым часам залезлі ў агародчык і парылі грады.

Убачыў гэта свёкар і пачаў лаяць жонку:

— Столькі шкоды нарабілі — ты вінавата!

— Я вінавата? — апраўдваецца тая. — Гэта нявестка вінавата!

— Яе ж дома не было.

— Дык вунь яе андарак вісіць.

### Дар-за-дар

Нарачоныя абмяркоўваюць усе магчымыя праблемы, што могуць узнікнуць у сямейным жыцці. Маладзён дый кажа сваёй абранніцы:

— Мушу табе сказаць, каханая, што нас чакаюць не толькі святы і раскоша. Калі мы пажэнімся, ты павінна будзеш варыць мне абеды.

— А ты павінен будзеш іх есці!

## Аптэка танных лекаў

### Авёс

У аўсяным зерні параўнальна шмат крухмалу, тлушчу, бялку, амінакіслотаў і мінеральных рэчываў. Навукоўцы выявілі ў ім арганічныя кіслоты, вітамін Е, стэроідныя сапаніны ды іншыя неабходныя для нармальнай жыццядзейнасці рэчывы. Відаць, таму навуковая медыцына раіць аўсяную муку як дыетычны сродак для людзей, якія папраўляюцца пасля цяжкай хваробы, а таксама пры запаленнях страўнікава-кішачнага тракту. Суп з аўсяных крупаў — карысная дыетычная страва для тых, хто хварэе на туберкулёз. У такіх выпадках раяць даваць адвар аўсянага зерня разам з мёдам. Аўсяны кісель выкарыстоўваюць як сродак для лячэння хворых, што мучацца страўнікавымі і кішачнымі хваробамі.

Зерне аўсу выкарыстоўваецца ў жоўцягонных зборах (самы просты: дзве шклянкі аўсу заліць літрам вару, даць пастаяць 20 хвілін, працадзіць і піць астуджаным па паўшклянкі тры разы штодзённа).

Эксперыментальнымі даследаваннямі даказана, што аўсянае зерне паніжае ўзровень халестэрыну і ліпідаў у крыві і печані курaнят. Верагодна, таму, што аўсяныя крупы маюць ліпатропныя ўласцівасці, іх выкарыстоўваюць для лячэбнага харчавання пры хваробах сэрца і печані. Стравы з аўсяных крупаў (без малака) раяць ужываць пры хранічным свінцовым атручванні. Варта піць настой аўсянага зерня (шклянку аўсянага зерня кіпяціць з 2 шклянкамі вады на пары, пакуль не выпарыцца палавіна вады, працадзіць і дадаць дзве сталовыя лыжкі мёду, пракіпяціць 5—10 хвілін і піць па паўшклянкі 2—3 разы на дзень) пры затрымках мачы, асабліва, калі гэтая з'ява ўзнікла ад сардэчнай недастатковасці.

Народная медыцына прызнае, што лекавымі ўласцівасцямі валодае і аўсяная салома. Адвар яе ў сумесі з дубовай карой выкарыстоўваюць для лячэння дыябету, мочакаменнай хваробы, для ваннаў пры патлівасці ног.

### Аронія

Ягады гэтага хмызняку, што называюць яшчэ чарнаплоднай рабінай, маюць шмат біялагічна актыўных рэчываў, у тым ліку руцін, які спрыяе лячэнню хвароб сэрца і крываносных сасудаў. Апроч таго, у гэтых ягадах шмат арганічных кіслот, глюкозы, фруктозы, сахарозы, а таксама вітаміну С, караціну, нікацінавай кіслаты, дубільных і пекцінавых рэчываў. Ягады аронii маюць арганічных кіслот больш, чым мандарыны, суніцы, маліны, парэчкі. У іх шмат мікраэлементаў: бор, жалеза, медзь, ёд, якога ў пладах аронii амаль столькі, колькі ў пладах экзатычнага фейхоа, што вядома як канцэнтратар ёду.

Плады аронii — каштоўны лекавы і прафілактычны сродак. Яны валодаюць процісклератычнымі ўласцівасцямі. Для лекавых мэт могуць выкарыстоўвацца свежы сок або цэлыя ягады. Але лячэнне сокам і пладамі аронii не раяць весці пры язве страўніка і дванаццаціперснай кішкі, а таксама пры гастрытах з павышанай кіслотнасцю.

Таблеткі з пладоў аронii выкарыстоўваюць пры лячэнні кровацячэння рознага паходжання, гіпертанічнай хваробы і гемарагічных дыятэзах.

**З.С.**

## Здароўе

*Таццяна ФАМІНА,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

# Неўрозы

Усе хваробы ад нерваў, — сцвярджае вядомы жарт. І гэта блізка праўды. Разладжванне нервовай сістэмы пачынаецца з малога, як вы ўжо ведаеце з артыкула «Стомленасць». Такія перагрузкі, калі іх своечасова не спыніць, могуць спрычыняць разлад нервовай сістэмы. А яна — як спружына: моцна напятая, перастае выконваць сваё прызначэнне. Тады ўзнікаюць неўрозы.

Неўроз — гэта функцыянальны разлад вышэйшай нервовай дзейнасці, абумоўлены перанапружаннем і ўздзеяннем розных з'яў ды выпадкаў, якія адмоўна ўплываюць на чалавечую псіхіку.

Неўрозы залежаць ад тыпу вышэйшай нервовай дзейнасці чалавека. Прыкладам, у людзей мысліцельнага тыпу — схільных да развагі, мыслення, — узнікае пераважна псіхастэнія, у асоб так званага мастацкага тыпу — істэрыя, а ў людзей прамежкавага тыпу — неўрастэнія. Апроч асаблівасцяў характару асобы, узнікненню неўрозаў спрыяюць знешнія фактары. Адным з самых небяспечных з'яўляецца неўладкаванасць асабістага жыцця ды *нялад у сям'і*. Канфлікты на працы і падчас выканання грамадскіх абавязкаў таксама могуць спрычыніцца да ўзнікнення захворвання. Але калі блізкія і родныя клапоцяцца пра чалавека, схільнага да неўрозаў, то хваравіты стан лёгка паправіць. Асабістая ж драма чалавека, якую нельга паправіць ніякімі поспехамі ў працы ці вучобе, будзе толькі адмоўна ўздзейнічаць на хворага.

Апроч псіхічных уздзеянняў, на неўратычным стане чалавечага арганізма адбіваюцца захворванні ўнутраных органаў, крыві, не кажучы ўжо пра анкалагічныя хваробы ды пашкоджанні, траўматычныя і фізіялагічныя, мазгоў. Яны могуць аслабляць нервовую сістэму, або само развіццё захворвання суправаджаецца неўратычным сіндромам.

Навукоўцамі вылучаны чатыры асноўныя віды неўрозаў: **неўрастэнія, істэрыя, псіхастэнія і неўроз неадчэпнага стану.**

**Неўрастэнія** — самы распаўсюджаны від неўрозу. Хворыя, якія мучацца неўрастэніяй, скардзяцца на агульную слабасць, хуткую стамляльнасць, бяссонніцу, боль у галаве, страту памяці ды разлад палавой дзейнасці. Для неўрастэнікаў уласцівая павышаная адчувальнасць да нават слабых раздражняльнікаў, але ўспыльчывасць іх непрацяглая, і яны хутка супакойваюцца, а жанчыны, звычайна, схільныя да плачу.

Хворыя звычайна скардзяцца, што яны не могуць працяглы час канцэнтраваць сваю ўвагу, часта адчуваюць шум у галаве, кружэнне галавы і «мушкі» перад вачыма. Часта скардзяцца такія асобы на боль у сэрцы, на змяненне сардэчнага рытму, адсутнасць апетыту і парушэнні дзейнасці страўнікава-кішачнага тракту.

### Дапамога

Калі чалавек сам не можа пазбыцца прычыны неўрастэніі і спраўляцца з сваім станам робіцца ўсё складаней, неабходна звярнуцца да неўрапатолага або псіхатэрапеўта. Але, перш за ўсё, такі чалавек мусіць наладзіць свой рэжым работы і харчавання ды адмовіцца ад шкодных звычак: не працаваць ноччу, не піць аначкаву і моцны чай, абмежаваць колькасць выкураных цыгарэт. Для тых, хто ноччу не можа заснуць, раяць пахадзіць перад сном па вуліцы, зрабіць масаж шыі ўздоўж хрыбетніка. Можна параіць хвойныя і валяр'яна-хвойныя ванны (бутэлечку хвойнага экстракту або дзве бутэлечкі валяр'янавай настойкі з адпаведнай колькасцю хвойнага экстракту ўліць у ванну, тэмпература вады ў якой не перавышае 37 градусаў). Ляжаць у вадзе можна 15—20 хвілін, але варта сачыць, каб калясардэчная частка грудзей не была пад вадой. Некаторым людзям дапамагаюць заняткі фізкультурай і лёгкая праца ў агародзе, садзе — важна, каб чалавек адыходзіў ад сваіх штодзённых клопатаў і хоць на кароткі час пазбываўся адмоўных раздражняльнікаў.

*(Працяг будзе.)*

# «Плач, саксафон!» Радуйся, глядач!

У дзяржаўным тэатры-лабараторыі нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна» яшчэ вясной адбылася прэм'ера новага спектакля па п'есе Ігара Сідарука «Плач, саксафон!» Ажыццявіў пастаноўку Казімір Малькові. Надзённасць працы рэжысёра і драматурга прымушаюць мяне, хоць і пазнавата, але ўсё ж выказацца.

Амаль тры гады назад тут, на падмостках «Вольнай сцэны», убачыла свет прэм'ера першай п'есы маладога аўтара «Галава». З таго часу І.Сідарук напісаў 12 п'ес, пяць з якіх трывала ўвайшлі ў рэпертуар лялечных тэатраў Беларусі. Найбольш значныя пасля «Галавы» п'есы «Затурханыя» і «Ехаем» вытрыманы ў традыцыях тэатра абсурду. Свой новы твор — меладраму «Плач, саксафон!» сам І.Сідарук лічыць яшчэ больш «абсурднай», чым «Галава».

Так гэта ці не — мяркуйце самі.

Ва ўтульным гатэлі невялікага правінцыйнага гарадка з'яўляецца спадар С. — даволі значная фігура ў дзелавых і палітычных колах дзяржавы. Калісьці ў гэтым гарадку прайшло яго дзяцінства, юнацтва і першае каханне. Абставіны прымусілі яго здрадзіць і свайму каханню, і свайму прызначэнню музыканта. З іншай жанчынай герой пераязджае ў сталіцу, дзе яму спадарожнічаюць поспех і ўдача. Аднак у душы жыве адчуванне, што ён страціў нешта большае за дабрабыт і высокае грамадскае становішча, таму кожны год ён наведвае родны гарадок і, спыніўшыся ў гатэлі, з асалодай наігрывае на саксафоне незабыўныя з юнацтва мелодыі. Аднойчы да яго ў пакой трапляе незнаёмая дзяўчына Анэля. Спадар С. непрыязна сустракае нечаканую госцю, спрабуе ад яе пазбавіцца. Гэта сустрэча прыводзіць да трагічнага выніку. Герой гвалціць дзяўчыну, як высвятляецца, — сваю ўласную дачку, аб існаванні якой дагэтуль нічога не ведаў. Нягледзячы на такую развязку, Анэля і яе бацька прыходзяць да ўзаемаразумення. Аднак здараецца непапраўнае: гучаць пісталетныя стрэлы, і герой гіне ад рукі невядомага забойцы. Узрушаная смерцю бацькі Анэля выкідваецца з акна гатэля і гіне.

Безумоўна, аўтар стварае займальны сюжэт і дакладна выверaную кампазіцыю п'есы. Аднак ні лірычна-ўзнёслы нестрой персанажаў, ні багацце дынамікі драматычнага дзеяння не кампенсуюць істотнага творчага праліку п'есы — надуманасці канфлікту. З гэтай нагоды ўспамінаецца творчая пазіцыя Шэкспіра, які не імкнуўся прыдумваць новыя сюжэты, а ў аснову значнай большасці сваіх твораў браў рэальныя жыццёвыя і гістарычныя сітуацыі.

Хутчэй за ўсё, і сам І.Сідарук у значнай меры адчуў неадпаведнасць жыццёвай праўдзе асноўных падзей меладрамы. Мабыць, таму, даючы характарыстыку ўласнай п'есе, ён адносіць яе да жанру тэатра абсурду, страціўшага на сённяшні дзень мастацкую актуальнасць.

Патрабавальна паставіўся да сваёй творчай задачы рэжысёр Казімір Малькові. Добра ўсведамляючы адзначаны недахоп меладрамы, ён адважыўся на пераакцэнтоўку драматычнага канфлікту і вылучэнне ўласнай, несупадаючай з аўтарскай, ідэі спектакля.

Дзякуючы значнай перапрацоўцы тэксту п'есы і ўвядзенню дадатковых выяўленчых сродкаў, рэжысёр надаў твору больш выразнае сэнсавае гучанне. Цэласнасць вобразнай сістэмы і разнастайнасць мастацкіх прыёмаў, падпарадкаваных максімальнаму выяўленню ідэі, пераўтвараюць не надта выразны па сваіх літаратурных якасцях драматычны твор у яркае запамінальнае відовішча. Трагічная гібель герояў меладрамы, здольных і адораных людзей, не здолеўшых цалкам раскрыць сябе ў неспрыяльных варунках лёсу, пераканаўча падкрэслівае галоўную думку рэжысёра аб тым, што краіна павінна бараніць таленты. Хаця, памойму, сцэнарыст мог бы «дацягнуць» канфлікт да большай праўдзівасці, наогул збіць налёт надуманасці, штучнасці сюжэта.

У працы з артыстамі рэжысёр спрыяў максімальнаму раскрыццю іх творчых магчымасцей у межах мастацкай задачы. Праўдзівы вобраз галоўнага героя твора стварыў артыст Юрась Жыгімонт. Яркае ўражанне пакінула па сабе ігра Валерыі Арланавай, выпускніцы тэатральна-мастацкай акадэміі, якая выканала ролю Анэлі — сваю першую ролю на прафесійнай сцэне.

Пастаноўка гэтага спектакля яшчэ раз пацвердзіла бясспрэчнасць вядомага пастулата — вяршэнства ролі рэжысёра ў выканаўчай трыядзе: драматург — рэжысёр — акцёр. З дапамогай мастацкага кіраўніка тэатра, заслужанага дзеяча мастацтва, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерыя Мазынскага Казімір Малькові стварыў выдатны спектакль.

Варта адзначыць вялікія патэнцыяльныя магчымасці Мальковіча-пастаноўшчыка, які атрымаў грунтоўную прафесійную падрыхтоўку на акцёрскім факультэце Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва ў Маскве і на рэжысёрскім факультэце Ленінградскага дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва. Прыкладам можа служыць факт выкарыстання ім у спектаклі «Плач, саксафон!» маналогаў з класічнага тэатральнага рэпертуару. Тут і Шэкспір, і Чэхаў, і Сартр — класіка, якая ўводзіцца ў спектакль арганічна. Шкада, што прэм'ера спектакля не мела патрэбнай рэкламы. У выніку цікавы спектакль прайшоў амаль незаўважаным у сталіцы. Спадзяёмся, што гэта публікацыя выправіць становішча.

**Багуслаў УНГУР,**
**заўзяты тэатрал.**

---

# Святочны каляндар беларусаў

Першы месяц самай багатай пары года — восені, пра якую гавораць: «Вясна з краскамі, а восень са снапамі», «Ужо восень: арэм, а не косім», «Восеньская ноч на дванаццаці вазах едзе», «Восень ідзе і дождж за сабой вядзе».

Асноўныя святы верасня: *«Жаніцьба коміна»* як водгук сустрэчы Новага года першапачатковага перыяду ўвядзення хрысціянства; *Багач* — свята восеньскага раўнадзенства; *Узвіжанне* — рух змей і вужоў пад зямлю, усяго — з поля.

Верасень мае трыццаць дзён. На яго прыпадае з 22 на 23 восеньскае раўнадзенства, калі, як і на ўсе чатыры святы сонцаваротаў, лічылася, што «сонца іграе». («На верасень сініца просіць у госці восень»; «Халодны верасень, ды сыты»; «Як настаў верасень, дык туман кожны дзень»; «На верасень з досвіткам дзень»)

**1** (пятніца). **Ун.** *Пачатак царкоўнага года.*

**5** (аўторак). **Народны каляндар.** *Лупа.* «На Лупа жыта купа». Канец уборкі жыта і пачатак уборкі аўса і лёну, бо «Лупа іх лупіць». Цікавае павер'е, што нельга сеяць жыта, калі ведаеш пра свята, бо жыта вырасце з прагалінамі, а калі не ведаеш і пасееш, то будзе добры ўраджай. Часам Лупу называюць брусьнічнікам, бо брусніцы паспелі і ўжо трэба жаць авёс.

**7** (чацвер). **Народны каляндар.** *Баўтрамей.* «Прыйшоў Баўтрамей — жыта на зіму сей»; «Святы Баўтрамей засылае буслоў па дзяцей» — гэта выключнае назіранне-прыказка аб адлёце птушак на дзевяць месяцаў і напамінак, што набліжаецца пара шлюбаў.

**8** (пятніца). **Кат.** *Нараджэнне Найсвяцейшай Марыі панны — Маці Божай Ружанцовай.* **Ун.** *Нараджэнне найсвяцейшай Багародзіцы.* Народная назва свята: *Другая Прачыстая, Малая Прачыстая, Другі Святок.* У Заходняй Беларусі казалі: «Прыйшла Меншая Прачыста, канчай сеяць начыста».

**10** (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля перад Узвышэннем.*

**Народны каляндар.** *Мацей,* прысвятак. Лічылася, што святы бароніць ад запойнага п'янства, таму прысвятак асабліва шанавалі жанчыны.

**11** (панядзелак). **Прав.** *Адсячэнне галавы Іаана Прадцечы.*

**Народны каляндар.** *Калінавік, Іван-галавасек, Крываўнік, Посны, Рэпны, Лятун.* Ва ўсіх шматлікіх назвах адлюстраваны прыкметы гэтай вераснёвай пары. Тое ж і ў прыказках: «Посны — восені бацька хросны»; «Посны прыйшоў — лета забраў». У валачобнай песні пра Калінавіка спяваюць, што ён «рунню сцеле, бульбу капае». На Усходнім Палессі дзяўчаты вечарам выходзілі за сяло спяваць песні.

**11—18 — тыдзень, які часам называлі «летам маладзіц».** Час самай актыўнай восеньскай працы, дакладней не завяршэнне. Дзе-ні́дзе гэта быў час маладзіц, якія мінулай восенню выйшлі замуж. У канцы тыдня яны збіраліся для «запрадзення», пасля чаго ладзілі вячоркі-застоллі, наймалі музыку, спявалі, скакалі. На Цэнтральным Палессі ў гэтых вячорках удзельнічалі і іх «чалавекі».

**13** (серада). **Народны каляндар.** *Жаніцьба коміна* — рэгіянальнае (Заходняя Гомельшчына) свята ўшанавання агню перад будучымі халадамі. Гэта водгук пераносу сустрэчы Новага года з вясны на восень пасля ўвядзення хрысціянства ў Вялікім Княстве Літоўскім з 1493 па 1700 год. Народная традыцыя ператварыла яго ў свята Стоўпніка — месца сакральнага захавання агню на прыпечку ля печы, якое атрымала назвы Коміна, Лучніка, Посвета.

Сам комін — вельмі старажытная з'ява таго перыяду, калі ў хаце не было печы. Гэта абмазаны глінай дымаход, які знаходзіўся пасярод хаты, унізе пад ім металічны лучнік, дзе палілі лучыну, пад ім цэбар з вадой ад пажару. Комін выходзіў у адтуліну ў столі, куды ішоў дым. Перад «жаніцьбай», на якую збіралася ўся грамада, гаспадыня ўпрыгожвала комін краскамі, гаспадар крапіў яго свянцонай вадой і казаў замову: «Паздароў, Божа, дзядуся, бабусю, дзядзькоў, дзетак, чаляднікаў, сяброў і дабрадзеяў! Абарані худобку, конікаў, каровак для дзетак і зарадзі хлябец, жыта, пшаніцу і ўсякую пашніцу, абарані пчолак, вынесь іх на красну вясну, прыспор мядку і воску. Дай, Божа, каб нашаму роду не было пераводу, каб рэкі цяклі навекі».

З музыкай, песнямі, прыпеўкамі ў дом, дзе жэняць коміна,

**«У верасень у гаспадара поўнае гумно і кішэнь»**

збіраюцца ўдзельнікі абраду, упрыгожваюць яго, водзяць вакол карагоды, спяваюць наступную сакральную песню:

*Ой, прыйшлі ночанькі даўгенькі,*
*Пасвяці нам, комінку беленькі.*
*Мы ж цябе кветкамі ўбіралі,*
*Бервяночкай-рутай аперазалі.*
*Праца наша — дзеўка гарненька,*
*Палюбіці коміна радзенька.*
*Мы ж цябе будзем жаніці,*
*Медавуху і квасок наліваці.*
*Свяці ж, камі́ночку, ясненька,*
*Пабуджай чаляданку раненька.*
*Шыці, прасці, ткаці маладым,*
*А падарачкі сабіраці старым.*
*Камі́ночку, ты нам дагаджай,*
*Кручу, верчу і буры праганяй.*
*Дым і сажу нясі ворагам,*
*Свет, ахвоту і радасць пашлі нам.*
*Гаспадыня наша, паглядай,*
*Мядочку-квасочку падлівай.*

«Комін» тут выглядае маладым, якога трэба ажаніць на хатняй працы зімой, каб ён «не патух». Культ агню тут, як бачым, атрымаў выключную гульнёвую алегорыю, якая пераклікаецца з «жаніцьбай Цярэшкі», «Жаніцьбай свечкі» і інш.

**14** (чацвер). **Ун.** *Узвышэнне Пачэснага і Жыццядайнага Крыжа* (свята ў гонар Крыжа, на якім быў распяты Хрыстос).

**Народны каляндар.** *Сымон (Стоўб, Стааўбцы, Стоўпнік, Летаправодзец, Сявец)* — апошні дзень пасеву азімых: «Сымон — з поля вон»; «Святы Сымон — сявец дамоў»; « У Сымонаў дзень да абеду ары, а пасля абеду аратага з поля гані». У прыказках адзначаецца зменлівы характар надвор'я і адлёт птушак: «Сымон да варот — на дварэ сем пагод: сее, вее, муціць, круціць, зверху лье, знізу мяце»; «На Сымона ластаўкі ў ваду хаваюцца».

На Смаленшчыне праводзілі абрад «Жніво». Апранալі сноп у лялька Салоху, ставілі ў кут, садзіліся на чапялу і скакалі па хаце з прыказкай: «Чарнушнікі (мухі) — вон, а бялушнікі (сняжынкі) — у хату» — выганялі мух альховымі галінкамі. «Святы Сымон, гані мух вон».

**17** (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля пасля Узвышэння.*

**Народны каляндар.** 18—24 тыдзень Бабіна лета — старшыя жанчыны рупіліся закончыць сельскагаспадарчыя работы ў полі, каб у канцы зрабіць «засідкі» — пачатак хатніх талок, папрадак, вячорак. Засідкі заканчваліся хатняй талакой-застоллем, калі варыліся ў кожным рэгіёне адпаведныя, але розныя стравы. Наймалі музыку, спявалі, скакалі. Відаць, таму, што прыпадае на восеньскае раўнадзенства, амаль заўсёды стаіць цудоўнае надвор'е.

**19** (аўторак). **Народны каляндар.** *Цуды,* звязаныя з царкоўным святам Прачыстай, бо казалі: «Не так бойся Прачыстай, як Цуда яе»; «Мяне не святкуй, а святкуй маё Цуда».

**21** (чацвер). **Прав.** *Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы. (Другая Прачыстая, Малая Прачыстая, Другая Спажа, Багач, Багатуха, Багатнік, Багатая гаспожка, Другая Зельная.)*

**Народны каляндар.** *Багач* — старажытнае свята восеньскага багацця і дастатку. Сімвалам яго быў кошык з зернем і свечкай, які заносілі ў кожную хату і гумно. Жыта ў ім было з магічнага першага зжатага снапа, свечку рабілі пад спевы дажынкавых песень, накшталт:

*А ў нас сёння дажыначкі,*
*Дасць нам пан гарэлачкі*
*З поўнае барылачкі.*
*Ды пан гарэлкі не даў,*
*У каморачку схаваў,*
*У каморы пад лаўкай*
*Зарасла мураўкай.*

Свята — своеасаблівы плён года, але прыказка мудруе на будучае: «Багач — бярыся за рагач (старажытная назва сахі), ідзі пад авёс араць»; «Прыйшоў Багач - кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку», «Да Багача баба рабача, пасля Багача — хоць за плот валача».

**24** (нядзеля). **Народны каляндар.** *Тадора,* прысвятак («На Тадору ўсякае лета канчаецца»).

**26** (аўторак). **Ун.** *Перастаўленне апостала і евангеліста Яна Багаслова.*

**27** (серада). **Прав.** *Узвіжанне Жыватворчага Крыжа Гасподняга.*

**Народны каляндар.** *Узвіжанне (Уздвіжанне, Здзвіжанне, Звіжанне)* — свята руху, схову ўсяго, у першую чаргу вужоў, змей пад зямлю: «Усё ў схову здзвігаецца, каб мароз не пабіў»; «К Здзвіжанню ўсё павінна быць здзвінута». У валачобнай песні «На Узвіжанне трэба з поля збіраць, бульбу капаць, льнок сцяліць». Прыгожая легенда, як на чале з Царом-вужом з залатымі рожкамі на галаве, вужы, гадзюкі велічным войскам адыходзяць пад зямлю. Калі сустрэнеш іх, трэба разасласць белы абрус і пакланіцца Цару-вужу, тады ён скіне табе на абрус залаты ражок. Уладальнік яго атрымлівае незвычайную (змяіную) мудрасць, здольнасць чытаць чужыя думкі, на яго не дзейнічае змяіны яд.

**Вядуць: народны каляндар — Васіль ЛІЦВІНКА; царкоўны каляндар — Ірына КРЭНЬ.**

**Творчасць нашых чытачоў**

*Першыя вершы ў друку*




**На здымку:** Жнівень 1992 года. Каманда звышмарафонцаў, якая брала ўдзел у шматдзённым прабегу «Захаваем зямлю дзецям!» Трэці злева **Віктар Новік.**

**Віктар НОВІК**, чалавек сталага веку. Яму — 50 гадоў. Жыве і працуе ў Капылі. Прыхільнік здаровага ладу жыцця. Кандыдат у майстры спорту па лёгкай атлетыцы, спартсмен-звышмарафонец. На самых прэстыжных трасах былога СССР, Украіны, Беларусі, Еўропы ў камандным і асабістым заліках браў чэмпіёнства, займаў прызавыя месцы, прыносіў зборнай заліковыя ачкі. У Капылі працуе дзіцячым трэнерам, навучае дзяцей, як бы мовіць, шахматнай грамаце, рыхтуе з іх таксама бегуноў-стаераў. Між іншым, для іх некалькі год таму арганізаваў 11-кіламетровую трасу «Капыльскае калечка». Размаўляе па-беларуску. Піша вершы з юнацкіх часоў. Але да сённяшняй публікацыі іх нідзе не друкаваў. Як нам здаецца, — дарэмна, бо паэзія Віктара Новіка вельмі патрэбная цяперашняму нашаму грамадству.

*Віктар НОВІК*

## Жальба

**(да вынікаў рэферэндуму)**

Табе, мой браце, ветлівы і чулы,
Наўрад ці ўжо узняцца з небыцця...
Каб Слова беларускае пачулі,
не хопіць і трохвечнага жыцця.
Няўжо дапёк сабак бязродных лямант,
Што ты дазволіў замяніць, крывіч,
Зялёна-брудный бальшавіцкай плямай
Струмень зіхотка-палкае крыві?
Мой сцяг святы. Яму я верны буду.
...Яго трымаў Астрожскі леваруч,
А праваю пад Воршаю — прыблудаў
Крушыў — і выратоўваў Беларусь!
Касцюшкі геній ззяе над Айчынай,
Славуты па-за роднаю зямлёй.
Хацеў ён волю даць табе, хлапчына,
Ды быў няроўны з акупантам бой...
З крыжом і зоркай лютавалі каты,
Людзей у печы клалі як трыснёг...
Забыліся?! Хатынь і Курапаты!?
Яшчэ — Чарнобыль і хімічны смог!?
Наш радавод... Цяпер як звацца будзьма?
Табе ж маліўся, Божа, ўспамяні,
На «Катэхізісе» ў Нясвіжы Будны,
На роднай мове добры славянін!
Дзе слова наша? Дзе яно прапала?
Не знойдзеш, хоць паўсвета абыдзі...
Не здолелі ні Колас, ні Купала
Ірты расшыць ды гонар абудзіць.
І ўсё ж надзеяй мерай, браце, крок ты!
Збудуем дом — складзем за брусам брус.
Гэй, цесляры, ўздымайце вышай кроквы —
Тут будзе жыць святая Беларусь!

**І смех і грэх**

**Прэса-куламеса**

## Першыя памылкі

Не толькі ў сучасных газетах мы знаходзім прыкрыя памылкі. Няўлоўныя, яны мучылі ўсіх друкароў на свеце. Ды што друкароў? Нават у рукапісных кніжках, пісаных стараннымі капістамі ў ціхіх кляштарных келлях, можна знайсці памылкі. Нездарма ж на апошнім лістку сярэднявечнага кодэкса можна знайсці часам нататку: «si erravit scriptor, debes corrigere lector» («чытач, папраў памылкі скрыптара»).

Дробязная — усяго адна літара, — але не заўважаная стомленым вокам памылка магла кнігу сур'ёзнага зместуператварыць у пасмешышча. Карэктарам-пачаткоўцам, звычайна, апавядаюць, як калісьці, перад выданнем Брытанскай энцыклапедыі было вырашана не пусціць на яе старонкі ніводнай памылкі. Тысячы разоў правераныя тэксты выдання сапраўды маглі б дадаць гонару англійскім выдаўцам, але, на жаль, памылка ўлезла туды, дзе яе, відаць, і не шукалі: на вокладцы шыкоўнага тома было надрукавана слова, што адпавядае нашаму «Энцыклапудыя».

Друкарскія памылкі, баюць, нарадзіліся ў горадзе Майнцы, дзе ствараў першыя друкаваныя кнігі Ёган Гутэнберг. Менавіта ў ягонай лацінамоўнай Бібліі (1452—1455) няўлоўны хохлік перамяніў некалькі літар, а адну з іх выкінуў з матрыцы — яе відарыс адбіўся на «боце» старонкі (калі ўжываць скарынава слова). Вядома, Гутэнберг заўважыў памылкі і паправіў іх у 184-х экземплярах Бібліі. Але адна «бракаваная» старонка ўсё ж трапіла да людзей. Яна была выкарыстана, і гэты унікальны асобнік першага гутэнбергавага выдання захоўваецца ў Польшчы. Навукоўцы, што цікавяцца гісторыяй друкарства, удзячныя таму выпадку, бо ведаюць сёння, як выглядала металічная літара нямецкага вынаходніка.

Але яго калегу Ёгану Фусту сапраўды не пашанцавала. У ягонай кніжцы, так званым Майнцкім Псалтыры, што быў выдадзены ў 1459 годзе, на апошняй старонцы, якая адпавядае сённяшняму тытульнаму лісту, надрукавана: «Liber spalmorum» — Кніга спальмаў, замест «Liber psalmorum» — Кніга псалмоў.

**З. С.**

## Песні краіны самавараў

Грэцкі горад Науса ўжо колькі гадоў набыў вядомасць як месца правядзення фальклорных фестываляў, удзел у якіх бяруць выканаўцы з розных краін Еўропы. Удзельнікамі сёлятняга фестывалю сталі госці з 12 краін свету, у тым ліку і нашай.

Хто меў гонар прадстаўляць беларускую народную творчасць на такім прадстаўнічым форуме — «Харошкі», «Свята» ці нехта з выканаўцаў аўтэнтычнага фальклору? Не здагадаецеся — ансамбль песні і танцаў будаўнічага трэста № 8 горада Брэста «Сузор'е». Як аказалася, адсутнасць вядомасці на радзіме не стала перашкодай папулярнасці за мяжою: «Сузор'е» было прызнана адным з пераможцаў сёлетняга фестывалю, занесена ў спіс лепшых самадзейных калектываў — яго ўдзельнікаў і ўзнагароджана памятным залатым медалём.

Поспехам беларускіх выканаўцаў можна ганарыцца, але ці шмат хто спытае: які фальклор прадстаўляла «Сузор'е», даўшы больш дзесяці канцэртаў у трох гарадах Грэцыі — Наусе, Арыдэі ды Варгіі? Як аказалася, паводле інфармацыі «Белінфарма», «...гром апплодисментов сорвался с трибун, когда коллектив исполнял русскую «Катюшу».

Вядома, што ў вачах грамадскасці ўсяго свету краіны былога СССР дагэтуль успрымаюцца як часткі Расіі, бо менавіта так — RUSSIA — увесь свет семдзесят гадоў называў СССР. Гэты ж вобраз падмацавала «Сузор'е» ў вачах гледачоў з 12 краін, якія змаглі пераканацца: да Расіі, уяўлянай імі як край самавараў і балалаек, жыхары якога таньчаць «Казачок» і спяваюць «Кацюшу», непадзельна належыць і Беларусь.

Што такое незалежнасць, што робіць яе рэальнай? Думаецца, што не столькі акты, падпісаныя першымі асобамі дзяржавы, колькі грамадская свядомасць — разуменне людзьмі сваёй прыналежнасці да дзяржавы, сваёй моўнай, культурнай, нацыянальнай непадобнасці. Менавіта яно дазволіла захаваць сябе як народы раскіданым па ўсім свеце армянам ці яўрэям. Менавіта адсутнасць яго надае беларусам выгляд людзей з «краіны самавараў». Мы ствараем яго самі і гэта — нашая бяда. Ці можа віна?

**У. П.**



*Мілан БАШЫЧ*

## Незацяганыя фразы

❑ Дзе-хто любіць гарачае. Пакуль не апячэцца.

❑ Калі праўда, што хата трымаецца на жанчыне, а не на падмурках, тады ў якім куце знаходзіцца мужчына?

❑ Пакуль бацька ў службовай камандзіроўцы, матка вырашае прыватныя праблемы.

❑ Плыў ён па моры шчасця, ды пры з'яўленні піратаў зайшоў у шлюбную гавань.

❑ Як адбылося зацьменне мядовага месяца, дык абое перасталі верыць у светлую будучыню.

❑ Замест мазалёў усё больш сэрцаў на далоні.

❑ Хто пытае — не блукае, а хто блукае, той нікога ні пра што не пытае.

❑ Многія аплакваюць сваё каханне, нават і кракадзілавымі слязьмі.

❑ Жонка не паддаецца прагнозам. Ніколі не чакаеш, ды атрымліваеш то з вуснаў гром, то з вачэй залеву.

❑ Кажуць, што праўда ў віне. А ў чым тады няпраўда?

❑ У здаровым спартыўным целе павінен быць і здаровы спартыўны дух.

**Пераклаў з сербскай мовы Іван ЧАРОТА.**

**Пародыі**

*Георгій ЮРЧАНКА*

## Цяжкі роздум

*Лісцем шлях замецены.*
*. . . . . . . . . . . . . . .*
*Я падумаў тады*
*Пра свой верш.*

**Алесь Пісарык.**

Вісяць аблокі нізкія
З напоўненым вядром.
Былі мы ўчора блізкімі,
А сёння грымнуў гром.

Суцішана паволіцца
У хісткім бегу лёс.
Узлёты сэрца-вольніцы
Спускаюцца з нябёс.

Шляхі лісцём замецены,
Сцяжынак не відаць.
Выразныя адмеціны —
Сумоты злой пячаць.

Шчымлівую бяду маю
Ў запас не адзавеш.
Таму я горка думаю
Пра свой чарговы верш.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.



Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 3121

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3976 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 21.08.1995 г. у 15 гадзін.